# Змест

## Нашы аўтары

**КАРБАЛЕВІЧ Уладзімір Іванавіч,** кандыдат гістарычных навук, палітолаг, галоўны эксперт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў "Усход-Захад", галоўны рэдактар часопіса "Грамадзянская альтэрнатыва"

**КАЦОРА Уладзімір Аляксандравіч**, намеснік старшыні Гомельскага абласнога грамадзянскага аб'яднання "Грамадзянская ініцыятыва"

**НАВУМАВА Святлана Андрэеўна,** кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры паліталогіі Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы БДУ, дырэктар даследчых праграм Міжнароднага інстытута палітычных даследаванняў

**ПЛІСКА Міхаіл Казіміравіч,** палітолаг, галоўны рэдактар бюлетэня "Адкрытае грамадства", сябра палітрады Аб'яднанай грамадзянскай партыі

**РОЎДА Уладзімір Віктаравіч,** кандыдат філасофскіх навук, дацэнт кафедры паліталогіі БДУ

**САЖЫНА Варвара Уладзіміраўна,** кандыдат юрыдычных навук, дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта БДУ

**ЮХО Іосіф Аляксандравіч,** доктар юрыдычных навук, прафесар кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта БДУ



*Уладзімір Роўда,*
*кандыдат філасофскіх навук, дацэнт кафедры паліталогіі БДУ*

# Нацыянальная ідэя і фарміраванне грамадзянскай супольнасці ў Беларусі

«Нацыяналізм з'яўляецца неад'емнай рысай сучаснасці і асноўнай рухаючай сілай гістарычнага развіцця сучаснага сусвету» – гэтыя словы Эрнста Гелнера, класіка палітычнай сацыялогіі, з прадмовы да апошняй кнігі, якая выдадзена ўжо пасля смерці аўтара, выклікаюць раздражненне і неразуменне ў «стопрацэнтных» лібералаў і камуністаў, якія прывыклі мысліць глабальнымі катэгорыямі і даўно пахавалі нацыяналізм ці разглядаюць яго ў якасці маргінальнай з'явы сучаснага грамадства. Падзеі канца 80-ых – пачатку 90-ых гадоў ва Усходняй Еўропе і былым СССР прымусілі многіх ліберальных тэарэтыкаў звярнуць пільную ўвагу на нацыянальную ідэю, бо менавіта яна адыграла важную ролю як у мабілізацыі масавай падтрымкі антыкамуністычнай апазіцыі, так і ў трансфармацыі дзяржаў гэтага рэгіёна ад таталітарызму да дэмакратыі.

Само прызнанне ролі нацыяналізму не азначае аб'ектыўных і непрадузятых адносін да яго сутнасці, форм праяўлення і сувязі з дэмакратызацыяй. Большасць ліберальных тэарэтыкаў займаецца тым, што шатландскі вучоны Том Нейрн справядліва назваў «дэманізацыяй нацыянальнай ідэі». У 1994 г. часопіс «Тайм» у артыкуле, прысвечаным глабальным футуралагічным прагнозам, намаляваў такі партрэт нацыяналізму: «Элементарны, падобны на пласцікавае ці зробленае з гліняных цаглін надмагілле монстр уздымаецца са старой карты Цэнтральнай Еўропы. Яго прымітыўнае бяздушнае вока знаходзіцца недзе каля Вільнюса. Ніжэй наноў выраслага носа знаходзіцца жахлівая, падобная на яму пашча, якая ўпіваецца ў кантынент ад Мюнхена да Кіева. Да гэтага яна пераживала і выплюнула атручаныя ядавітай слінай Югаславію і Румынію. Ніякія семантычныя хітрыкі не патрэбны, каб пазнаць гэты вобраз. Праз шчыльна сціснутыя зубы праглядае лёгкачытэльны надпіс: «нацыяналізм». Але калі раптам хто-небудзь не здагадаецца, яму дапаможа велізарны надпіс над малюнкам: «СТАРЫ ДЭМАН».

Адраджэнне нацыянальных рухаў ва Усходне-Цэнтральнай Еўропе, якое суправаджаецца гвалтам, падаецца лібералам нават не выдаткамі гістарычнага прагрэсу, які яны справядліва звязваюць з крахам камуністычных рэжымаў, але нечым, што пагражае самой сутнасці дэмакратычных пераўтварэнняў, стварае новыя бар'еры паміж цывілізаваным Захадам і «дзікім» Усходам, узмацняе нестабільнасць на еўрапейскім кантыненце. Пры гэтым забываецца, што антыкамуністычныя рэвалюцыі ў гэтым рэгіёне былі трыадзіным працэсам: па-першае, дэмакратычным народным паўстаннем супраць аднапартыйнай аўтакратыі і дзяржаўнага тэрору; па-другое, эканамічным рухам пратэсту супраць антырынкавай каманднай эканомікі; нарэшце, па-трэцяе, адраджэннем нацыянальнага або нацыянальна-рэлігійнага духу, скіраванага супраць камуністычнага інтэрнацыяналізму (на справе – разнавіднасці імперскай свядомасці).

Спробы штучна супрацьпаставіць трэці кампанент данай трыяды двум першым з'уляецца абсалютна бясплённай задумай, якая сведчыць пра неразуменне гістарычнай сітуацыі, што склалася ва Усходне-Цэнтральнай Еўропе ў канцы XX стагоддзя, і пра сілу стэрэатыпаў у заходняй ліберальнай свядомасці ў адносінах да сучаснага нацыяналізму. Узятае ў палон універсалісцкімі схемамі «канца гісторыі» і перамогі лібералізму ў глабальным маштабе, яно не робіць сабе справаздачы ў тым, што «універсальнасць» можа азначаць у тым ліку і універсальную сістэму прыгнёту і нават глабальную сістэму апартэіду. Антыутопія у стылі «1984 г.» не стала рэальнасцю толькі таму, што народы Еўропы і Паўночнай Амерыкі, нягледзячы на ўвесь універсалізм амерыканскай, французскай і індустрыяльнай рэвалюцый, знайшлі ў сабе сілы «прывіць «ізм» на нацыянальнае дрэва... Менавіта працэс нацыянальнага будаўніцтва, пачынаючы з 1750 г., да цяперашняга часу ратуе народы ад імперыялістычнага варварства», лічыць Том Нейрн.

«Дэманізатары» нацыяналізму акцэнтуюць сваю ўвагу на тых выпадках, калі адраджэнне нацыянальнай ідэі прывяло да вострых этнічных канфліктаў (югаслаўскі варыянт), да паразітавання на ёй былых камуністаў (Славакія). З гэтых прыкладаў робіцца абагульненне, што сучасны нацыяналізм –

гэта адна з галоўных перашкод на шляху посткамуністычнага пераходу, развіцця рынкавай эканомікі, дэмакратыі, грамадзянскай супольнасці і правоў чалавека.

Дзіўным чынам яны абыходзяць маўчаннем так званы «беларускі варыянт» трансфармацыі. Нізкі ўзровень нацыянальнай самасвядомасці ў гэтай індустрыяльнай краіне, што размешчана ў самым цэнтры Еўропы, з 10-мільённым урбанізаваным і адукаваным насельніцтвам, здавалася б, ствараў ідэальныя магчымасці для эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу ў яговым заходнім універсалісцкім разуменні. Аднак ліберальны эксперымент у РБ з трэскам праваліўся. Сёння гэтую краіну называюць «чорнай дзіркай» у цэнтры Еўропы. Наўрад ці хто-небудзь усумніцца ў тым, што сучасная Беларусь, у адрозненне ад яе суседзяў, рухаецца не да дэмакратыі, а да таталітарызму. На свабодных дэмакратычных выбарах 1994 г. у РБ атрымаў перамогу адзін з самых адыёзных палітыкаў на былой постсавецкай прасторы і ўсталяваў жорсткую дыктатуру асабістай улады. Тут адноўлена камандная эканоміка, знішчаны парламентарызм, грубейшым чынам парушаюцца правы чалавека і асноўныя палітычныя свабоды.

Аналіз ролі нацыянальнай ідэі ў працэсе станаўлення грамадзянскай супольнасці ў краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы і ў Рэспубліцы Беларусь – вось асноўная тэма данага артыкула.

## Нацыянальная ідэя як форма артыкуляцыі грамадзянскай супольнасці

Сучасная тэорыя дэмакратыі грунтуецца на супрацьпастаўленні двух асноўных мадэляў народаўладдзя: «папулісцкай», якая вынікае з ідэі актыўнага палітычнага ўдзелу масаў, дыктатуры большасці, што прэтэндуе на выказванне «ўсеагульнай волі», і «ліберальнай», якая абапіраецца на памяркоўны палітычны ўдзел, народнае прадстаўніцтва, уладу закона, ажыццяўленне ўлады большасці пры павазе правоў меншасці. Як сведчыць вопыт шэрага краін, у выпадку рэалізацыі першай мадэлі на працягу пэўнага адрэзку часу яна немінуча абернецца ў дыктатуру, другая ж з'яўляецца стабільнай палітычнай формай, якая забяспечвае спрыяльныя ўмовы для развіцця рынкавай эканомікі і росту дабрабыту грамадзян.

Гэтыя мадэлі народаўладдзя парадаксальным чынам праяўляюць сябе ў працэсе пераходу ад таталітарызму да дэмакратыі былых камуністычных краін Еўропы. Першая дамінуе на пачатковых этапах змяненняў сістэмы, калі ажыццяўляецца пераход улады ў рукі новай, на рэфарматарства арыентаванай эліты і яе кансалідацыя; другая становіцца пераважаючай на наступных стадыях пераходнага перыяду, якія звязаны з ажыццяўленнем мэтанакіраваных рынкавых рэформаў.

Польская даследчыца Ядвіга Станішкіс прапанавала назваць даныя фазы посткамуністычнай трансфармацыі этапамі «палітычнай мабілізацыі» і «палітычнай дэмабілізацыі» мас. Мабілізацыя мас ажыццяўляецца дэмакратычнай апазіцыяй, якая імкнецца ў ходзе антытаталітарнай рэвалюцыі забяспечыць перавагу сілы на сваю карысць і адхіліць аўтарытарны ўрад ад улады. Дэмабілізацыя масавага палітычнага ўдзелу абумоўлена працэсамі фарміравання эканамічнага і палітычнага рынкаў, індывідуалізацыяй грамадскай свядомасці, што ў канчатковым выніку спрыяе незваротнасці сацыяльных пераўтварэнняў.

Найважнейшай задачай дэмакратычных сіл у ходзе першага этапу трансфармацыі з'яўляецца знаходжанне папулярных палітычных ідэй і лозунгаў, пры дапамозе якіх можна было б аб'яднаць вакол сябе максімальную колькасць прыхільнікаў ва ўмовах, калі грамадства яшчэ не структуравалася знутры і дамінуючымі застаюцца формы масавай, а не індывідуальнай свядомасці. У большасці посттаталітарных краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы першапачатковымі формамі артыкуляцыі грамадзянскай супольнасці, якая адраджаецца, выступілі нацыянальная ідэалогія і рэлігійны фундаменталізм. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што нацыяналізм заўсёды шматфункцыянальны. Часта ён выкарыстоўваецца былой камуністычнай наменклатурай як сродак выратавання асабістай улады і супрацьдзеяння ліберальна-дэмакратычным рэформам. Часам ён выступае зброяй у руках рэгіянальных эліт, якія змагаюцца за пашырэнне свайго ўплыву на пэўныя сферы, што кантралююцца прадстаўнікамі іншай нацыянальнасці. Нацыяналізм, кім бы ён ні выкарыстоўваўся – элітай ці контрэлітай, з цяжкасцю паддаецца кантролю і заўсёды мае тэндэнцыю злучэння з масавай плебісцытарнай, а не прадстаўнічай ліберальнай дэмакратыяй. Тым не менш нацыянальнае адраджэнне не толькі непазбежнае з-за адсутнасці іншых асноў грамадзянскай супольнасці, але і неабходнае як першы крок на шляху да пераадолення атамізацыі і індыферэнтнасці соцыуму – наступстваў таталітарызму.

Немінучасць панавання нацыяналізму на першых этапах трансфармацыі абумоўлена наступнымі прычынамі:

1) Даная ідэалогія з'яўляецца найбольш інклюзіўнай, бо дазваляе уключаць у свае рамкі прыхільнікаў самых розных ідэалагічных плыняў: ад камуністаў-рэфарматараў злева да кансерватараў справа. Яна – натуральная аснова нацыянальнага кансенсуса, дасягненне якога дазваляе прадухіліць «вайну ўсіх супраць усіх» і пачаць канструктыўны працэс рынкава-дэмакратычных рэформаў.

2) Гэтая ідэалогія валодае вялікім мабілізацыйным патэнцыялам і выступае адзіным рэальным канкурэнтам арыентаванага на рэваншызм неакамунізму.

3) Нацыяналізм – гэта аб'ектыўная форма грамадскай свядомасці, уласцівая эпосе індустрыялізму. Ідэя Маркса аб тым, што індустрыяльная фаза развіцця разам з ліквідацыяй капіталізму прывядзе да знішчэння нацыянальных перагародак, цалкам збанкрутавала. XX стагоддзе па праву можна назваць стагоддзем нацыяналізму і нацыянальных дзяржаў.

## «Асаблівы шлях» Беларусі

Як жа на гэтым фоне выглядае станаўленне грамадзянскай супольнасці ў Беларусі? У апошні час у навуковай і публіцыстычнай літаратуры з'яўляецца ўсё больш і больш публікацый пра беларускую спецыфіку і асаблівы шлях развіцця гэтай дзяржавы Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Наколькі апраўданым з'яўляецца гэты пункт гледжання?

На наш погляд, спецыфічныя асаблівасці самаарганізацыі беларускага грамадства і станаўлення нацыянальнай дзяржаўнасці толькі пацвярджаюць дзейснасць агульных заканамернасцяў, якія праявіліся ў працэсе посттаталітарнай трансфармацыі ў нашых суседзяў.

Як у Расіі і на Украіне, таталітарызм у Беларусі насіў арганічны, а не навязаны звонку характар. Ён пусціў глыбокія карані ў свядомасці правячай эліты, контрэліты, мас. Таму дастасавальна да Беларусі гаворка павінна ісці не пра адраджэнне грамадзянскай супольнасці, а пра доўгі і супярэчлівы працэс яе фарміравання знізу. Пры гэтым першая фаза пошуку палітычнай ідэнтычнасці і мабілізацыі мас рэфарматарскай контрэлітай у Беларусі не завершана ў сілу як аб'ектыўных унутраных умоў, так і суб'ектыўных памылак лідэраў апазіцыі.

Пры адносна спрыяльных знешніх умовах рынкава-дэмакратычнай трансфармацыі, якая склалася пасля распаду СССР у 1991 г., Беларусь – гэта адзіная краіна ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе, дзе не адбылася не толькі поўная змена правячых эліт, але нават трансфармацыя посткамуністычнай эліты праз яе зрашчэнне з памяркоўнымі рэфарматарамі. Прэзідэнцкія выбары прывялі да ўлады другі эшалон правінцыйнай наменклатуры, яшчэ менш падрыхтаваны і зацікаўлены ў рэформах, чым першы эшалон на чале з Кебічам.

Найважнейшай асаблівасцю «беларускага шляху» з'явілася няздольнасць нацыянальнай ідэі выступіць формай артыкуляцыі грамадзянскай супольнасці, якая нараджаецца. Вынікам гэтага сталі тыя парадоксы, якія прыкоўваюць да сабе пільную ўвагу грамадскасці шэрага еўрапейскіх краін у апошні час.

Беларускі ўрад уяўляецца адзіным у свеце, які з усіх сіл імкнецца да пазбаўлення нацыянальнага суверэнітэту.

Беларускі народ смела можа прэтэндаваць на месца ў Кнізе рэкордаў Гінеса пасля ягонай адмовы на рэферэндуме ад роднай мовы і гістарычнай сімволікі.

Культура карэннай нацыі ў Беларусі прыгнятаецца і дыскрымінуецца як культура нацыянальнай меншасці ў недэмакратычнай дзяржаве.

Патэнцыял антыкамуністычнага папулізму, не скарыстаны эфектыўна дэмакратычнай апазіцыяй у пачатку 90-ых гадоў, у сярэдзіне дзесяцігоддзя ператварыўся ў патэнцыял папулізму настальгічнага, які стаўся асновай прыходу да ўлады А.Лукашэнкі і працягвае служыць яму сёння ў якасці галоўнай апоры аўтарытарнай дыктатуры. Раз'яднанае, атамізаванае, маральна дэградуючае грамадства не можа ўсвядоміць свае інтарэсы і самаарганізавацца для іх абароны. Уцёкі ў агульны лёс, якія знаходзяць сваё адлюстраванне ў пошуках дзяржавы, з якой можна было б «інтэгравацца», ператвараецца ў Беларусі ва ўцёкі ад лёсу і адказнасці, а ў канчатковым выніку ва «ўцёкі ад свабоды».

## У пошуках выхаду з тупіка

Адсутнасць відавочнага прагрэсу ў правядзенні рынкава-дэмакратычных пераўтварэнняў робіць усё больш і больш актуальным знешні выклік для Беларусі, звязаны з хуткай сацыяльна-эканамічнай трансфармацыяй суседніх дзяржаў. Беларуская кіруючая эліта, нягледзячы на ўсе размовы аб інтэграцыі, фактычна асуджае сваю краіну на ізаляцыю і адсталасць. Раўнапраўная інтэграцыя прадугледжвае ўзаемную зацікаўленасць у збліжэнні аднародных сацыяльна-эканамічных арганізмаў. Беларуская сітуацыя прымушае гаварыць хутчэй пра перспектывы нераўнапраўнай каланіяльнай залежнасці ці аншлюсу, але не інтэграцыі ў еўрапейскім разуменні гэтага тэрміна. Натуральна, што даная перспектыва не можа разглядацца як выхад з глыбокага эканамічнага крызісу, а значыцца, і як сродак змякчэння сацыяльнай напружанасці ў грамадстве. Таму можна прагназаваць у бліжэйшай будучыні новы віток масавай актыўнасці, але ўжо пад антыпрэзідэнцкімі лозунгамі. Пралогам гэтых падзей з'явіліся масавыя маніфестацыі моладзі ў Мінску вясной 1996 і 1997 гг.

У якой жа ступені дэмакратычныя сілы Беларусі гатовыя для таго, каб узначаліць «трэцюю хвалю» папулізму ў рэспубліцы? Якія ўрокі вывелі яны з мінулых памылак і паражэнняў? Няўдача нацыянальнага адраджэння прывяла ў першай палове 90-ых гадоў да фарміравання дзвюх дэмакратычных плыняў, зарыентаваных на супрацьлеглыя мадэлі артыкуляцыі грамадзянскай супольнасці. Першая, якую можна ўмоўна назваць ліберальна-дэмакратычнай, бачыла выйсце ў пошуках альтэрнатывы нацыяналізму, як форме палітычнай самаідэнтыфікацыі грамадства. Такая альтэрнатыва бачылася або ў класічным лібералізме, які абвяшчае правы і свабоды асобы найвышэйшай каштоўнасцю, якой падпарадкоўваюцца нацыянальныя і сацыяльныя інтарэсы, або ў сінтэзе ліберальных і кансерватыўных ідэй, або ў чыстым тэхнакратызме і

рацыяналізаванай свядомасці прафесійных эліт і часткі «прагрэсіўна думаючай бюракратыі». У любым выпадку рынкавым пераўтварэнням адводзілася першае месца ў параўнанні з нацыянальным адраджэннем. Выразнікам данага пункту гледжання з'яўляюцца партыі ліберальнай арыентацыі і журналісты незалежных, у асноўным рускамоўных выданняў. Асноўнай праблемай, з якой сутыкаецца ліберальна-дэмакратычная плынь, – гэта адсутнасць моцнага мабілізацыйнага патэнцыялу ў добра тэарэтычна распрацаваных ідэяў у грамадстве, якое толькі-толькі становіцца на шлях рынкавых рэформ і ў якім адсутнічае шматлікі «сярэдні клас», што лічыць гэтыя ідэі сваімі. Нават у значна далей за Беларусь прасунутых па шляху рэформ краінах, напрыклад у Польшчы, ліберальная свядомасць застаецца дастаткова вузкай і маргінальнай. Вядомы польскі даследчык Шацкі выкарыстоўвае тэрмін «праталібералізм» для характарыстыкі тых формаў грамадскай свядомасці, якія эвалюцыянуюць у кірунку еўрапейскіх ідэалагічных узораў, але яшчэ надта далёкія ад іх.

Другі кірунак, умоўна названы нацыянальна-дэмакратычным, прадстаўлены БНФ і шэрагам іншых дробных партый, якія хінуцца да Фронту, а таксама беларускамоўнымі інтэлектуаламі, бачыў ратаванне ў доўгатэрміновай і карпатлівай працы па фарміраванню нацыянальнай свядомасці ў грамадстве, выхаванню «свядомых беларусаў». Паводле іх меркавання, усе спробы рэфармацыі нацыянальна-індыферэнтнага грамадства асуджаны на правал.

Як сведчыць палітычная тэорыя, пацверджаная практычным вопытам многіх і многіх краін, ажыццяўленне маштабнай рэсацыялізацыі, а менавіта такая задача стаіць сёння перад беларускім грамадствам, немагчымае без валодання сапраўднымі рычагамі дзяржаўнай улады. Гэта значыць, іншымі словамі, чарговасць задач, якія вырашаюцца нацыянальна-дэмакратычнай аппазіцыяй, павінна была б быць супрацьлеглай: спачатку прыход да ўлады, апіраючыся на той народ, які ёсць у наяўнасці (палітычная задача), а потым яго нацыянальнае «перавыхаванне» (культурная задача).

Падобная недаацэнка «палітыкі» была ўласцівая цэламу шэрагу апазіцыйных плыняў у краінах Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў перыяд іх барацьбы з камуністычным таталітарызмам. Тэарэтычным адлюстраваннем данай пазіцыі стала канцэпцыя «антыпалітычнай палітыкі», распрацаваная такімі вядомымі ўсходнееўрапейскімі дысідэнтамі, як Вацлаў Гавел, Адам Міхнік, Георгі Конрад. У адпаведнасці з ёй, дысідэнты не павінны былі распрацоўваць палітычную альтэрнатыву камунізму, але хутчэй альтэрнатыву маральную, светапоглядную, ладу жыцця. Антыкамуністычная рэвалюцыя адхілялася імі не з-за яе празмернага радыкалізму, а таму, што любая палітычная рэвалюцыя недастаткова радыкальная. Гавел заклікаў да ажыццяўлення ў першую чаргу рэвалюцыі экзістэнцыяльнай і маральнай. Для гэтага трэба было працаваць па стварэнню «паралельнай ці грамадзянскай супольнасці» – альтэрнатывы камуністычнай сістэме. Новая эканамічная і палітычная мадэлі, на ягоную думку, павінны былі стаць вынікам глыбокай экзістэнцыяльнай перабудовы грамадства.

Разлічаная на доўгую гістарычную перспектыву, канцэпцыя «антыпалітычнай палітыкі» атрымалася негрунтоўнай побач з канкрэтнымі сацыяльна-эканамічнымі і палітычнымі праблемамі, з якімі сутыкнуліся краіны Цэнтральна-Усходняй Еўропы ў канцы 80-ых гадоў. У выніку – гістарычны перапом 1989 г. не быў забяспечаны тут ідэалагічна і стаўся «рэвалюцыяй без рэвалюцыйнай тэорыі».

Несумненна, што недаацэнка палітычнага фактару ў посттаталітарнай трансфармацыі грамадства праявілася і ў поглядах лідэраў нацыянальна-дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі. Супрацьпастаўленне амаралізму і нацыянальнаму нігілізму ўладаў маральнай і нацыянальна акрэсленай палітыкі не ўлічвала сацыяльных рэалій Беларусі канца 80-ых – пачатку 90-ых гадоў. Барацьба за ўладу паўставала ў вачах лідэраў БНФ у якасці мэты, падпарадкаванай нацыянальна-культурнаму адраджэнню. Пераацэньвалася значэнне суверэнітэту беларускай дзяржавы, дасягнутага ў выніку знешняга збегу абставін, а не працяглай і мэтанакіраванай нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага народа. Адсутнічала разуменне таго, што палітыка «культурніцтва», якая ажыццяўлялася без дзяржаўнай падтрымкі ва ўмовах фактычнага разбурэння сістэмы нацыянальнай адукацыі асуджана на няўдачу, яна ў стане толькі на працягу абмежаванага перыяду ўзнаўляць беларускую культуру як культуру меншасці, загнанай у гета.

Такім чынам, і першая, і другая дэмакратычныя плыні не ў стане вырашыць галоўную задачу, якая стаіць сёння перад апазіцыйнымі сіламі рэспублікі: узначаліць масавыя выступленні пратэсту і на іх хвалі дэмакратычным шляхам забяспечыць перадачу ўлады рэфарматарскім сілам грамадства.

## Ці мае перспектывы нацыяналізм у канцы XX стагоддзя?

Усведамленне тупіковасці сітуацыі, у якой апынулася апазіцыя, прымушае яе ў апошні час прадпрымаць намаганні ў пошуку альтэрнатыўных форм артыкуляцыі грамадзянскай супольнасці. Найбольш перспектыўным варыянтам, на наш погляд, з'яўляецца пераасэнсаванне нацыянальнай ідэі або «неанацыяналізм».

Пад нацыяналізмам тут разумеецца палітычны прынцып, які зыходзіць з неабходнасці супадзення палітычнага і нацыянальнага гуртаванняў. У сваей класічнай рабоце «Нацыі і нацыяналізм» Эрнэст Гелнер вызначае нацыю як «людзей, якія аб'яднаны палітычна (ці імкнуцца да палітычнага аб'яднання) з усімі тымі і толькі тымі, хто падзяляе іх стандартызаваную («высокую») культуру». Такім чынам, нацыя ўяўляецца адзінствам трох асноўных кампанентаў: валявога, які знаходзіць сваё выяўленне ў самаідэнтыфікацыі людзей з пэўным этнасам; культурнага, які праяўляецца ў развіцці стандартызаванай («высокай», по вызначэнню Э.Гелнера) культуры як сродку камунікацыі азначанага супольніцтва; палітычнага, які рэалізуецца ў нацыянальнай дзяржаве. Гегель у свой час пісаў, што «нацыі могуць доўга развівацца – да таго часу, пакуль не дасягаюць самарэалізацыі ў дзяржаве». Дадзяржаўны перыяд – гэта дагістарычны перыяд існавання нацый; сапраўдная гісторыя пачынаецца толькі з моманту самаарганізацыі нацый у дзяржавах.

Калі у даіндустрыяльную эпоху вялікая разнастайнасць культур і ладаў жыцця слаба звязаных паміж сабою супольніцтваў не вяла да супадзення культурных і палітычных межаў, а такім чынам, і да фарміравання нацый і нацыяналізму, то індустрыяльная эпоха, наадварот, стварае аб'ектыўныя ўмовы для росквіту нацыяналізму. У першую чаргу гэта звязана з арыентацыяй індустрыяльнага грамадства на хуткі і пастаянны эканамічны рост, узрастаннем ролі гарызантальнай і вертыкальнай мабільнасці, надзённай патрэбай у камунікацыі з дапамогай стандартызаванай культуры, якая абараняецца і развіваецца дзяржавай. Натуральна, што не ўсе нацыянальныя культуры змаглі пераўтварыцца ў нацыі і стварыць уласныя дзяржавы. Гэты працэс суправаджаецца жорсткай канкурэнтнай барацьбой; і калі адна «высокая» культура аказваецца не ў стане абслугоўваць інтарэсы пэўнага індустрыяльнага супольніцтва, то гэта робіць за яе іншая «высокая» культура, якая імкнецца да экспансіі свайго ўплыву, у тым ліку і палітычнага. Вакууму тут быць не можа, ён хутка запаўняецца.

Нешта падобнае адбылося ў Беларусі ў эпоху індустрыялізацыі. Працэс фарміравання нацыі, які пачаўся ў канцы XIX – пачатку XX стагоддзяў, быў гвалтоўна прыпынены пасля зацвярджэння камуністычнай дыктатуры. Псеўдадзяржава БССР была не ў стане стрымаць працэс экспансіі саветызаванай «высокай» рускай культуры, якая стала дамінаваць у гарадах, выціснуўшы «высокую» беларускую культуру на перыферыю грамадскага жыцця. Хуткая урбанізацыя ў 50-ыя – 70-ыя гады яшчэ больш абвастрыла гэтую сітуацыю. Перасяляючыся ў гарады, жыхары беларускіх вёсак вымушаны былі адаптавацца да пераважаючага саветызаванага рускамоўнага асяроддзя. Так ішоў працэс фарміравання «савецкіх беларусаў», якія складаюць сёння пераважную большасць грамадзян рэспублікі.

Сітуацыя карэнным чынам змянілася пасля распаду СССР і ўтварэння беларускай незалежнай дзяржавы. Праявілася яшчэ адна спецыфічная рыса Беларусі – незалежная дзяржава ўзнікла раней за сфарміраваную ў поўным аб'еме нацыю. Палітычная абалонка нацыі атрымалася амаль не напоўненай валявым і культурным зместам.

Ці можна ў такім выпадку называць беларускую дзяржаву з поўнай на тое падставай нацыянальнай? Думаю, што нельга. Калі яшчэ ў першыя гады незалежнасці дзяржава і спрабавала нешта прадпрымаць для развіцця беларускай культуры, то пасля 1994 г. фактычна была аднаўлена і атрымала яшчэ больш шырокі размах старая палітыка савецкай русіфікацыі. І гэта не выпадкова: прыйшоўшы да ўлады разам з Лукашэнкам кіруючы клас мог утрымацца на плаву толькі пры ўмове працягу масавага ўзнаўлення сваёй галоўнай сацыяльнай апоры – дэнацыяналізаваных люмпенскіх слаёў. Суверэнная Беларусь сталася аскепкам савецкай імперыі, які захаваўся ў крыху пераўтвораным выглядзе пасля распаду СССР. Нядзіўна таму, што суверэнітэтам дзяржавы працягвае гандляваць яе ўрад. Падобныя дзяржаўныя ўтварэнні з'яўляюцца вельмі нетрывалымі. Ім належыць ці стаць часткай новай імперыі, ці пераўтварыцца ў сапраўдную нацыянальную дзяржаву ў выніку вырашэння галоўнага палітычнага пытання на карысць нацыянальна-дэмакратычных сіл.

Няўлік гэтай спецыфікі Беларускім народным фронтам у першыя гады сваёй дзейнасці, акцэнтаванне ўвагі на нацыянальным адраджэнні, хуткай беларусізацыі не дазволіў апазіцыі апынуцца ва ўладзе ў пачатку 90-ых гадоў, а «імідж» Фронту як нацыянал-радыкальнай сілы, які склаўся ў грамадскай свядомасці, прывёў яго да паражэння на прэзідэнцкіх 1994 г. і парламенцкіх 1995 г. выбарах.

З другога боку, пераацэнка ролі рацыянальнага фактару ў паводзінах беларускага электарату і недаацэнка фактару эмацыянальнага не дазволілі ліберал-дэмакратам стаць рэальнай «трэцяй сілай» у рэспубліцы ў сярэдзіне 90-ых гадоў. Адносны поспех АГП на парламенцкіх выбарах 1995 г. не перакрэслівае гэтай высновы, бо пераможцамі сталі хутчэй яркія, вядомыя ў краіне асобы, а не папулярная партыя – носьбіт пэўнай ідэалогіі.

## Два варыянты дзяржаўнай ідэалогіі

Падзеі апошніх гадоў дазваляюць нам зрабіць яшчэ адзін важны вывад. Нягледзячы на ўсю перашапачатковую нежыццяздольнасць Беларускай дзяржавы, ля руля якой у 1994 г. сталі адкрыта антынацыянальныя сілы, яна працягвае існаваць і мусіць захаваць сябе ў агляднай будучыні дзякуючы, у першую чаргу, знешнім фактарам. Гучныя заявы прэзідэнтаў Беларусі і Расіі аб поўнай гатоўнасці да аб'яднання дзвюх братніх славянскіх дзяржаў упіраюцца ў форму такога аб'яднання. Беларускі бок настойвае на канфедэратыўным саюзе роўных, Расія ж хацела б бачыць Беларусь аўтаномным суб'ектам у складзе федэрацыі, таму што ў адваротным выпадку роўных з Беларуссю правоў будуць патра-

бавацъ іншыя суб'екты РФ, што можа прывесці ў канчатковым выніку да распаду Расіі.

Калі гаварыць аб адносінах грамадскай думкі краіны да гэтага пытання, то сацыялагічныя апытанні сведчаць, што большасць грамадзян Беларусі шкадуе аб распадзе СССР, але тая ж самая большасць не верыць у рэальную магчымасць аднаўлення Саюза. Што датычыць яднання з Расіяй, то, нягледзячы на тое, што за эканамічную і палітычную інтэграцыю дзвюх дзяржаў выказваецца больш паловы рэспандэнтаў, толькі нязначная меншасць іх гатовая пайсці на поўную страту суверэнітэту і ўключэнне Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі на правах аўтаномнай рэспублікі. Улічваючы той факт, што эканамічная інтэграцыя з усходнім суседам дае вельмі невялікую аддачу, што змушана прызнаць нават афіцыйнае беларускае кіраўніцтва, можна палічыць, што пазіцыі прыхільнікаў дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь будуць умацоўвацца і надалей. У данай сітуацыі вылучэнне дэмакратычнай апазіцыяй абноўленай нацыянальнай ідэі як асновы для нацыянальнага кансенсуса і платформы для ажыццяўлення мэтанакіраванага рэфарматарскага курсу можа адыграць вырашальную ролю ў змяненні суадносінаў сіл у краіне.

Абноўленая нацыянальная ідэя, на наш погляд, павінна грунтавацца на прызнанні беларусамі ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь незалежна ад іх мовы, культуры, рэлігіі і г. д. Ва ўсіх іх агульная радзіма, агульны лёс, агульныя карэнныя інтарэсы, роўныя правы і абавязкі.

Найважнейшая задача ўсіх грамадзян краіны на сучасным этапе – гэта захаванне і ўмацаванне незалежнасці Беларусі. У сучасных умовах гэта азначае пераўтварэнне Рэспублікі Беларусь у нацыянальную дзяржаву праз вырашэнне найважнейшай палітычнай праблемы: ліквідацыі аўтарытарнага дыктатарскага рэжыму і забеспячэнне дэмакратычнага пераходу ўлады ў рукі шырокай антыдыктатарскай кааліцыі. Толькі пасля вырашэння гэтай задачы можна весці гаворку пра шырокамаштабную палітыку беларусізацыі, якая б вялася без ушчамлення інтарэсаў прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

Такім чынам, абноўленая нацыянальная ідэя (неанацыяналізм) пераносіць акцэнты з валявога і культурнага аспектаў нацыі на палітычны аспект. Гэта, па нашаму меркаванню, дазваляе аб'яднаць усе апазіцыйныя сучаснаму рэжыму плыні ў шырокі дэмакратычны рух на дзяржаўных пазіцыях; ствараe ўмовы для істотнага пашырэння сацыяльнай базы дэмакратычных сілаў; надае агульнадэмакратычнай ідэалогіі прывабную эмацыянальную афарбоўку; дазваляе пераадолець крайнасці і абмежаванасць этнацэнтрызму; адкрывае шлях для інтэграцыі Беларусі ў Еўропу нацый.

Пераасэнсаванне нацыяналізму адбываецца ў Рэспубліцы Беларусь як мінімум з 1994 года, калі ў ходзе прэзідэнцкай выбарчай кампаніі БНФ высунуў «дзяржаўніцкую» ідэю ў якасці асноўнага прыярытэту сваёй палітыкі. На жаль, у той час было ўжо позна і немагчыма стварыць новы прывабны «іміджʼ» Фронту, улічваючы кансерватызм грамадскай свядомасці і яго пастаянную апрацоўку ў антынацыянальным духу афіцыйнымі СМІ. Ліберальным адлюстраваннем гэтай ідэі стала канцэпцыя «Наш дом Беларусь», сфармуляваная А.Фядутам і экспертамі Фонду «Беларуская перспектыва» вясной і летам 1996 г. На наш погляд, нацыянальна-дэмакратычная і ліберальная версіі дзяржаўнай ідэалогіі блізкія паміж сабою і дазваляюць сфарміраваць аснову базіснай інтэгратыўнай ідэалогіі беларускай дэмакратычнай апазіцыі. Як гэта ні парадаксальна, але апазіцыя, якая выказвае і фарміруе інтарэсы грамадзянскай супольнасці, што цяпер нараджаецца, вылучае дэмакратычны варыянт этатысцкай ідэалогіі, у той час як афіцыйныя ўлады ў Беларусі дэ-факта стаяць на антыэтатысцкіх пазіцыях. Каб пазбегнуць непаразуменняў, мы павінны звярнуць увагу на тое, што тэрмін «этатызм» разумеецца тут у шырокім, а не ў вузкім бюракратычным сэнсе слова, г. зн. як сукупнасць ідэй і поглядаў, якія абгрунтоўваюць неабходнасць прававой нацыянальнай дзяржавы як натуральнага партнёра грамадзянскай супольнасці.

Антыэтатызм беларускага кіруючага класа таксама патрабуе тлумачэння. Ён сапраўды мае месца, калі пад ім разумець імкненне ачысціць дзяржаву ад усяго беларускага, нацыянальнага, жаданне выкарыстаць суверэнітэт у якасці звонкай разменнай манеты ў гандлі з іншымі краінамі, і ў першую чаргу з Расіяй. Але ён яўна дамінуе як вузкабюракратычная ідэалогія, якая абгрунтоўвае правы ўлады, няхай і падпарадкаванай іншай дзяржаве, умешвацца ў эканоміку, культуру, адукацыю і нават прыватнае жыццё грамадзян. Менавіта такім этатызмам пранізана «Канцэпцыя беларускай дзяржаўнасці», якая нарадзілася ў кабінетах адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і прэтэндуе на статус афіцыйнай дактрыны будаўнікоў «рынкавага сацыялізму».

Такім чынам, лёс грамадзянскай супольнасці ў Беларусі ў многім будзе вызначацца тым, які варыянт дзяржаўніцкай ідэі стане пераважным у грамадскай свядомасці. Самаарганізацыя ці дэзарганізацыя соцыуму залежыць сёння ад здольнасці арганізаванай меншасці знайсці адэкватныя адказы на тыя гістарычныя выклікі, з якімі сутыкнулася наша краіна ў канцы XX стагоддзя і якія ў канчатковым выніку будуць вызначаць яе жыццё ў пачатку наступнага стагоддзя.





*Святлана Чавушава,*
*дырэктар даследчых праграм Міжнароднага інстытута палітычных даследаванняў*

# Сучасны беларускі палітычны дыскурс (Што і як мы гаворым пра палітыку)

У апошні час у айчыннай палітычнай навуцы вельмі заўважная цікавасць да дыскурс-даследаванняў. Паняцце «дыскурс» не надта даўно ўвайшло ў сучасны паліталагічны лексікон, але ўжо трапіла ў разрад так званых «модных» тэрмінаў. З аднаго боку, гэта можна і трэба вітаць: увядзенне новых паняццяў і новых падыходаў садзейнічае прырашчэнню ведаў пра аб'ект, дапамагае ўзнавіць звёны, якіх не стае ў прычынна-выніковых сувязях тых ці іншых працэсаў. З другога боку, дыскурс-даследаванні не могуць і не павінны прэтэндаваць на стварэнне універсальных і вычарпальных тлумачэнняў складанай палітычнай рэальнасці. Апошняя акалічнасць патрабуе ўдакладнення самога паняцця «дыскурс» у дачыненні да сферы палітыкі.

Дыскурс – гэта від моўнай камунікацыі, арыентаваны на абмеркаванне дзеянняў, падзей, фактаў, выказванняў адносна значных аспектаў сацыяльнай рэальнасці. Паняцце «дыскурс» адным з першых выкарыстаў нямецкі сацыяльны філосаф Ю.Хабермас у пачатку 70-ых гадоў нашага стагоддзя ў кантэксце тэорыі камунікацыі. Ён зыходзіў з таго, што праз слоўнае тлумачэнне, а значыць, праз мову, можа быць абмеркавана ўсё, значнае для чалавека (у тым ліку, заўважым, і самі структуры мовы). У такога роду моўным узаемадзеянні становяцца яўнымі нормы, прынцыпы, правілы сумеснага жыцця людзей, фіксуюцца адрозненні таго, што ёсць, ад таго, што павінна быць.

Пасля Хабермаса да даследаванняў дыскурсіўных практык звярталіся многія даследчыкі. У прыватнасці, амерыканскі сацыёлаг А.Гоўлднер у сваіх даследаваннях інтэлігенцыі як «новага класа» звярнуў увагу на тое, што адной з галоўных яго прыкмет з'яўляецца валоданне культурай крытычнага дыскурса. Гэта не толькі нейкая спецыфічная моўная супольнасць, але і частка культурнага капіталу, такая ж значная, як уласнасць на сродкі вытворчасці або грошы. Дыскурс – гэта не проста паўсядзённае маўленне (хоць і яно можа стаць аб'ектам даследавання і крыніцай інфармацыі). Дыскурс – гэта мова па пэўных правілах, мова з выкарыстаннем адрэфлектаваных паняццяў, тых лексічных адзінак, якія ўсталяваліся. Дыскурс інтэлектуалаў, рацыянальны, стандартызаваны, пабудаваны па агульналагічных правілах, прыводзіць, на думку Гоўлднера, да аўтанамізацыі новага класа, які здольны змяніць сучаснае грамадства.

У сучасным грамадазнаўстве даследаванні дыскурса вельмі папулярныя. У свой час дыскурс-аналіз зрабіў своеасаблівую рэвалюцыю ў даследчых практыках гуманітарных навук, аб'яднаў дзве такія сферы, як свет знакавага зместу (адлюстраванне) і свет сацыяльнага дзеяння (паводзіны). Сёння можна вылучыць мноства напрамкаў і канцэптуальных падыходаў у даследаванні дыскурса: ад вузка лінгвістычных да культуралагічных у самым шырокім сэнсе гэтага слова[1].

У гэтымм артыкуле мы зыходзім з таго, што паняцце «дыскурс» фіксуе зместавае адзінства тэксту і сацыяльнага кантэксту. Дыскурс – гэта не проста словы, але словы, якія выказваюцца тут і зараз, у дадзены час і ў дадзеным сацыяльным кантэксце. Такім чынам, дыскурс-аналіз робіць сваім аб'ектам не толькі тэкст, але і экстралінгвістычныя фактары: веды аб свеце, меркаванні, устаноўкі, мэты, сацыяльны вопыт, стылістыку жыцця камунікантаў. Менавіта гэтыя фактары і забяспечваюць разуменне дадзенага тэксту[2]. Даследчык дыскурса не проста «раскладвае» тэкст на складаемыя, але спрабуе высветліць, чаму адзін тэкст бывае зразуметы, а другі застаецца за межамі разумення; чаму ў адных выпадках камуніканты слухаюць і чуюць адзін аднаго, а ў іншых – размаўляюць быццам на розных мовах.

Як вядома, веды аб свеце ў кожнага чалавека арганізаваны ў пэўныя канцэптуальныя сістэмы, якія атрымалі назву фрэймаў. Фрэймы нагадваюць нейкія рамкі, у якія у пэўным парадку ўкладваецца новая інфармацыя пра свет. Прыкладам такой рамкі можа служыць той ці іншы канцэпт, праз прызму якога чалавек прыватызуе новую інфармацыю. Так, інфармацыя пра пашырэнне НАТА на Усход у постаса-

вецкім грамадстве можа разглядацца аднымі як праява агрэсіі імперыялізму, другімі як сведчанне сусветнай змовы, трэцімі як перамога дэмакратычных каштоўнасцяў і да т. п.

Фрэймы маюць канвенцыйную (дамоўную) прыроду, і калі ў двух і больш камунікантаў змест фрэймаў або па меншай меры канцэптаў супадае, то ёсць верагоднасць разумення ў той ці іншай ступені. Калі ж падабенства ў фрэймах мы ў камунікантаў не назіраем, то разуменне недасяжнае.

Вывучэнне дыскурса асабліва важнае ў палітыцы. Не будзе перабольшаннем сказаць, што мова ў палітыцы – адзін з галоўных інструментаў. У дачыненні да гэтай сферы чалавечага жыцця мы можам гаварыць не толькі пра мову ўлады, але і пра ўладу мовы. Часам гэты бок палітыкі асабліва акцэнтуецца даследчыкамі. Як лічыць нямецкі палітолаг М.Хетых, мы называем палітыкай тое, што маецца на ўвазе самімі людзьмі. Палітыка існуе толькі ў выглядзе мыслення, размовы, паводзін[3]. Вядома, паняцце «палітыка» нельга лічыць чыста вербальным самавольствам, але і змяншаць у ёй ролю мовы таксама не варта.

* * *

Навошта патрэбны сёння дыскурс-даследаванні? Вядома, адказаць на гэтае пытанне можна элементарна: ад усялякіх даследаванняў ёсць нейкая карысць. Аднак у даным выпадку нам хацелася б звярнуць увагу чытача на тое, што падобныя даследаванні носяць не толькі чыста акадэмічны, але і палітыка-практычны характар. Даследаванне сучаснага беларускага палітычнага дыскурса, на маю думку, ёсць у той самы час даследаванне шанцаў трансфармацыі і яе магчымых шляхоў. На карысць данага тэзіса прывядзём па меншай меры тры аргументы.

Па-першае, усялякае вымаўленае слова ёсць не толькі страсенне паветра, але і канструяванне нейкай другой рэальнасці, якая мае пэўны ўплыў на рэальнасць першую. Мабыць, не трэба забываць, што звыклае супрацьпастаўленне слова справе носіць даволі ўмоўны характар. Слова – таксама справа (нездарма кажуць, што словам можна параніць і нават забіць), асабліва ў палітыцы, дзе аб'ектам камунікацыі робяцца вялікія сацыяльныя групы. Сацыяльныя трансфармацыі не могуць не адбівацца і на мове, асабліва на мове палітычнай. Так, перамены апошняга дзесяцігоддзя прынеслі ў наша жыццё новыя словы (плюралізм, кансенсус, спікер, рэйтынг і інш.), а таксама новыя сэнсы старых слоў. Да прыкладу, дэмакратыя перастала быць «сацыялістычнай» або «буржуазнай», а правы чалавека пазбавіліся прыстаўкі «так званыя». Мы не толькі фіксуем гэтыя перамены, але і заўважаем, што ў размове пра палітыку трансфармаванай мовай мы ўяўляем і, як вынік, творым і нейкую новую палітычную рэальнасць.

На жаль, апошні тэзіс пацвярджаецца і прыкладамі «ад адваротнага». Так, слова «парламент» у нашым штодзённым палітычным лексіконе аніяк не аднясеш да разраду часта ўжываных. Акрамя таго, як паказваюць даследаванні[4], у тлумачэнні гэтага слова ў значнай частцы насельніцтва назіраецца даволі заўважны дэфект: парламент разглядаецца не як орган прадстаўніцтва інтарэсаў, а часце як дарагая забава, збор людзей, якія многа гавораць (а не працуюць!). Разгорнутая ў даным кантэксце прапагандысцкая кампанія напярэдадні рэферэндуму 1996 года яшчэ больш умацоўвала аўдыторыю СМІ ў меркаванні, што парламентарызм – гэта нешта неабавязковае, а часам нават і шкоднае. Дастаткова прыгадаць, што большасць артыкулаў і выступленняў у афіцыйных СМІ рабілі прадметам крытыкі не толькі Вярхоўны Савет 13 склікання, але і парламентарызм як такі. Усё гэта яшчэ больш аддаляла наша грамадства ад усведамлення каштоўнасці парламентарызму і, як вынік, ад дзеянняў па ягоным адстойванні і абароне. Няцяжка прагназаваць, што ў ходзе бліжэйшых выбарчых кампаній кандыдатам не раз давядзецца адказваць на пытанне: «А навошта ён патрэбны, гэты парламент?». Такім чынам, слова зноў-такі ператвараецца ў справу і ігнараваць гэты фактар было б неправамоцна.

Па-другое, вывучэнне дыскурса ёсць вывучэнне магчымасці разумення, дыялога і кансенсуса як свайго роду грамадскай дамовы, а не як прымусовага адзінства. Мы павінны здаваць сабе справу ў тым, што разуменне не дасягаецца аўтаматычна нават у тых выпадках, калі размова ідзе пра самыя простыя і нават штодзённыя рэчы. Чым больш складаныя аб'екты, працэсы, сюжэты абмяркоўваюцца людзьмі, тым больш цяжкае паразуменне паміж імі. Гэта тым больш справядліва ў адносінах да палітыкі, дзе камунікантамі выступаюць часам вялікія грамадскія групы, якія пры гэтым аперыруюць паняццямі высокай ступені абстракцыі, г. зн. паняццямі многазначнымі. Палітычны дыскурс – гэта дыскурс адносна грамадска значных праблем, а яны заўсёды складаныя і шматаспектныя. Такім чынам, тут размова ідзе не аб разуменні як такім, а толькі аб тым ці іншым узроўні разумення.

Асноўная праблема разумення ў нашым выпадку можа быць сфармулявана як супярэчнасць паміж выкарыстаннем адзінай для ўсіх камунікантаў мовы ўзаемадзеяння (рускай, беларускай або іншай) і выкарыстаннем палітычных паняццяў, якія напоўнены для камунікантаў рознымі (часам прама супрацьлеглымі) сэнсамі. Вядома, у кожнага палітычнага паняцця ёсць так званы нарматыўны сэнс, г. зн. той, які сустракаецца ў адпаведных слоўніках як форма фіксацыі сукупнага сацыяльнага вопыту. Але ў ходзе камунікацыі гэтае нарматыўнае значэнне «абрастае» індывідуальнымі сэнсамі. Яны ўзнікаюць з асабістага сацыяльнага вопыту, з сучаснай палітычнай практыкі, а часам з нейкай выпадковай сукупнасці абставін, міжвольных вобразаў і асацыяцый. Мабыць, тут няма больш яркага прыкладу, чым лёс слова «дэмакратыя», якое мае такое мноства семантычных наслаенняў, што часта ствараецца ўражанне, быццам яно ўвогуле пазбаўлена ўсялякага сэнсу або замяніла яго на супрацьлеглы.

Заўважым, дарэчы, што гэтая праблема існуе не толькі ў палітычным, але і ў паліталагічным дыскурсе. Слоўнік палітычнай навукі ў многім супадае са слоўнікам палітыкі. Такое супадзенне навуковай і штодзённай мовы, як вядома, бывае далёка не заўсёды. Так, мова філалогіі далёкая ад мовы мастацкай літаратуры. Палітыка ж і паліталогія аперыруюць тымі ж самымі паняццямі, што робіць праблему разумення ў даследчыцкім асяроддзе даволі істотнай.

У цэлым дасягненне разумення ў палітыцы – гэта не проста добрае пажаданне або маральны імператыў. Яно становіцца жыццёва важным, бо складае неабходную ўмову стабільнага існавання і ўстойлівага развіцця грамадства. Гэта тым больш важна ва ўмовах дэмакратыі, духам і літарай якой з'яўляецца плюралізм і канкурэнцыя. Адсутнасць разумення ў даным выпадку мосціць дарогу канфліктам, канфрантацыі і, як вынік, знішчэнню дэмакратыі. Такім чынам і тут праблема дыскурса пераходзіць з галіны акадэмічных разваг у галіну актуальнай палітычнай практыкі.

Нарэшце, па-трэцяе, гаворачы пра палітычны дыскурс, мы гаворым пра механізмы і якасць палітычнага выбару. Размова ідзе не толькі пра фармалізаваную і ўзаконеную працэдуру дэлегавання паўнамоцтваў ад народа да ягоных прадстаўнікоў, але аб выбары ў самым шырокім сэнсе гэтага слова. Строга кажучы, палітычны выбар ажыццяўляецца чалавекам заўсёды. Трансфармацыйнае грамадства павялічвае колькасць актаў палітычнага выбару і істотна пашырае ягоны спектр. Чалавек атрымлівае магчымасць выбраць «свае» газеты, партыю, лідэра, кандыдата, алгарытмы паводзін. Пасля таталітарызму і аўтарытарызму яму даецца магчымасць выбраць паміж удзелам і няўдзелам у палітыцы. Нарэшце, гэта можа быць выбар стратэгічнага праекта для краіны ў цэлым.

Як жа ажыццяўляецца сам выбар? Калі раскласці даную працэдуру на складнікі, то яна магла б быць зведзенай да некалькіх аперацый: суб'ект выбару разглядае ўсе прапанаваныя **альтэрнатывы** (кандыдатуры), суадносіць іх з уяўленнямі аб тым, «што такое добра і што такое дрэнна», г. зн. з тымі **эталонамі**, якія ў яго ёсць і якія дапамагаюць яму меркаваць, да якіх **наступстваў** прывядзе выбар кожнай з альтэрнатыў з пункту гледжання **карыснасці** для сябе і іншых. Падобную працэдуру ў ажыццяўленні рацыянальнага выбару робіць кожны з нас. Вядома, яна мільёны разоў «абкатаная» ў ягонай жыццёвай практыцы і не патрабуе інструкцый або шпаргалак. Але карысць ад падобнай абстрактнай схемы, несумненна, ёсць. Яна дэманструе, наколькі важныя эталоны для ажыццяўлення палітычнага выбару. Такімі эталонамі служаць у палітыцы паняцці, тэрміны, устойлівыя вобразы і тлумачальныя схемы, г. зн. тое, што і складае тканіну палітычнага дыскурса. Калі ў чалавека сфарміраваны дэфектныя эталоны, ён хутчэй за ўсё здзейсніць і дэфектыўны палітычны выбар. Гэта няцяжка праілюстраваць прыкладам з жыццёва-побытавай практыкі. Так, калі пры куплі нейкага тавару эталонам для нас выступае толькі таннасць або прыгожая ўпакоўка, мы рызыкуем пацярпець няўдачу. Гэта, дарэчы, і адбывалася з большасцю грамадзян у той момант, калі на наш спажывецкі рынак хлынулі танныя, знешне прывабныя разнастайныя спажывецкія тавары, якія губляюць вартасць на другі дзень карыстання. Адрозненне ад палітыкі ў даным выпадку толькі ў тым, што навучанне правільнаму выбару і выпраўленне эталонаў адбываецца ў звычайным жыцці значна хутчэй. У палітыцы ўсведамленне сувязі паміж дэфектным выбарам і ягонымі наступствамі значна цяжэйшае, хоць падобныя ўрокі тут маюць нашмат вышэйшы кошт.

Фарміраванне карэктных эталонаў сродкамі адукацыі, ведаў або практыкай – адна з асноўных задач сённяшняга дня. Але перш чым брацца за гэтую так патрэбную справу, неабходна ажыццявіць адпаведную дыягностыку. І ў даным выпадку нам таксама не абысціся без дыскурс-аналізу.

* * *

Першае пытанне, з якога звычайна пачынаецца дыскурс-аналіз, – гэта пытанне пра тое, на якой палітычнай мове мы размаўляем. На першы погляд гэтае пытанне можа падацца наіўным. Ці трэба над гэтым задумвацца, калі мы штодзённа, калі не штогадзшнна, сутыкаемся з размовамі пра палітыку, застаючыся староннім назіральнікам або іх удзельнікам, і пры гэтым цалкам разумеючы, аб чым ідзе размова. Але такім можа быць менавіта першы погляд. Пры больш уважлівым разглядзе мы прыходзім да высновы, што прычынамі палітычных спрэчак (ад спрэчак у чэргах і грамадскім транспарце да публічных слоўных баталій палітыкаў) становіцца якраз неразуменне на ўзроўні базавых паняццяў і вызначэнняў. Заўважым, што звычка найменаваць тыя або іншыя працэсы і з'явы неадпаведнымі ім словамі – адна з істотных рыс постсавецкай палітычнай практыкі. Так, словам «дэмакраты» называюцца людзі, якія арганізуюць аднаўленне «канстытуцыйнага парадку» (?) ў Чачні, словам «камуністы» – паслядоўныя змагары за аднаўленне беларускага парламентарызму; ліберальна-дэмакратычнай – партыя, у словах і справах якой няма ні лібералізму, ні дэмакратыі. Гэта можна растлумачыць і гістарычнымі прычынамі. Цяжка знайсці больш двухсэнсоўную сістэму намінацый і вызначэнняў, чым тая, якая існавала пры сацыялізме. Дастаткова прыгадаць, што вядомы выраз «па шматлікіх просьбах працоўных», які друкаваўся ў прэамбуле якой-небудзь пас-

тановы партыі і ўрада, прымушаў заміраць сэрцы мільёнаў людзей, бо азначала, што далей пойдзе нешта зусім для працоўных непрыемнае і непатрэбнае. Такая двухсэнсоўнасць (трох-, чатырох-... сэнсоўнасць) выкараняецца не вельмі хутка, асабліва калі не прыкладаць да гэтага асэнсаваных намаганняў. Больш таго, гульня ў словы надае інтэлектуальнаму жыццю на постсавецкай прасторы некаторы шарм, асабліва ў размовах сярэдняга пакалення інтэлігенцыі, якая ў свой час мела поспех у авалоданні культурай палітычнага падтэксту.

Такім чынам, сёння размова павінна ісці аб праясненні сэнсаў палітычных паняццяў, якімі аперыруюць розныя сацыяльныя групы насельніцтва, г. зн. складанні свайго роду «дзікарослых» палітычных слоўнікаў, якія ходзяць у сучасным беларускім грамадстве. Гэтая задача такая ж актуальная, як і складаная. Для яе вырашэння патрэбныя асаблівага роду методыкі, якія дазваляюць адэкватна выяўляць скарыстаныя сэнсы і пры гэтым не ставіць рэспандэнта ў пазіцыю экзаменаванага. У адваротным выпадку мы рызыкуем атрымаць або сацыяльна-нарматыўныя адказы, або не атрымаць іх увогуле. Відаць, пошук такіх методык можа ляжаць як у галіне сацыялогіі, так і ў галіне псіхалогіі.

Так, аўтар браў удзел у даследаванні, дзе ў якасці эксперыментальнай намі была ўзята група студэнцкай моладзі розных сталічных ВНУ[5]. Работа вялася ў рэжыме даследавання асобнага выпадку з ужываннем метаду свабодных асацыяцый. Наша даследчыцкая задача зводзілася да таго, каб паказаць, якія прыкметы тых або іншых аб'ектаў палітычнай рэчаіснасці вылучаюцца падвыпрабавальнымі, ці могуць супадаць гэтыя прыкметы ў розных падвыпрабавальных (якія ўваходзяць, тым не менш, у адну сацыяльную групу) і ці можна на гэтай падставе даць агульнае для данай групы вызначэнне аб'ектаў. Для вырашэння гэтай задачы ў якасці аб'ектаў намі быў выдзелены шэраг базавых палітычных паняццяў: «палітыка», «выбары», «улада», «мітынг», «дэпутат», «дыктатар», «эліта», «грамадзянскі абавязак», «дэмакрат», «партыя», «анархія». Групе рэспандэнтаў зачытваліся гэтыя словы і прапанавалася пасля кожнага слова запісаць першую асацыяцыю, якая прыйдзе ў галаву. Час для роздуму быў абмежаваны, таму тыя з іх, хто не паспяваў своечасова зрэагаваць на прапанаванае слова, ставіў у апытальным лісце прочырк. Атрыманыя вынікі былі прапанаваны для класіфікацыі незалежным экспертам, якія выдзелілі сярод іх словы-рэакцыі, якія маюць істотныя, а не канкрэтна-сітуацыйныя або выпадковыя параўнанні, метафары ці клішэ. Вядома, такі эксперымент меў лакальны характар і таму не мог прэтэндаваць на канчатковасць і бясспрэчнасць высноў. Разам з тым, не раскрываючы падрабязна ягоную працэдуру і вынікі, прапануем чытачу для роздуму шэраг вывадаў.

Так, па-першае, у большасці выпадкаў рэспандэнтамі прапаноўваліся не нарматыўныя (замацаваныя ў слоўніках) сэнсы паняццяў. Супадзенне з эталонам у розных выпадках дэманстравалі ад 12 да 33% рэспандэнтаў. Напрыклад, паняцце «ўлада» часта асацыявалася з насіллем, пакарэннем, дыктатурай. У свядомасці большай часткі рэспандэнтаў улада і ёсць дыктатура, дыктатура і ёсць улада. Такім чынам, улада для іх звязана не з працэдурамі перамоваў і ўзгаднення інтарэсаў, а з насіллем і падаўленнем. У гэтай логіцы змагацца за ўладу – ганебна, балатавацца – «рвацца да ўлады», што ў нашым этычным кантэксце вартае ўсялякага ганьбавання.

Па-другое, большасць удзельнікаў эксперыменту аперыруе канкрэтна-сітуацыйнымі, а не абстрактнымі сэнсамі. Гэта азначае, што абстрактныя палітычныя паняцці ўспрымаюцца імі толькі ў канкрэтнай, адчувальнай, знаёмай форме. Так, больш за 70% рэспандэнтаў да слова «ўлада» прапанавалі такія асацыяцыі, як «трон», «грошы», «кароль», «АМАП», «злачынствы», «дурдом» і інш. Слова «палітыка» больш чым у паловы апытаных асацыіруецца са словамі «газета», «грошы», «людзі», «бруд», «балталогія». Але ж у многім менавіта паняцце «палітыка» з'яўляецца сэнсавым ключом да разумення ўсіх палітычных працэсаў.

Па-трэцяе, большасць прапанаваных паняццяў у значнай частцы рэспандэнтаў выклікалі негатыўныя асацыяцыі. Так, на слова «палітыка» негатыўнымі былі асацыяцыі ў 60% апытаных, на слова «мітынг» – у 32%, на слова «выбары» – у 26%, на слова «ўлада» – у 22%. Зыходзячы з гэтага, можна зрабіць выснову, што ў многіх палітыка ў цэлым выклікае хутчэй адмоўныя, чым станоўчыя эмоцыі. Вядомае клішэ «палітыка – брудная справа» ў іхнай свядомасці замацавана даволі моцна.

Падобныя вывады прыводзяць нас да думкі аб неабходнасці далейшых даследаванняў у гэтай галіне. Любая палітычная камунікацыя можа прэтэндаваць на эфектыўнасць толькі ў тым выпадку, калі камуніканты маюць уяўленні аб слоўніках адзін аднаго. Можна меркаваць, што такога роду слоўнікаў у грамадстве можа быць некалькі – у залежнасці ад стылявых асаблівасцяў жыцця, сацыяльнага вопыту, дэмаграфічных і іншых параметраў.

* * *

У залежнасці ад усталяванага палітычнага слоўніка ў грамадстве будуць мець месца разнастайныя дыскурсіўныя колы. У цэлым гэтую з'яву можна характарызаваць як цалкам нармальную, але толькі пры той умове, што гэтыя колы не ізаляваныя адно ад аднаго і могуць наладжваць камунікацыю паміж сабою. У супрацьлеглым выпадку мы сутыкаемся з праблемай драбнення і інкапсуляцыі дыскурсаў, калі прадстаўнікі розных дыскурсных груп размаўляюць быццам на розных мовах, не разумеючы адзін аднаго. Іхны дыялог становіцца бессэнсоўным, як калі б на пытанне аднаго чалавека: «Якая гадзіна?», другі адказваў бы: «Дзякуй, я ўжо папалуднаваў». У палітычнай сферы такое драбненне зусім не бяскрыўднае. Як ужо згадвалася вышэй, праблема неразумення ў сферы палітыкі – гэта прамы шлях да адчужэння, напружанасці, канфліктаў і канфрантацыі ў грамадстве.

Сёння з жалем можна канстатаваць, што прыкметы такога драбнення пазначыліся і ў беларускім грамадстве. Вадападзел праходзіць перш за ўсё па лініі дыскурс улады – контрдыскурсія[6]. Яго можна добра назіраць на прыкладзе дзяржаўнай і недзяржаўнай прэсы. Таксама заўважым, што ў беларускім грамадстве СМІ адыграваюць асаблівую ролю. Яны становяцца цэнтрамі артыкуляцыі палітычных пазіцый. Прэса не толькі інфармуе, адукоўвае, забаўляе, але і бярэ на сябе функцыю, якую, паводле вядомага выказвання класіка, можна назваць функцыяй «калектыўнага арганізатара». Падкрэслім, гаворка ідзе не аб партыйнай прэсе, што было б натуральна, а аб агульнанацыянальных СМІ. Сёння большасць беларускіх грамадзян, якія цікавяцца палітыкай, падзяляюцца не на прыхільнікаў камуністычнай або ліберальнай, сацыял-дэмакратычнай або нацыянальнай ідэі, а на чытачоў газет «Навіны» або «Народная газета», «Советская Белоруссия» або «Народная воля» і г. д. Менавіта таму прэса становіцца адэкватнай крыніцай для аналізу беларускага палітычнага дыскурса ў цэлым.

Як паказваюць вынікі нашага даследавання, існуе нешта асаблівае, спецыфічнае ў палітычным дыскурсе газет у залежнасці ад іх моўнай прыналежнасці. Беларуская і руская – гэта не проста розныя ў лінгвістычным сэнсе мовы зносін. Беларуская мова заўсёды нясе на сабе пячатку апазіцыйнасці, у той час як руская можа быць выкарыстана як у афіцыйным дыскурсе, так і ў контрдыскурсіі. У цэлым мовай палітычнага дыскурса ў Беларусі з'яўляецца пераважна руская. Пры гэтым усё больш прыкметным робіцца так званы двухмоўны дыскурс. Ягоныя асаблівасці можна назіраць на прыкладзе двухмоўных (беларуска-рускіх і руска-беларускіх) газет. Двухмоўе – гэта адметная, калі не унікальная, рыса беларускіх СМІ. Адна частка экспертаў кваліфікуе гэта як недахоп. Так, на думку А.Дзірвановіча, двухмоўе прыводзіць «да прыніжэння прафесійна-выдавецкага ўзроўню перыёдыкі... Уласна беларускамоўныя і рускамоўныя выданні выглядаюць значна больш цэльнымі»[7]. Іншыя, і аўтар артыкула належыць да іх ліку, мяркуюць, што двухмоўе вынікае з натуральнай блізкасці моў і не можа служыць праяўленнем дэмакратычнасці саміх СМІ. На практыцы рэальнае двухмоўе пашырае кола спажыўцоў асобных СМІ і ў многім садзейнічае аб'яднанню вокал таго ці іншага перыядычнага выдання чытачоў розных ідэалагічных напрамкаў.

Аднак само па сабе двухмоўе асобных выданняў яшчэ не вырашае праблемы падзелу дыскурсаў на рускі і беларускі. Вядомая блізкасць рускай і беларускай моў робіць магчымым пераход з адной на другую нават у рамках адных і тых самых тэкстаў. Падобны прыём выкарыстоўваецца не толькі для надання тэксту большай выразнасці, але і для вызначэння палітычнай пазіцыі аўтара. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца ўжыванне слоў «отечество» і «бацькаўшчына», якія, з'яўляючыся сінонімамі, успрымаюцца ў рамках беларускага палітычнага дыскурса як апаніруючыя паняцці. Слова «отечество» часта мае адзін сэнсавы рад з паняццямі «СССР», «інтэграцыя», «славянская ідэя». Наадварот, слова «бацькаўшчына» мае прамое дачыненне да абазначэння беларускага патрыятызму і апазіцыйнасці. У сувязі з гэтым робіцца магчымым іх ужыванне (з захаваннем напісання) у іранічнай танальнасці ў ідэалагічна адрозных па зместу тэкстах.

Намі таксама была зроблена спроба вызначыць тыя вобразы палітыкі, якія прапануюць чытачу дзяржаўныя і недзяржаўныя СМІ. Крыніцавую базу даследавання склалі матэрыялы беларускай прэсы за 1997–1998 гг., (кантэнт-аналіз, дыскурс-аналіз і рытарычны аналіз)[8].

Атрыманыя вынікі пададзены ў табліцы 1 (у % ад матэрыялаў, прысвечаных палітычнай тэматыцы):

**Табліца 1**

| Тэмы | Усяго ў сярэднім | Дзяржаўная прэса | Недзяржаўная прэса |
|---|---|---|---|
| афіцыйныя дакументы | 6,0 | 9,7 | 2,3 |
| афіцыйная хроніка | 9,4 | 14,7 | 4,2 |
| аналіз унутрыпалітычнай сітуацыі | 17,8 | 18,3 | 17,6 |
| аналіз знешнепалітычнай сітуацыі | 10,5 | 8,8 | 12,2 |
| інтэграцыя ў рамках СНД | 11,5 | 14,3 | 8,9 |
| заканадаўства | 8,9 | 5,3 | 12,4 |
| правы чалавека | 12,5 | 12,6 | 12,3 |
| апазіцыя | 6,7 | 4,6 | 8,7 |
| палітычныя партыі і грамадскія рухі | 7,1 | 4,8 | 9,3 |
| СМІ | 6,1 | 4,6 | 7,5 |
| выбары | 3,5 | 2,3 | 4,6 |

Другая калонка табліцы (сярэднія лічбы) прыведзена намі толькі для таго, каб паказаць яе прынцыповую неінфарматыўнасць. Прыводзіць сярэднія лічбы адносна тэматычных прыярытэтаў СМІ ў цэлым – гэта тое ж самае, што вылічваць сярэднюю тэмпературу па шпіталі. Вобразы палітыкі ў дзяржаўнай і недзяржаўнай прэсе даволі розняцца адзін ад аднаго. Так, для афіцыйнай прэсы змест палітыкі складае, перш за ўсё, дзейнасць дзяржавы: амаль 66% матэрыялаў расказваюць пра гэта. Гэта разам узятыя: афіцыйныя дакументы, афіцыйная хроніка, аглядавыя матэрыялы па ўнутранай і знешняй палітыцы, матэрыялы па інтэграцыі. Палітыка вачыма

дзяржаўнай прэсы практычна беспартыйная і пазбаўлена апазіцыі. Пры гэтым яна рэдка праводзіць розніцу паміж апазіцыяй і палітычнымі партыямі (усе партыі – гэта апазіцыя, а апазіцыянеры – гэта тыя, хто стварае палітычныя партыі). У тых нешматлікіх матэрыялах, якія прысвечаны даным тэмам, дамінуе агульная скептычная танальнасць. Для іх характэрныя выказванні: «канапныя партыі», «карлікавыя партыі», «кучка амбіцыйных палітыкаў», «палітыкі, якія нікога не прадстаўляюць за выключэннем сябе» і інш. Такім чынам, дзяржаўнай прэсай ствараецца ўяўленне аб тым, што палітычнай нормай з'яўляецца адсутнасць недзяржаўнага сектара палітыкі, а стабільнасць – ёсць адсутнасць палітычнага плюралізму. Заўважым, што такі падыход на фоне недастатковай колькасці інфармацыі аб палітычных партыях у цэлым яшчэ больш узмацняе «эфект адсутнасці» такіх у рэальным палітычным жыцці Беларусі.

Недзяржаўная прэса ў большай ступені падае палітыку як сферу плюралістычную, хоць і ў ёй дамінуюць матэрыялы, якія каменціруюць і аналізуюць дзейнасць афіцыйных уладаў. Разам з тым у ёй больш ці менш раўнамерна прадстаўлены матэрыялы аб дзейнасці партый, апазіцыі, СМІ.

Кажучы пра знешнюю палітыку, і дзяржаўная, і недзяржаўная прэса вялікую ўвагу надаюць праблеме адносін Беларусі і СНД, пераважна Беларусі і Расіі. Пры гэтым змест і танальнасць матэрыялаў прынцыпова розняцца. Так, у першым выпадку ключавымі з'яўляюцца такія словы, як: *агульная гісторыя, агульныя лёсы, паэтапнае ўз'яднанне, гістарычная справядлівасць, свята, братнія народы, узаемная выгада, парытэт, Беларусь не будзе цяжарам і інш.* У другім – *незаспакоенасць, пагроза суверэнітэту, шкода нацыянальным інтарэсам, сумнеўная выгада, Беларусь – заложніца (у адносінах паміж Расіяй і Захадам) і інш.*

Асаблівага каментарыя патрабуюць і лічбы, якія сведчаць пра долю матэрыялаў, прысвечаных праблеме правоў чалавека (12,6% у дзяржаўнай і 12,3% у недзяржаўнай прэсе). Трэба заўважыць, што асноўную масу матэрыялаў, якія трапілі ў даную катэгорыю, у дзяржаўнай прэсе склалі артыкулы, якія датычаць сацыяльна-эканамічных правоў грамадзян (права на жыллё, на працу, на сацыяльнае забеспячэнне, на ахову здароўя). Пры гэтым большасць з іх (72%) прысвечаны канкрэтным калізіям у жыцці пэўных людзей. У гэтым сэнсе найбольш папулярным з'яўляецца сюжэт, зыходная кропка якога – парушэнні (бяздушша) у дзеяннях мясцовых улад, якія жорстка крытыкуюцца газетай. Недзяржаўная прэса ў большасці сваёй робіць акцэнт на палітычныя правы, прысвячаючы свае матэрыялы такім тэмам (па ступеніі змяншэння), як: лёс палітзняволеных, неправамоцныя дзеянні міліцыі і праваахоўных органаў у адносінах да пэўных грамадзян, праследаванні ў адносінах да апазіцыі і палітычных партый.

* * *

Дзяржаўныя і недзяржаўныя СМІ прапануюць не толькі розныя вобразы палітыкі, але і прынцыпова розныя тлумачальныя схемы таго, што адбываецца. Тлумачальная схема – гэта свайго роду фрэйм (рамка), якая так ці інакш арганізуе адлюстраванне рэчаіснасці ў свядомасці чалавека. Яны прымаюць від стандартных, часам шаблонных тлумачэнняў таго, што адбываецца, скрозь прызму якіх чалавек успрымае новую інфармацыю і новыя веды пра аб'ект (у нашым выпадку – палітычнай рэальнасці).

Аналізуючы матэрыялы ўжо згаданых газет за 1996–1999 гады[9], мы паспрабавалі вычленіць ключавыя лексемы, якія сустракаюцца пры аналізе шэрага важных праблем. Да ліку арошніх былі аднесены: праблема распаду СССР, праблема інтэграцыі з Расіяй, праблема рэфармавання, праблема пашырэння НАТА. На наш погляд, менавіта яны з'яўляюцца свайго роду раздзяляльнымі лініямі ў беларускім грамадстве, бо фіксуюць адносіны да мінулага (СССР), бачанне будучага (рэфармаванне і інтэграцыя) і знешнепалітычныя арыентацыі. Да данага спіса мы таксама дадалі дзве цалкам сітуацыйныя праблемы, якія ўзніклі ў апошні час: дэфіцыт харчовых тавараў і адносіны да праблемы РНА і сучаснага фашызму ў цэлым, якія служаць ілюстрацыяй для пацвярджэння больш агульных тэзісаў. Вынікі аналізу пададзены ў табліцы 2.

Панаванне ў палітычным дыскурсе СМІ жорсткіх тлумачальных схем надае палітычнай камунікацыі свайго роду рытуальны характар. Гаворка ідзе аб камунікацыі, у рамках якой суб'ект аперыруе пэўным наборам клішэ. Ён выказвае шэраг фраз і аргументаў, якія робяць яго пазнавальным і сярод прыхільнікаў, і сярод праціўнікаў. У гэтых умовах сэнс тэкстаў адыходзіць на другі план, а на першы – сам факт яго з'яўлення ў газеце, якая належыць да таго ці іншага палітычнага лагера. Знаходжанне ў рамках рытуала ў пэўным сэнсе адпавядае клятве на вернасць. І справа тут не столькі ў наяўнасці афіцыйнай цэнзуры, колькі ў наяўнасці «ўнутранага цэнзара» ў рэдактараў і аўтараў, якія вызначаюць, што можа, а што не можа быць надрукавана, напрыклад, у «Советской Белоруссии» або «Навінах».

У рамках рытуальнай камунікацыі немагчымая прадуктыўная палеміка, бо ў ёй завочнам апаненту падаюцца не столькі канкрэтныя аргументы, колькі моўныя клішэ, якія сталі апазнавальнымі знакамі. Так, возьмем, напрыклад, адно з цэнтральных паняццяў сучаснага палітычнага дыскурса – народ». Для яго вызначэння ў дзяржаўнай прэсе характэрныя наступныя звароты: «няхай народ рассудзіць», «упершыню за ўсю гісторыю беларускі народ мае магчымасць сам вырашаць, якой павінна быць улада ў нашай дзяржаве», «трэба даць народу выказаць сваё меркаванне», «народ зможа вызначыць, хто правы, хто вінаваты», «народ – гэта простыя людзі», «беларускі народ даў наказ кіраўніку дзяржавы», «дэмакратыя



**Табліца 2**

| Прабмема | Дзяржаўная прэса | Недзяржаўная прэса |
|---|---|---|
| Распад СССР | «распад СССР - гэта вынік здрад, змовы былых камуністычных лідэраў», «распад СССР - адна з найбольш драматычных старонак XX стагоддзя», «распад СССР ёсць вынік перамогі Захаду ў халоднай вайне» | «распад СССР - натуральны вынік крызісу сацыялістычнай сістэмы, доказ банкруцтва дзяржаўнай эканомікі», «распад СССР - драматычная, але цалкам заканамерная з'ява», «СССР прайграў у канкурэнтнай барацьбе з Захадам» |
| Інтэграцыя з Расіяй | «інтэграцыя з Расіяй - аднаўленне гістарычнай справядлівасці», «у аснове інтэграцыі ляжыць гістарычнае брацтва славянскіх народаў», «праціўнікі інтэграцыі знаходзяцца ў кіраўніцтве Расіі, у той час як народы імкнуцца да яднання», «ад яднання эканомік выйграюць абедзве краіны, бо на Захадзе мы нікому не патрэбны» | «немагчыма рэальная інтэграцыя розных эканамічных сістэм», «інтэграцыйная рыторыка не суправаджаецца рэальнымі крокамі па зближэнню», «у Расіі ёсць у Беларусі свае інтарэсы, дзеля якіх і падтрымліваецца ідэя інтэграцыі», «інтэграцыйныя праекты павінны быць пралічаны і ўзважаны на шалях узаемнай выгады» |
| Рэформы | «Беларусь ідзе сваім асобым шляхам рэфармавання», «трэба захаваць усё лепшае, што было пры сацыялізме», «Беларусь пазбегла памылак сваіх суседзяў і праводзіць паступовыя, асцярожныя змены» | «у Беларусі рэформы практычна не праводзяцца», «у Беларусі адбываецца кансервацыя савецкай сістэмы», «эканамічны крызіс ёсць вынік таго, што рэформы не ажыццёўлены», «гістарычны вопыт даказаў пераканаўчасць рыначнай мадэлі гаспадарання, таму патрэбны рыначныя рэформы» |
| Прашырэнне НАТА | «пашырэнне НАТА ёсць рэальная пагроза для Беларусі», «пашырэнне НАТА суправаджаецца насаджэннем заходніх стандартаў і каштоўнасцяў», «НАТА - рэальны вораг Беларусі і Расіі», «Беларусь з'яўляецца фарпостам у супрацьстаянні НАТА» | «пашырэнне НАТА - гэта вынік распаду СССР», «у гэтым працэсе Беларусь можа стаць заложніцай у адносінах паміж Усходам і Захадам», «імкненне былых сацыялістычных краін у НАТА цалкам натуральнае, бо ў гэтым яны бачаць гарантыі супраць аднаўлення савецкага рэжыму» |
| Дэфіцыт харчавання | «дэфіцыт харчавання ёсць вынік ажыятажнага попыту (купляць сталі значна больш, чым звычайна)», «частка харчавання вывозіцца ў Расію, бо цэны на прадукты харчавання там вышэйшыя», «дэфецыт харчавання ёсць вынік нядбайнасці і недысцыплінаванасці некаторых гаспадарнікаў», «дэфіцыт харчавання звязаны з недахопамі ў сістэме цэнаўтварэння» | «дэфіцыт харчавання - гэта прамы вынік функцыянавання сацыялістычнай сістэмы ў сельскай гаспадарцы», «прадукты выгадней вывозіць за межы краіны», «дэфіцыт узнік як вынік агульнага ўпадку ў эканоміцы і асабліва ў сельскай гаспадарцы», «дырэктыўныя метады больш не эфектыўныя» |
| РНА і сучасны фашызм | «узнікненне групы, роднаснай РНА - гэта вынік русафобскай палітыкі часткі пануючай эліты», «дзеянні падлеткаў з РНА - гэта звычайнае хуліганства, якому надаецца надта вялікае значэнне», «дзеянні прадстаўнікоў РНА дастойныя ганьбавання, але тады неабходна караць і іншыя нацыяналістычныя сілы, напрыклад БНФ» | «дзеянні малодчыкаў РНА - гэта прамая праява фашызму, гэта сапраўдная карычневая небяспека», «дзейнасць прадстаўнікоў РНА і іншых фашыствуючых груповак адбываецца пры маўклівым патуранні ўладаў» |

– гэта перш за ўсё волевыяўленне народа, і найвышэйшая яе праява – усенародны сход і рэферэндум».

У недзяржаўных СМІ паняцце «народ» ужываецца ў іншай танальнасці: «народ – людзі, якія не разбіраюцца ў палітычных пытаннях і складаюць большасць у нашым грамадстве», «паслухмяны народ», «ашуканы народ», «шматпакутны народ», «людзі, якія не маюць уяўлення аб палітыцы і механізмах функцыянавання палітычнай сістэмы», «большасць насельніцтва гатовая падтрымліваць толькі прывабную фігуру правадыра», «не грамадзяне, а падданыя», «народнасць – галоўны палітычны трук улады», «народу не патрэбны палітычныя правадыры, яму патрэбны дэмакратычныя інстытуты».

І ў адным, і ў другім выпадку гаворка ідзе не пра змястоўны аналіз, а пра свайго роду лексемы-сімвалы, з якімі цяжка спрачацца на рацыянальным узроўні.

Заўважым таксама, што тлумачальныя схемы дзяржаўнай і недзяржаўнай прэсы выстройваюцца ў адзіны лагічны ланцужок. У першым выпадку мы маем справу з больш ці менш паслядоўна выкладзенай левай ідэяй у яе постсацыялістычным варыянце. Гэта не чысты сацыялізм або камунізм з сакралізацыяй Маркса-Леніна, ідэяй дыктатуры пралетарыяту і класавай барацьбы, гэта з'яднанне настальгіі па сацыялістычных практыках 70-ых, імкненне да дзяржаўнай эканомікі, апалогія дысцыпліны і антызаходніцтва.

У другім выпадку гаворка можа ісці аб постсавецкім лібералізме, у якім мікшуюцца каштоўнасці дэмакратыі, правы чалавека, заклікі да рэфармавання і асцярожная арыентацыя на Захад. Дыскурс недзяржаўнай прэсы адрозніваецца яшчэ і тым, што яна не прапануе нейкага адзінага праекта рэфармавання, у большасці выпадкаў абмяжоўваецца крытыкай афіцыйнага курсу. Гэта цалкам зразумела. Недзяржаўная прэса (і, адпаведна, яе чытачы) – сёння ці не самая моцная ментальная апазіцыя існуючаму рэжыму. Таму яна не толькі і не столькі адлюстроўвае і праектуе сітуацыю ў краіне, колькі крытыкуе і дэманструе іншыя ўзоры сацыяльных практык. Такім чынам, недзяржаўная прэса бярэ на сябе не проста функцыю, але, не пабаімся гэтага слова, нейкую палітычную місію, важнасць якой цяжка пераацаніць. Яе маральны аўтарытэт (а ступень даверу да недзяржаўнай прэсы большы, чым ступень даверу да апазіцыйных партый) можа адыграць істотную ролю і ў прасоўванні тых або іншых праектаў несацыялістычнага будучага Беларусі. Апошняе, заўважым, па-ранейшаму застаецца вельмі цяжкай для беларускага грамадства задачай.

Гаворачы аб розніцы ў вобразах палітыкі і тлумачальных схемах, якія прапануюцца дзяржаўнай і недзяржаўнай прэсай, мы не павінны забываць, што размова ідзе не пра ўнутраную кухню саміх газет, а пра іх уздзеянне на сваю аўдыторыю. Гэтыя вобразы тыражуюцца і замацоўваюцца ў свядомасці чытача, замыкаючы іх у сваіх колах кантактаў. Менавіта таму чытачы адных газет ніяк не могуць зразумець чытачоў другіх газет, а іх узаемныя сутыкненні часцей нагадваюць размову сляпога з глухім.

Канстатацыя падобнага расколу – ідэя не новая. Практычна ўсе праведзеныя ў краіне сацыялагічныя даследванні пацвярджаюць гэта яшчэ і яшчэ раз. Аднак раздваенне дыскурсаў сведчыць аб глыбіні і кансервацыі гэтага расколу. Апошняе азначае, што ні змена ўлады, ні рэалізацыя той ці іншай рэфарматарскай мадэлі не здольныя будуць хутка і безбалюча яго пераадолець. На гэтым фоне сумную іронію могуць выклікаць пошукі «цудадзейнай» нацыянальнай ідэі, здольнай аб'яднаць нацыю. Відаць, сёння размова павінна ісці не пра алхімічныя пошукі залатой формулы згоды, а пра паступовую, удумлівую, калі хочаце, чорную работу па высвятленню сэнсу слоў, рацыянальнаму пошуку разумення і тым самым – аднаўленню тканіны агульнага дыскурсу.

---

[1]Гл. пра гэта падрабязней у кн.: Методология исследования политического дискурса. Актуальные проблемы содержательного анализа общественно-политических текстов. Выпуск 1. Мн., 1998. С. 7–9.

[2]Ван Дэйк Т.А. Язык. Познание. Коммуникация. М., 1989. С. 121–122.

[3]Гл.: Политология. 70–80-е годы. Сборник рефератов. М., 1993. С. 57.

[4]У даным выпадку аўтар спасылаецца на даследаванні, што праведзены сумесна з Г.Максютай у рамках праекта «Трансфармацыя псіхалагічных механізмаў сацыяльна-палітычнага выбару» ў 1996 годзе.

[5]Падрябязней аб гэтым гл.: Максюта Г., Наумова С. Слово как раздражитель аудитории: к вопросу об исследовании семантических пространств политических понятий // Методология исследования политического дискурса. Актуальные проблемы содержательного анализа общественно-политических текстов. Вып. 1. Мн., 1998.

[6]Контрдыскурсія – апазіцыйны дыскурс, дыскурс, які крытыкуе ўладу.

[7]Белорусская деловая газета. 1998. № 34.

[8]У выбарку трапілі матэрыялы такіх газет, як «Советская Белоруссия», «Народная газета», «Рэспубліка», «Звязда», «Народная воля», «Свабода» («Навіны»), «Белорусская деловая газета» за чэрвень 1997 года і май 1998 года (усяго 50 нумароў).

[9]Акрамя ўжо згаданых у выбарку трапілі па 5 нумароў кожнай газеты за студзень – сакавік 1999 года.





*Валерый Карбалевіч,*
*кандыдат гістарычных навук*

# Прыватызаваная дзяржава

Стварэнне аўтарытарнай дзяржавы ў Беларусі дыктуе неабходнасць прааналізаваць яе светапоглядныя вытокі, метады і механізмы функцыянавання.

Адным з галоўных тэзісаў усіх выступленняў прэзідэнта РБ з'яўляецца пытанне аб моцнай уладзе. Галоўным недахопам у дзейнасці ўрада Кебіча Лукашэнка лічыць ягоную слабасць, адсутнасць палітычнай волі. Ён не раз паўтараў, што да яго ўступлення на пасаду ўлада амаль што валялася пад нагамі. У звароце да грамадзян краіны напярэдадні рэферэндуму Лукашэнка падкрэсліў: «Успомніце: мы ўжо перажылі час безуладдзя, а дакладней, усеўладдзя Вярхоўнага Савета, час калектыўнай безадказнасці». У гэтым прэзідэнт бачыць асноўную прычыну крызісу і развалу, якія некалькі гадоў таму напаткалі краіну. І найважнейшае дасягненне сваёй дзейнасці Лукашэнка якраз бачыць ва ўсталяванні моцнай улады. Ён пастаянна падкрэслівае, што пасля завяршэння фарміравання моцных дзяржаўных структур як у цэнтры, так і на месцах у форме «вертыкалі» створаны ўсе ўмовы для «навядзення парадку» ў краіне. У сваім дакладзе на пасяджэнні Нацыянальнага Сходу 17 красавіка 1998 года Лукашэнка заявіў, што ў Беларусі ствараецца «прынцыпова новая мадэль дзяржавы», якую ён вызначыў як «эфектыўная дзяржава».

Светапогляднай асновай такіх падыходаў з'яўляецца спрошчаны погляд на грамадства, уяўленне, што яно развіваецца толькі па волі людзей, без уліку ўплыву аб'ектыўных фактараў. Гэта вядзе да таго, што грамадскі арганізм разглядаецца толькі як аб'ект уздзеяння з боку дзяржаўнага апарату. І кіраванне ім – задача не сацыяльная, а адміністрацыйная.

Уяўленне прэзідэнта аб галоўных фактарах росквіту дзяржавы зафіксавана ў наступнай формуле: «Лёс дзяржавы залежыць ад узроўню дысцыпліны, строгай персанальнай адказнасці і абнаўлення кадраў, жорсткага кантролю за дзейнасцю дзяржаўных структур, умення шчыра працаваць у новых умовах». Аднак гэтая спрошчаная мадэль прыдатная хутчэй для саўгаса, чым для такой складанай сацыяльнай сістэмы, як сучасная дзяржава.

Перакананасць у неабмежаваных магчымасцях дзяржаўнай улады, якая дзейнічае пры дапамозе загадаў, нараджае утапічныя задачы тыпу: запусціць заводы, вярнуць цэны назад, ажыццявіць рэформы без зніжэння ўзроўню жыцця насельніцтва, утрымаць інфляцыю ў межах не больш за 2% у месяц пры адначасовай масіраванай грашовай эмісіі і г. д.

Цалкам заканамерна, што такому ўяўленню прэзідэнта больш адпавядае мадэль не дэмакратычнай, а аўтарытарнай або нават таталітарнай дзяржавы. Не выпадкова Лукашэнка з вялікай настальгіяй успамінае сістэму дзяржаўнага кіравання ў СССР, шкадуе аб яе разбурэнні і спрабуе аднавіць найбольш істотныя элементы: адміністрацыйную піраміду са строгай іерархічнай падпарадкаванасцю, кадравую палітыку, адносіны да права, ролю спецслужбаў і інш. У рэальнасці абвяшчаная «прынцыпова новая мадэль дзяржавы» ёсць не што іншае, як дрэнная копія старой савецкай мадэлі. Яна заснаўваецца не на Канстытуцыі, законах, якія прадугледжваюць падзел улад, гарантыю правоў чалавека, наяўнасць апазіцыі, незалежных СМІ, а на неабмежаванай уладзе дзяржавы на чале з аўтарытарным кіраўніком. У межах такога разумення дзяржаўнай пабудовы цалкам натуральныя шчырыя сімпатыі Лукашэнкі да формы кіравання, якая існуе ва Узбекістане, Кітаі, Іраку, Кубе, паўночнай Карэі. І як лагічнае завяршэнне ягоных палітычных поглядаў – апалагетыка гітлераўскай дзяржавы ў сумнавядомым інтэрв'ю нямецкай газеце «Хандэльсблат». Знамянальна, што, жадаючы абвергнуць сцверджанне незалежных СМІ аб ягоных сімпатыях да Гітлера, Лукашэнка ў дзень выбараў 10 снежня 1995 года на выбарчым участку растлумачыў, што ён з'яўляецца прыхільнікам не самога фашысцкага фюрэра, а створанай ім мадэлі дзяржаўнага ладу.

Аднак імкненне ўстанавіць аўтарытарную ўладу ўваходзіць у супярэчанне з аб'ектыўнымі грамадскімі працэсамі, якія пачаліся 10 гадоў таму. Замест таталітарнага дзяржаўнага кіравання стыхійна ўзнікаюць элементы самарэгулёўнай грамадзянскай супольнасці. Дзяржава пачала вызваляцца ад многіх функцый, якія пераходзілі да грамадскіх структур, грамадзян.

Аднак гэтая тэндэнцыя выклікае адмоўную рэакцыю Лукашэнкі. Ён разглядае яе як безуладдзе, анархію, аслабленне кіруемасці. Прэзідэнт перакананы ў бясспрэчным праве дзяржавы жорстка кантраляваць усе сацыяльныя працэсы ў грамадстве. І любая аўтаномная ад улад, самастойная, без дзяржаўнага кіравання з'ява (напрыклад, прадпрымальніцтва) – нешта анамальнае, адыходзячае ад нормы, выключэнне з правілаў. Зразумела, што ўсяля-

кія прэтэнзіі структур грамадзянскай супольнасці на самастойную ролю ўспрымаюцца прэзідэнтам як асабісты выклік. Ён бачыць у іх (і цалкам справядліва) канкурэнтаў у вырашэнні грамадскіх праблем. Рэакцыяй на гэта стала жорсткае патрабаванне да вертыкалі навесці парадак і дысцыпліну, «аднавіць кіруемасць».

У эканамічнай сферы гэта праяўляецца ў тармажэнні прыватызацыі («Нам удалося захаваць адзіны народнагаспадарчы комплекс», – заяўляе прэзідэнт), стварэнні юрыдычных і адміністрацыйных перашкод дзейнасці прадпрымальніцкіх структур (у краіне хутка не застанецца відаў дзейнасці, якія б не ліцэнзаваліся), адзяржаўленні прыватнага сектара, у першую чаргу камерцыйных банкаў. Намер улад стварыць адзіную канфедэрацыю, якая аб'ядноўвала б у адзін калгас усіх прадстаўнікоў недзяржаўнага сектара, – важны крок на гэтым шляху.

Ідзе планамернае наступленне на структуры грамадзянскай супольнасці, трэці сектар, недзяржаўныя арганізацыі. Працэс адзяржаўлення набыў усёабдымны характар, захоплівае ўсё новыя сферы – ад гуманітарнай дапамогі да прапаганды прававых ведаў.

Стварэнне прэзідэнцкай вертыкалі звяло на нішто значэнне дэмакратычнага прынцыпу мясцовага прадстаўніцтва, выціснула мясцовае самакіраванне на перыферыю грамадскага жыцця. Саветы, якія былі шырмай улады КПСС, цяпер сталі бяссільным дадаткам вертыкалі. Да таго ж іх колькасць скарацілася. Прэзідэнт сваім указам скасаваў 54 гарадскія і 48 пасялковых саветаў. У савецкія часы клапаціліся хоць бы пра захаванне бачнасці ўлады саветаў: існавала стройная пірамідальная сістэма іх пабудовы з дакладна рэгламентаваным парадкам выбараў, пасяджэнняў і інш. Цяпер у іх дзейнасці назіраецца поўны хаос. Недзе працуюць старыя саветы, што выбраны яшчэ ў 1990 годзе, у некаторых месцах выбраны новыя, а дзе-нідзе яны нават фармальна не функцыянуюць. У распрацаваным праекце новага закона аб выбарах мясцовых саветаў свядома захавана мінулая 50%-ная планка яўкі выбаршчыкаў. У такім выпадку можна беспамылкова прагназаваць, што ў буйных гарадах саветы зноў не будуць абраны.

Узмацненне адміністрацыйна-камандных метадаў кіравання краінай непазбежна вядзе да ўзрастання ролі сілавых структур і перш за ўсё спецслужбаў. Яны робяцца сацыяльным апірышчам рэжыму, істотным фактарам ягонай жыццядзейнасці, галоўным звяном дзяржаўнай улады. Ужо праз паўгода пасля ўступлення на пасаду Лукашэнка заявіў: «Я гатовы падтрымаць МУС, КДБ і армію (...), таму што яны – апірышча прэзідэнта ва ўсіх сферах», «Вертыкаль створана. Апірышча зроблена на КДБ, МУС». Выступаючы на калегіі КДБ 20 снежня 1996 года, ён канстатаваў: «Супрацоўнікі спецслужбаў з'яўляюцца ядром беларускага грамадства», «КДБ – аснова моцнай прэзідэнцкай улады», «Мой лёс як палітыка цесна звязаны з КДБ».

Умацаванне сілавых структур стала найважнейшым напрамкам палітыкі прэзідэнта. Сёння ў краіне дзейнічаюць сем службаў з правам вядзення аператыўна-вышуковай дзейнасці. Прычым некаторыя з іх з вельмі сумнеўнай прававой асновай. Так, да мая 1998 года дзейнасць Службы бяспекі прэзідэнта не рэгламентавалася законамі. А між тым СБП актыўна ўдзельнічала ў затрыманні прадстаўнікоў апазіцыі. Менавіта гэтая служба арыштавала міністра сельскай гаспадаркі Лявонава.

Беларусь усё больш становіцца падобнай на паліцэйскую дзяржаву. У органах МУС служыць каля 120 тысяч чалавек, што перавышае колькасць узброеных сіл у 1,5 раза.

Рэзка ўзрасло фінансаванне гэтых структур. Удзельная вага выдаткаў на ўтрыманне органаў унутраных спраў у агульнай суме выдаткаў дзяржаўнага бюджэту складала ў 1994 годзе 2,6%, у 1995 – 4,08%, у 1996 – 4,6%. Адпаведна на органы дзяржаўнай бяспекі: 1994 – 0,44%, 1995 – 0,7%, 1996 – 0,8%. У апошнія два гады вызначыць сапраўдныя выдаткі на сілавыя структуры, спецслужбы стала складана з-за існавання ў кіраўніка дзяржавы некалькіх бюджэтаў.

Такая вялікая ўвага дзейнасці спецслужбаў абумоўлена тым, што іх функцыі ў нашай дзяржаве намнога шырэйшыя, чым у дэмакратычнай краіне. Перакананасць Лукашэнкі ў тым, што ўсе грамадскія праблемы можна вырашыць адміністрацыйна-каманднымі метадамі, трансфармавалася ў цалкам пэўныя задачы, якія пастаўлены перад КДБ і МУС. У прыватнасці, на іхныя плечы ўскладзены цэлы комплекс эканамічных праблем. Так, міліцыі даручана стаць важным інструментам падтрымкі валютнага курсу (барацьба з «мяняламі»). А старшыня КДБ Мацкевіч у якасці недахопаў дзейнасці камітэта адзначаў слабую дапамогу ў прасоўванні прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў на знешні рынак.

Лукашэнка вярнуў спецслужбам тыя функцыі, якія яны мелі ў СССР. Прыняты нядаўна закон «Аб органах дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь» прадугледжвае, што КДБ, як і ў савецкія часы, з'яўляецца адначасова спецслужбай, праваахоўным органам і органам дзяржаўнага кіравання.

Беларусь – адзіная посткамуністычная краіна, дзе КДБ захаваў сваю былую назву. Гэта вельмі знамянальна. Не толькі не хаваецца, а настойліва высоўваецца гістарычная пераемнасць сённяшніх беларускіх органаў дзяржбяспекі з іх злавеснымі папярэднікамі. У 1997 годзе ў РБ на афіцыйным дзяржаўным узроўні ўрачыста адзначылі 80-годдзе УНК–КДБ і 120-годдзе з дня нараджэння Дзяржынскага. Старшыня КДБ Мацкевіч абвясціў, што беларускія чэкісты будуць дзейнічаць пад дэвізам «Жыць і працаваць па Дзяржынскаму». Зусім не выпадкова ў дзяржаўных газетах з'явіўся артыкул Залескага, які апраўдвае сталінскія рэпрэсіі. А пракуратура атрымала заданне разбурыць адзіны афіцыйна прызнаны ў Беларусі сімвал таталітарызму: даказаць, што ў Курапатах расстрэльваў не НКУС, а гестапа.

Пасля лістапада 1996 года ўлады перасталі маскіраваць, што адным з важнейшых напрамкаў дзейнасці спецслужбаў з'яўляецца барацьба з палітычнымі праціўнікамі рэжыму і асабіста прэзідэнта. Праз месяц пасля рэферэндуму старшыня КДБ Мацкевіч паставіў перад сваёй установай задачу не прамінуць спробы палітычнай апазіцыі рэанімаваць свае структуры і дэстабілізаваць абстаноўку ў краіне.

Але спецслужбы змагаюцца не толькі супраць апазіцыі. Яны займаюцца ўсеагульным палітычным вышукам, праверкай лаяльнасці, пошукам кампрамату на вышэйшых службовых асоб. Пры гэтым спецслужбы не абмяжоўваюцца ніякімі законамі. Ужо неаднойчы Лукашэнка са збянтэжанай наіўнасцю, быццам мімаходзь даваў зразумець, што вядзецца праслухоўванне апазіцыі, дэпутатаў. Летам 1996 года на сумесным пасяджэнні Кабінета міністраў і Савета бяспекі Лукашэнка, жадаючы пахваліць кіраўніка ўрада Чыгіра, прастадушна заявіў, што той нават дома ў прыватных размовах з жонкаю не дазваляе сабе крытыкаваць прэзідэнта. А «прызнанне» прэзідэнта ў праслухоўванні размоў заходніх паслоў выклікала міжнародны скандал.

Зразумела, што дзяржава, якая ствараецца Лукашэнкам, не можа быць прававой па вызначэнню. Часткова гэта абумоўлена ваяўнічым прававым нігілізмам самога прэзідэнта. Ён ставіцца да права ў поўнай адпаведнасці з сацыялістычнымі традыцыямі. Ягоныя ўяўленні, заснаваныя, як і ва ўсіх савецкіх людзей, на павазе не да закона, а да начальства, застаюцца на ўзроўні побытавай свядомасці. Ён упэўнены, што калі прэзідэнт «усенародна абраны», то можа рабіць усё, што ўздумаецца. Адсюль ягоныя адкрыцці. «Закон гэтага не дазваляе мне рабіць. Шчыра кажучы, я пайшоў на парушэнне закона» (Звязда, 1994. 24 верасня); «Я абкладзены гэтымі законамі. Я не пагляджу ні на закон, ні на што» (з выступлення перад ветэранамі 2 лютага 1995 г. // Свабода. 1995. № 6); «Часам даводзіцца ратаваць дзяржаву, парушаючы закон» (з гутаркі Лукашэнкі з рабочымі завода «Гарызонт» // Советская Белоруссия. 1996. 15 мая); «Калі толькі хоць маленькая будзе зачэпка, я вам абяцаю – без суда і следства ўсіх да аднаго, хто мае дачыненне да гэтага, – у каталажку» (з выступлення прэзідэнта па Беларускаму тэлебачанню 20 чэрвеня 1996 г.); «Ды ці буду я глядзець на нейкія там законы, калі пакутуе побач чалавек?» (з інтэрв'ю Лукашэнкі групе расійскіх журналістаў 15 мая 1998 г. // Белорусский рынок. 1998. №19).

Лукашэнка аб'явіў, што прынцып падзелу улад стаў пагрозай для нашай дзяржавы. Яшчэ два гады таму прэзідэнт выказаў арыгінальную па навізне і наватарству канцэпцыю аб «ствале» (прэзідэнцкая ўлада), на якім павінны расці астатнія «галіны» ўлады (заканадаўчая і судовая). Пасля лістападаўскага рэферэндуму гэты дамарослы батанічны мутант пачаў сохнуць. «Ствол» эвалюцыянаваўся у слуп...

Яшчэ ў ліпені 1996 года ў гутарцы з журналістамі, адказваючы на пытанне аб узаемаадносінах з судовай уладай, Лукашэнка сказаў: «Тут справа некалькі прасцейшая, бо, паводле Канстытуцыі, яна з'яўляецца фактычна прэзідэнцкай. Так, дэкларавана самастойнасць судоў, але прызначае і адхіляе суддзяў ад займаных пасад, акрамя членаў Вярхоўнага суда, прэзідэнт. У сілу гэтага прэзідэнту прасцей праводзіць сваю палітыку праз судовую ўладу» (Советская Белоруссия. 1996. 12 ліпеня). Нагадаю, што размова ішла аб старой Канстытуцыі, дзе ўлада прэзідэнта яшчэ чымсьці абмяжоўвалася.

Зараз суды апынуліся ў поўнай залежнасці ад прэзідэнцкай вертыкалі, пачынаючы ад прызначэння суддзяў і да забеспячэння іх памяшканнямі, транспартам, жыллём. Што да апошняга, то прэзідэнт летам 1997 года сваім указам абвясціў кватэры, якія выдзяляюцца вертыкаллю суддзям, службовым жыллём з усімі вынікаючымі адсюль правамі на яго. Каб ні ў кога з суддзяў не ўзнікала спакусы пагуляць у незалежнасць.

Такім чынам, функцыі судовай улады ў нас іншыя, чым у прававой дзяржаве. Яна служыць не столькі закону, колькі выканаўчай уладзе і з'яўляецца інструментам у яе руках. Ілюстрацыяй гэтаму могуць служыць шматлікія прыклады судовых працэсаў над прадстаўнікамі апазіцыі, аб чым шмат пісалі апазіцыйныя газеты.

Зусім не стыкуецца з самім паняццем права той факт, што прэзідэнт сваім указам склікае ўсебеларускі судовы «партгасактыў» (з'езд) і дае ўказанні суддзям. Лукашэнка, як строгі начальнік сярод сваіх падначаленых, прабраў іх за лібералізм, указаў на памылкі пры вынясенні прысудаў і папярэдзіў, што скаргі на дзейнасць судоў, якія ён атрымлівае, знаходзяцца на асобым кантролі. Ён патрабаваў ад судоў яшчэ больш цеснага «ўзаемадзеяння з выканкамамі».

Такім чынам, з самага пачатку свайго праўлення Лукашэнка ўзяў курс на ліквідацыю прававой дзяржавы. Паступова сіла права ў краіне была заменена правам сілы. Кульмінацыяй гэтага працэсу было незаконнае ўвядзенне новай канстытуцыі ў выніку рэферэндуму 24 лістапада 1996 года. Цікава, што сваімі ўказамі і дэкрэтамі прэзідэнт неаднаразова парушаў і ўласную канстытуцыю. Напрыклад, дэкрэт аб змене бюджэту. Гэта значыць, што для прэзідэнта непрымальны любы закон, любая прававая рэгламентацыя ўвогуле, нават уласнаручна зацверджаная. Вядомы юрыст і палітык Ганчар адзначаў у сувязі з гэтым: «Гульня па правілах – а закон заўсёды мае на ўвазе прытрымліванне пэўных правілаў усімі і кожным – у такой сітуацыі для Лукашэнкі становіцца не толькі разбуральным, але і варожым, агрэсіўным асяродкам. Таму ягонае жаданне вырвацца з яго цалкам зразумелае... Паколькі такі асяродак для яго не проста дыскамфортны, а сапраўды чужародны».

Палітыка Лукашэнкі нанесла магутны ўдар па і без таго невысокай прававой свядомасці насельніцтва, замацавала ў грамадстве прававы нігілізм, непавагу да законаў. Гэта пацвярджаюць шматлікія прыклады.

У маі – чэрвені 1996 года вучонымі НІСЭПІ ў ходзе сацыялагічнага даследавання задавалася пытанне: «Як бы вы паступілі з тымі палітычнымі сіламі, дзейнасць якіх не супярэчыць закону, але, на ваш погляд, наносіць шкоду інтарэсам Беларусі?» Аказалася, што 68,2% апытаных лічылі неабходным забараніць або абмежаваць дзейнасць такіх сіл. Іншымі словамі, яны перакананы, што палітычная мэтазгоднасць вышэйшая за закон.

Па даных сацыёлагаў Магілёўскага тэхналагічнага інстытута 60% моладзі прызнае магчымым і дапушчальным парушэнне закона. Вучоныя прыйшлі да высновы, што маладыя беларусы заражаныя «вірусам экстрэмізму».

Па колькасці зняволеных на душу насельніцтва РБ займае адно з першых месцаў у свеце. На нядаўняй прэс-канферэнцыі генпракурор Беларусі Бажэлка паінфармаваў, што ў 1997 годзе да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута больш за ча-

тыры мільёны (!) грамадзян – гэта больш за палову дарослага насельніцтва краіны.

У поўнай адпаведнасці з поглядамі Лукашэнкі на функцыі дзяржавы ажыццяўляецца кадравая палітыка. Яна практычна ў чыстым выглядзе ўзятая з мінулага, з арсеналаў камітэтаў КПСС. У гэтым ёсць свая заканамернасць. Узнаўленне мінулай сацыяльнай мадэлі натуральным чынам патрабуе такога самага метаду падбору кадраў. Патрэба ў кіраўніках, якія ўмеюць працаваць ва ўмовах рынку і дэмакратыі, знікла. На першы план вылучаюцца людзі, якія спавядаюць сілавыя, адміністрацыйна-камандныя метады кіравання, жорсткія і ў той самы час спраўныя, верныя вышэйшаму начальству, гатовыя бяздумна выканаць любы антызаконны ўказ. Так, знаёмячы з новапрызначаным міністрам адукацыі і навукі Стражавым, Лукашэнка характарызаваў яго як «валявога, рашучага чалавека». Гэта, па ягонаму меркаванню, самыя важныя якасці, неабходныя для такой пасады. Цалкам заканамерна, што вялікую ролю ў бліжэйшым акружэнні прэзідэнта адыгрываюць кадравая і адстаўныя вайскоўцы.

Лукашэнка, падобна, упэўнены, што кіраваць дзяржавай або любой ягонай структурай нескладана, і дзеля гэтага не трэба асаблівага розуму. Бо дзяржава – усяго толькі «вялікі саўгас». Прэзідэнт неаднойчы падкрэсліваў, што ў Беларусі «ў адрозненне ад іншых дзяржаў былога СССР рэформы праводзяць не лабаранты і прафесары-тэарэтыкі, а практыкі і прагматыкі», «якія разбіраюцца ў эканоміцы на ўзроўні завода, калгаса, саўгаса, фермера». Менавіта такі тэхнакратычны падыход ужываўся пры прызначэнні першых сакратароў райкамаў, абкамаў партыі ў недалёкім мінулым.

Знамянальныя адносіны прэзідэнта да юрыстаў-прафесіяналаў. Лукашэнка грэбліва абвясціў іх «букварнымі юрыстамі», «якія жыцця не бачылі» і спрабуюць укараняць у нас агульнапрызнаныя палажэнні сусветнай юрыспрудэнцыі тыпу «закон зваротнай сілы не мае». Прэзідэнт абвясціў гэты тэзіс выдумкай і падкрэсліў: «Законы павінны класціся на наша жыццё. І законы павінны пісаць тыя, хто на сваёй шкуры адчуў, што такое рэалізаваць гэтыя законы». Трэба думаць, маюцца на ўвазе «практыкі», работнікі нізавых звенняў дзяржаўнага і гаспадарчага апарату, якія і павінны заняцца распрацоўкай законаў.

У наяўнасці спроба ўзнавіць савецкі вопыт перыяду пасля кастрычніка 1917 года, калі на чале дзяржустаноў станавіліся рабочыя і матросы, а законнасць замянялася рэвалюцыйнай мэтазгоднасцю. Найбольш яркая ілюстрацыя гэтай тэндэнцыі – прызначэнне старшынёй праўлення Нацбанка «рэвалюцыйнага матроса» Пракаповіча.

Своеасаблівае разуменне Лукашэнкам прафесіяналізму, адданне перавагі практыкам вядзе да таго, што нават нязначны ўзровень абстракцыі, любыя спробы канцэптуальнага асэнсавання запланаваных дзеянняў, сістэмнага бачання дзяржаўных праблем выклікаюць у яго алергію. Зразумела, што адпаведныя адносіны праяўляюцца ў прэзідэнта і да людзей, якія стаяць за такім падыходам. Таму цалкам натуральным робіцца сыход з прэзідэнцкай каманды Ганчара, Булахава, Фядуты, Багданкевіча.

Непазбежным вынікам такога падыходу з'яўляецца люмпенізацыя дзяржаўнай службы не столькі ў сацыяльным, колькі ў інтэлектуальным плане. Інтэлект патрэбны толькі для абслугоўвання і абгрунтавання чарговага зігзага прыхамаці прэзідэнта, ягонай новай прапагандысцкай кампаніі. У гэтым – сацыяльная функцыя прафесараў Абрамовіча, Васілевіча, Антановіча, Капітулы.

Прэзідэнт не раз выказваў шкадаванне, што была разбурана сістэма падбору і расстаноўкі кадраў, якая эфектыўна дзейнічала ў камуністычныя часы. І Лукашэнка загадаў аднавіць яе на ўсіх узроўнях выканаўчай вертыкалі. Ён прызнаўся, што праз людзей, якія некалі мелі адносіны да ЦК КПБ, спрабуе хоць бы знайсці спісы рэзерву кадраў. Гэта значыць, не свабодная канкурэнцыя, конкурс, як у дэмакратычным грамадстве, а вылучэнне зверху, паводле ўказання вышэйшага кіраўніка стала асноўным механізмам падбору і расстаноўкі кадраў.

Цалкам натуральна, што пры стварэнні вертыкалі Лукашэнка зрабіў стаўку на былую наменклатуру. Менавіта яна стала сацыяльным апірышчам рэжыму, бо ідэальна адпавядае тым крытэрыям, па якіх сёння падбіраюць кадры.

Аб засіллі старых кадраў на розных узроўнях дзяржаўнай улады гавораць самі прадстаўнікі прэзідэнцкай каманды. Віцэ-прэм'ер, былы кіраўнік службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта Далгалёў, адзначыў у інтэрв'ю: «Я лічу, што «вертыкаль» прэзідэнтам праіграна. Там у асноўным... засталася старая наменклатура» (Звязда. 1995. 1 красавіка). Галоўны спецыяліст упраўлення кадравай палітыкі адміністрацыі прэзідэнта Белкіна, аналізуючы дзейнасць мясцовай улады, сцвярджала: «Баль як і раней правяць «былыя», якія вельмі неахвотна пускаюць у сваё кіруючае асяроддзе людзей не свайго кола» (Советская Белоруссия. 1995. 21 лістапада).

Прэзідэнцкая газета «Советская Белоруссия», вывучаючы работу вертыкалі на падставе лістоў чытачоў, прыйшла да высновы: «Напалоханыя прэзідэнтам мясцовыя царкі ачуньваюць і вяртаюцца да мінулых форм і метадаў работы. Зноў у пашане фанабэрыя, высакамер'е, непавага да простых людзей, спрытнасць пры выкарыстанні грамадскага пірага... Старыя традыцыі інтрыг, расправы з няўгоднымі – зноў узнімаюць галаву» (Советская Белоруссия. 1995. 4 жніўня).

Кола замкнулася. Прыйшоўшы да ўлады пад лозунгам барацьбы з наменклатурай, Лукашэнка сваёй палітыкай садзейнічаў яе рэгенерацыі і аднаўленню ўлады над бяспраўным народам.

Звяртае на сябе ўвагу яшчэ адна цікавая з'ява. Акрамя асабістай адданасці, важным крытэрыем пры падборы кадраў робіцца наяўнасць кампрамату. У гэтым выпадку ступень адданасці ўзрастае. У якасці прыкладу можна назваць Ціцянкова, Агальца і інш., якія неаднаразова абвінавачваліся СМІ ў розных грахах. Гэтая з'ява са сцвярджэннем у грамадстве беззаконня і адзінаўладдзя прэзідэнцкай каманды ўсё больш ператварае апошнюю ў структуру, якую часта можна бачыць у замежных дэтэктывах, асабліва ў італьянскіх серыялах.

Сфарміраваная ў краіне сацыяльна-эканамічная мадэль няздольная функцыянаваць у нармальным рэжыме, г. зн. самаразвівацца, саманастройвацца натуральным чынам. За апошнія чатыры гады былі паслядоўна разбураны ўсе механгізмы самарэгуляцыі ў эканоміцы і грамадска-палітычным жыцці. У эканоміцы выкаранены элементы саманастройкі ў выглядзе свабодных цэн, валютнага курсу, бірж, канкурэнцыі, пошуку рынкаў збыту і інш. У грамадскім жыцці разбураюцца атрыбуты дэмакратычнага самакіравання ў выглядзе парламента, мясцовых саветаў, інстытутаў грамадзянскай супольнасці. Больш за тое, і ў самой сістэме дзяржаўнай улады адбылася рэзкая цэнтралізацыя, пераразмеркаванне ўладных паўнамоцтваў: ад мясцовай вертыкалі, розных міністэрстваў і ведамстваў – на вяршыню адміністрацыйнай піраміды.

Як у любой падобнай сістэме, менавіта з гэтай вяршыні павінны зыходзіць імпульсы, якія прыводзяць яе ў рух. Прычым кантроль павінны быць дастаткова жорсткім. Таму неад'емным элементам механізму кіравання тут з'яўляюцца рэпрэсіі. Яны выконваюць некалькі функцый.

Адна з іх – укараненне ў грамадскае жыццё фактару страху. Прычым не толькі для запалохвання сёння дзейнічаючых або патэнцыяльных праціўнікаў рэжыму. Страх павінен стаць важным фактарам эканамічнага жыцця. У межах фармуляванай эканамічнай мадэлі роля матэрыяльных стымулаў, якія ў нармальных гаспадарчых умовах з'яўляюцца асноўным рухавіком развіцця, моцна абмежаваная. Вопыт будаўніцтва сацыялізму ў СССР паказвае, што ў нейкай ступені іх можна замяніць энтузіязмам і страхам. Для энтузіязму патрэбна вялікая ідэя і зусім іншыя гістарычныя ўмовы. Нічога гэтага сёння няма. Застаўся фактар страху. У 30-ыя гады «барацьба са шкодніцтвам» выконвала важную гаспадарчую функцыю. Сёння пры дапамозе страху прэзідэнт спрабуе прымусіць працаваць паміраючую эканамічную мадэль, выціскаючы з яе апошнія сокі. Ягоныя дзеянні па-свойму лагічныя. Ці змяняць сістэму, ці закручваць гайкі і будаваць лагеры.

Ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму, калі кантроль над правячай элітай з боку грамадства адсутнічае, рэпрэсіі патрэбны і для ўтрымання на кароткім павадку ва ўладара ўсіх звёнаў наменклатуры. У іншым выпадку бюракратыя выйдзе з-пад кантролю і ператворыцца ў самастойную палітычную сілу са сваімі асабістымі інтарэсамі, якая дзейнічае аўтаномна ад «бацькі» і нават дыктуе яму сваю волю. Так было ў часы Брэжнева і часткова ва ўжо незалежнай Беларусі часоў праўлення Кебіча.

Быць сёння ў Беларусі кіраўніком – самая небяспечная прафесія. Арышт Віннікавай павінны быў запужаць усіх банкіраў. Перыядычна «прарэджваюць» кіраўнікоў прадпрыемстваў (найбольш вядомыя прыклады: суд над дырэктарам бабруйскага «Фандока» Таранавым, суд над дырэктарам магілёўскага «Магатэкса» Сямёнавым). Арышт старшыні АТ «Рассвет» Старавойтава стаў папярэджаннем усім старшыням калгасаў. А наручнікі міністра сельскай гаспадаркі Лявонава – гэта пагроза ўсёй правячай верхавіне. Усе гаспадарчыя кіраўнікі працуюць ва ўмовах перманентнага тэрору кантралюючых органаў. Начальства ў нас заўсёды не любілі. Даказаць, што менавіта яно вінаватае ў дрэнным жыцці народа, цяжкасці не зробіць. Любыя, самыя жорсткія меры Лукашэнкі супраць кіраўнікоў пройдуць пад бурныя авацыі ягонага электарату.

З нядаўняга мінулага ўзята яшчэ адна форма работы з кадрамі – «партгасактывы», селектарныя нарады. Зусім немагчымая і непатрэбная ў дэмакратычнай краіне, яна стала неабходным атрыбутам кіравання ва ўмовах існуючага ў нас рэжыму. Рэгулярнае правядзенне з'ездаў, нарад з работнікамі розных прафесій, галін эканомікі, дзяржаўнага кіравання і дырэктыўныя выступленні на іх прэзідэнта з указаннямі, пагрозамі, накачкамі, дэманстратыўным адхіленнем ад пасад не такія ўжо бессэнсоўныя. Такія метады неэфектыўныя, бо неэфектыўная сама сістэма. У межах жа самой сістэмы «партгасактывы» – важны інструмент падтрымкі яе функцыянавання.

Неабходным элементам такой сістэмы з'яўляецца гіпертрафаваная роля кантралюючых органаў. Акрамя ўмацавання і ўтрымання асабістай улады, сістэма ўсёабдымнага кантролю павінна, на думку яе стваральніка, вырашыць яшчэ дзве задачы: аднавіць працаздольнасць і жыццядзейнасць усіх структур і, перш за ўсё, прымусіць працаваць эканоміку; весці эфектыўную барацьбу з карупцыяй.

У савецкія часы органы кантролю – камісіі партыйнага кантролю, камітэты народнага кантролю – былі прыдаткам партыйных камітэтаў, мясцовых органаў улады. Прэзідэнт фактычна вывеў іх з падпарадкавання вертыкалі і падначаліў напрамую сабе. Лукашэнка ператварыў кантрольныя органы ў нясучую канструкцыю дзяржаўнага кіравання, важны фактар эканамічнага і сацыяльна-палітычнага жыцця краіны. Як ні дзіўна, але значэнне чыноўніка-кантралёра стала вышэйшым, чым чыноўніка-менеджэра.

Аднак іх гіпертрафаванае разрастанне прыводзіць зусім не да тых вынікаў, якія планаваліся. Узмацненне кантролю за дзяржсуб'ектамі стала сур'ёзным тормазам эканамічнага развіцця. Бясконцыя, адна за адной праверкі адрываюць людзей ад справы. Атрыманыя вынікі ў выглядзе знойдзеных парушэнняў не адпавядаюць патрачаным намаганням.

Галоўная шкода, якую робяць эканоміцы існуючыя спосабы кантролю, у тым, што ён (кантроль) стаў сур'ёзнай перашкодай развіццю рынкавых адносін. Бо рынак – гэта свабода ў межах даволі ліберальных правілаў гульні. У нас такія правілы ў выглядзе рынкавага заканадаўства знаходзяцца з зачаткавым стане, і дзейнічае прынцып таталітарнага грамадства: забаронена ўсё, што не забаронена законам. І кантралюючыя органы з азартам заганяюць эканамічныя адносіны ў ценявы сектар. Напрыклад, барацьба супраць спецыялізаваных інвестфондаў прывяла да іх паралічу і садзейнічала бурнаму росквіту ўсемагчымых фінансавых пірамід «а ля Маўродзі», з'яўленню новага сацыяльнага слоя – абдураных укладчыкаў.

Місія кантралюючых органаў яшчэ і ў тым, каб быць матэрыяльным выразнікам той ідэі-фікс, з якой Лукашэнка перамог на прэзідэнцкіх выбарах: барацьба з карупцыяй.

Парадокс у тым, што эканамічная мадэль, заснаваная на перавазе дзяржуласнасці пры адначасовай частковай лібералізацыі гаспадарчай дзейнасці, украпленне ў яе элементаў рынку – ідэальная для карупцыі. Аб гэтым сведчыць вопыт краін трэцяга свету. Аднак нават на іх фоне Беларусь стаіць асабняком, бо нідзе няма такой сітуацыі, калі дзяржаў-

ная уласнасць дасягае 80%. А спробы ўсталявання жорсткага кантролю гаспадарчай дзейнасці ва ўмовах пераходнай эканамічнай мадэлі вядуць да разрастання ценявой эканомікі ў геаметрычнай прагрэсіі, ператвараюць дзяржаўны рэкет у пастаянна дзейны фактар сацыяльных адносін. Калі прыняць да ўвагі прававое безгранічча, якое пануе ў краіне, то ствараецца надзвычай спрыяльны асяродак для карупцыі. Яе маштабы рэзка ўзраслі, яна ператварылася ў сістэму. Памерлы прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Куняўскі адзначаў: «Бізнес у Беларусі крымінальны не таму, што ён крымінальны па сутнасці, а таму, што крымінальныя самі абставіны: прадпрымальнік кроку не можа зрабіць, каб каму-небудзь не «падмазаць».

Між тым колькасць кантралюючых органаў дасягнула 16. Яны ўжо перашкаджаюць адзін аднаму і ўзнікла патрэба ў стварэнні пры адміністрацыі прэзідэнта савета па іх каардынацыі. Росквіт карупцыі і рост колькасці і ролі кантрольных органаў развіваюцца паралельна, падсілкоўваючы адзін аднаго. Парадаксальна, але адзіны, хто выйграе ад такой сітуацыі – гэта Лукашэнка. Для таго, каб пастаянна падтрымліваць імідж нястомнага барацьбіта з карупцыяй, трэба ажыццяўляць яе пашыранае ўзнаўленне. Тады можна папулярна тлумачыць народу, што я, маўляў, жорстка адсякаю галовы гэтай гідры, а яны зноў вырастаюць. Кантроль усё больш становіцца фактарам палітычнай барацьбы, спосабам пошуку кампрамату супраць апанентаў.

Як у любой аўтарытарнай адміністрацыйнай пірамідзе ўладар, які сядзіць на яе вяршыні, павінен узяць асноўныя рычагі кіравання сабе. Толькі ў такім выпадку можна падтрымліваць функцыянаванне сістэмы. Таму Лукашэнка аднаасобна прымае ўсе хоць крыху значныя рашэнні. Ён выдае ліцэнзіі на экспарт важных, па ягонаму меркаванню, тавараў, кантралюе буйныя камерцыйныя здзелкі, дазваляе прыватызацыю або акцыянаванне прадпрыемстваў, кіруе развіццём гістарычнай навукі і напісаннем школьных падручнікаў, зацвярджае сцэнарыі мастацкіх фільмаў, дае ўстаноўку перад гульнёй зборнай па хакею г. д. Прэзідэнт неаднойчы публічна адзначаў, што толькі не прасачы за нейкім участкам, як там адразу правал.

Наступствам гэтага стала масавая практыка звяртання насельніцтва да прэзідэнта дзеля вырашэння любых праблем, якія цалкам могуць быць вырашаны на месцах. Кожны месяц на ягонае імя прыходзіць каля 30 тысяч лістоў са скаргамі.

Паколькі механізм самарэгуляцыі і самастойнага прыняцця рашэнняў на ўсіх узроўнях дзяржаўнага кіравання адсутнічае, даводзіцца браць на ўзбраенне надзвычайныя меры для вырашэння самых руцінных праблем, напрыклад аплаты энергарэсурсаў. На перыяд уборкі ўраджаю ў краіне ўводзіцца «асобы рэжым функцыянавання». Каб забяспечыць насельніцтва мінімальнай колькасцю каўбасы, прэзідэнту даводзіцца прыкладаць гераічныя намаганні, асабіста правяраючы магазіны і мясакамбінаты.

Прынцып надзвычайнасці распаўсюджваецца і на неэканамічную сферу. У час уступных экзаменаў ВНУ пераводзяцца на асаднае становішча. Стадыёны рамантуюцца выключна метадам аўралу. Нават для выратавання беларускага футбола прымаюцца не звычайныя, а надзвычайныя меры: тэрміновае скліканне пазачарговай канферэнцыі Федэрацыі гэтага віду спорту.

Лагічным канцом руху па гэтым шляху можа стаць паўночнакарэйскі варыянт, дзе ў класічным выглядзе ажыццёўлена такая мадэль дзяржаўнага кіравання. «Вялікі правадыр і настаўнік таварыш Кім Ір Сен» увесь час ездзіў па краіне і асабіста кіраваў работай шахцёраў у шахтах, вучыў рыбакоў лавіць рыбу, працаўніц птушкафабрык вырошчваць птушку і г. д. Натуральна, у такіх умовах думаць пра доўгачасовую стратэгію, перспектывы развіцця краіны проста няма калі. Можа быць, таму сёння ў КНДР масавы голад.

Адваротным бокам такой палітыкі стала ператварэнне нізавых звенняў дзяржапарату з арганізатараў у простых стрэлачнікаў і рэтранслятараў указанняў зверху. Віцэ-прэм'ер Далгалёў так характарызаваў сітуацыю: «На месцах часам пануе спакой, адсутнічае жывая ініцыятыва. Асобныя чыноўнікі на месцах зноў самаўхіліліся і ціхенька хочуць перачакаць... Сваю задачу мясцовая ўлада бачыць толькі ў тым, каб пісаць у Кабінет Міністраў лісты з просьбай выдзеліць грошы».

Натуральным асяродкам жыцця і полем самарэалізацыі ўсіх таталітарных і аўтарытарных рэжымаў з'яўляецца пастаянная падтрымка і нагнятанне напружанасці ў грамадстве. Узнаўленне надзвычайнага становішча для ўмацавання сваёй улады, узнаўленне мадэлі асаджанай крэпасці – ці не асноўная функцыя ўсіх дыктатур. У Савецкім Саюзе падрыхтоўкай да вайны з імперыялізмам было прасякнута ўсё жыццё грамадства: ад стварэння гіпертрафаванага ВПК да дзіцячай гульні «Зарніца». У Албаніі ў часы Энвера Ходжы амаль увесь выраблены цэмент выкарыстоўваўся на будаўніцтва дотаў і дзотаў. На Кубе і ў Паўночнай Карэі ўсё насельніцтва пастаянна трэніруецца ў адбіванні нападу «амерыканскіх агрэсараў і іх марыянетак».

Такую самую функцыю выконвае і справакаваны Лукашэнкам канфлікт з Захадам. На селектарнай нарадзе ў жніўні 1998 года прэзідэнт параўнаў РБ з Брэсцкай крэпасцю ў гады вайны. Гэта сімвал, удалы ідэалагічны вобраз для выжывання рэжыму. Таму пастаянны пошук ворагаў, які робіцца Лукашэнкам, – праяўленне не толькі якасцей ягонай асобы, але і вельмі дакладная і знамянальная характарыстыка сутнасці рэжыму. Гэта тэст на пазнавальнасць. Прычым у перыяд палітычнага крызісу, унутранага (напярэдадні рэферэндуму) або знешняга (канфлікт вакол Драздоў), ідэалагічная варожасць да апанентаў даводзіцца да нябачанага накалу, да стану псіхалагічнай вайны.

Курс на ўсталяванне кантролю дзяржавы над грамадзянскай супольнасці суправаджаецца іншым цікавым працэсам, які можна ўмоўна назваць прыватызацыяй дзяржавы. У РБ хутка ствараецца невядомая ў сучасным свеце форма ўласнасці – прэзідэнцкая. Рукамі Ціцянкова Лукашэнка ўзяў у сваё распараджэнне прыбытковую нерухомасць і іншыя гаспадарчыя аб'екты. Зробленыя два гады таму Кантрольнай палатай, дэпутатаў спробы праверыць выдаткаванне атрыманых сродкаў былі жорстка спынены. У перыяд сярэднявечча існавалі ўдзельныя землі, якія належалі манархам і прыбыткі ад якіх ішлі не ў дзяржаўную казну, а на асабістае спажыванне каралеўскіх і царскіх сем'яў. Ведамства Ціцянкова, падобна, стала асабістым для Лукашэнкі.

Пазабюджэтныя прэзідэнцкія формы сталі пагалоскай у незалежных СМІ ў сувязі са скандалам вакол фірмы «Торгэкспо» і фонду імя М.Эсамбаева. Выступаючы на з'ездзе дзелавых колаў, Лукашэнка прызнаўся, што ён падпісаў каля 200 указаў аб ільготах для розных фірмаў. Якія паслугі атрыманы ад іх, невядома. Па звестках экспертаў, колькасць грошай у пазабюджэтных фондах дасягае памераў афіцыйнага дзяржбюджэту краіны.

Ёсць меркаванне, што ў таталітарным грамадстве няма карупцыі, бо сама дзяржава становіцца мафіёзнай. Лукашэнка, гаворачы словамі Маркса, ператварыў дзяржаву ў сваю прыватную ўласнасць. Асаблівасць існуючай у нас мадэлі ў тым, што чыноўніцкая карупцыя і мафіёзнасць самой дзяржавы стварылі ўстойлівы сімбіёз. Модны сёння тэрмін «алігархія» ў беларускім варыянце азначае цесны саюз вузкага кола вышэйшай дзяржбюракратыі з невялікай часткаю бізнесу, які карыстаецца ўсімі магчымымі ільготамі і прывілеямі.

Многія прыхільнікі Лукашэнкі сцвярджаюць, што ў чым нельга сумнявацца, дык гэта ў ягонай асабістай чэснасці і бескарыслівасці. Аднак, па-першае, у нашых умовах нічога немагчыма праверыць. Падругое, усё гэта нагадвае міф пра сціпласць Сталіна, які «за ўсё сваё жыццё нічога не назапасіў, а хадзіў у адным шынялі». Калі ў поўным распараджэнні знаходзіцца цэлая дзяржава, паняцце «сваё – не сваё» размываецца. Можна з чыстым сумленнем здзейсніць прагулку ў алімпійскі Нагана за дзяржаўны кошт і шчыра абурацца на абвінавачанні ў трацe народных грошай на асабістыя мэты.

Можна сказаць, што дэвіз Людовіка XIУ «Дзяржава – гэта я» ў Беларусі ажыццявіўся. Цікава, што Лукашэнка вельмі часта ў публічных выступленнях паняцці «Беларусь», «наша краіна», «наша дзяржава» замяняе словам «я» («Я вам буду пастаўляць трактары...»).

Сярод аналітыкаў даўно выказваецца думка, што на этапе трансфармацыі таталітарных грамадстваў аўтарытарызм заканамерны, непазбежны і нават карысны, бо ў такім грамадстве няма сацыяльнай падтрымкі рэформаў. Да такой канцэпцыі можна ставіцца па-рознаму, але ў любым выпадку размова ідзе пра аўтарытарны рэжым правага кшталту, дакладна арыентаваны на рынкавыя рэформы. Класічны прыклад – рэжым Піначэта ў Чылі. У нас жа сітуацыя прынцыпова іншая. Сфарміраваны аўтарытарны рэжым з'яўляецца па сваёй ідэалагічнай сутнасці левым; ён густа замешаны на папулізме, абапіраецца на самыя бедныя, люмпенізаваныя слаі насельніцтва, арыентаваны не на рэформы, а на кансервацыю старой сістэмы.

Спроба ўзнавіць старую савецкую мадэль кіравання дзяржавай рана ці позна асуджана на правал. Гэтая палітыка знаходзіцца ў страшэннай супярэчнасці з аб'ектыўнымі сусветнымі тэндэнцыямі. Самаразлажэнне таталітарнай сістэмы і стыхійнае развіццё грамадзянскай супольнасці, якое ідзе насуперак супраціўленню ўладарных структур, зайшло настолькі далёка, што спыніць гэтыя працэсы немагчыма, нават калі ператварыць усю краіну ў ГУЛАГ. Другі раз гісторыю можна паўтарыць толькі ў выглядзе фарса.

Мадэль дзяржаўнага ладу і кіравання, якая ствараецца Лукашэнкам, па вызначэнню не здольная вырашыць ніводнай праблемы, якая паўстала перад краінай на цяперашнім гістарычным этапе. І чым больш прэзідэнт канцэнтруе ўладу ў сваіх руках, тым горшым становіцца эканамічнае, сацыяльнае, унутры- і знешнепалітычнае, маральна-псіхалагічнае становішча у краіне.

*12 жніўня 1998 года.*

*Міхаіл Пліско,*
*галоўны рэдактар бюлетэня «Адкрытае грамадства»*

# Праблемы і перспектывы кансерватызму ў Беларусі

**Ідэнтыфікацыя кансерватызму.** Ужыванне паняцця «кансерватызм» у дачыненні да Беларусі падаецца, на першы погляд, не толькі недарэчным, але і палітычна шкодным. Прынамсі, у гэтым не сумняваецца большасць беларускіх дэмакратаў. Для іх паняцце з'яўляецца амаль забароненым. На ягонае ўжыванне ў СМІ накладзена своеасаблівае табу. Праўда, тэрмін «кансерватызм» у апошні час стаў ужывацца значна часцей, але толькі ў спалучэнні са словамі «савецкі», «камуністычны», «лукашэнкаўскі» і да т. п. Кантэкст ужывання гэтага слова заўсёды носіць негатыўны характар. Яго, як правіла, звязваюць з палітыкамі пракамуністычнага і папулісцкага напрамкаў. Так, напрыклад, вядомы беларускі палітолаг Валерый Карбалевіч у адным са сваіх артыкулаў назваў зробленае рэжымам Лукашэнкі «кансерватыўнай рэвалюцыяй». У свядомасці большасці нават палітычна актыўных людзей слова «кансерватар» азначае «рэакцыянер», і толькі. На жаль, рэвалюцыйная рыторыка, якая выклікана вядомымі асаблівасцямі развіцця Беларусі, трывала ўвайшла ў моду і карыстаецца вялікім попытам у палітыкаў розных ідэалагічных напрамкаў. З аднаго боку, тэрміналагічная памылковасць ужывання паняцця «кансерватызм» з,яўляецца вынікам тэарэтычнай нераспрацаванасці, ідэалагічнай і арганізацыйнай нясталасці ўласна беларускага кансерватарскага руху, з другога - гэта вынік нязДзейненых чаканняў пакалення беларускіх палітыкаў, якія не дачакаліся дэмакратычных перамен у сябе дома. Пакуль жа палітычна ангажаваная грамадская думка лічыць, што носьбітамі кансерватыўных ідэй у Беларусі з'яўляюцца арганізацыі і рухі левага напрамку. Нават прадстаўнікі зарубежных партый кансерватыўнага кшталтуу, наведваючы Беларусь, раяць сваім беларускім калегам, якія едуць на Захад, прэзентаваць сябе ў якасці арганізацый правацэнтрысцкага напрамку і пазбягаць ужывання слова «кансерватар», бо і там у дачыненні да Беларусі яно асацыюецца з прыхільнасцю да былога камуністычнага рэжыму.

**Арганізацыйная структура.** У канцы 80-ых гадоў, у перыяд крызісу і краху камуністычнай ідэалогіі і яе звязуючага ядра - камуністычнай партыі, на тэрыторыі Беларусі пачалі ўзнікаць рознага роду грамадскія арганізацыі і рухі. Арганізацыйнай церасналосіцы адпавядала ідэалагічнае шматгалоссе. Але ў гэтым ідэалагічным хоры, тым не менш, не было арганізацыі або партыі, якая б адкрыта абвясціла кансерватызм сваёй дактрынай.

Раней за іншых суб'ектаў палітыкі да тэм, якія складаюць сарцавіну кансерватыўнай ідэалогіі, - нацыя, гісторыя, рэлігія - звярнуўся Беларускі народны фронт (БНФ). Аднак абмеркаванне гэтых тэм у грамадстве адбывалася без абвяшчэння важнасці кансерватыўных каштоўнасцей і не азначала аўтаматычнага з'яўлення арганізацыйных структур кансерватарскага руху. У той час інакш, відаць, і не магло быць: усе былі ахоплены нясцерпным жаданнем хуткага злому старой камуністычнай сістэмы, і таму паняцце «кансерватызм» выходзіла за межы існуючых уяўленняў аб дэмакратычным працэсе і было, такім чынам, непрымальным. Таму фарміраванне асноў кансерватызму ў Беларусі адбывалася ў межах хрысціянска-дэмакратычнага руху. Так, напрыклад, элементы кансерватарскай ідэалогіі можна знайсці ў створаным у чэрвені 1991 года Беларускім хрысціянска-дэмакратычным саюзе, які, праўда, лічыў сябе не традыцыйнай партыяй, а свецкім працягам царквы. Фактычна членам БХДС мог стаць толькі вернік. БХДС быў партыяй, якая імкнулася аб'яднаць у сваіх шэрагах хрысціян розных рэлігійных канфесій: праваслаўных, каталікоў, пратэстантаў і грэка-каталікоў (уніятаў). Сваім бліжэйшым ідэалагічным і палітычным саюзнікам беларускія хрысціянскія дэмакраты лічылі Беларускі народны фронт. Узнікшыя рознагалоссі ўнутры кіраўніцтва партыі паміж прадстаўнікамі розных хрысціянскіх канфесій, а таксама канфлікт з кіраўніцтвам БНФ (у першую чаргу з З.Пазьняком) выклікалі арганізацыйны крызіс БХДС, які не дазволіў яму развіцца ў адну з найбольш уплывовых партый у Беларусі. Настойлівае імкненне беларускіх хадэкаў уступіць у Хрысціянскі інтэрнацыянал, а не ў Еўрапейскі дэмакратычны саюз (ЕДС) было яшчэ адным сведчаннем неразумення значэння кансерватызму для Беларусі. Таму гаварыць пра БХДС як пра пачынальніка кансерватыўнага руху ў Беларусі можна са значнымі агаворкамі.

У 1993 годзе, перад III з,ездам БНФ, у некаторых членаў кіраўніцтва гэтай арганізацыі (З.Пазьняк, Ю.Хадыка) узнікла ідэя пераўтварэння Фронту ў Хрысціянска-дэмакратычную партыю. Аднак яна не была рэалізавана з-за боязі, што змена назвы дэзарыентуе прыхільнікаў БНФ і прывядзе да звужэння кола прыхільнікаў гэтай арганізацыі. Нягледзячы на захаванне былой назвы, праграма БНФ, прынятая на III з'ездзе ў маі 1993 года, у многім адпавядала праграмным установкам левага крыла хрысціянскай дэмакратыі. Цікава адзначыць, што ў 1995 годзе, у перыяд падрыхтоўкі да парламенцкіх выбараў, асобныя кіраўнікі БНФ на перамовах з іншымі дэмакратычнымі партыямі, якія да таго часу аб'ядналіся ў два передвыбарныя блокі - ліберальны і сацыял-дэмакратычны, палічылі за лепшае назваць сябе прадстаўнікамі нястворанай кансерватарскай партыі. Гэта сведчыла пра пачатак пераадолення стэрэатыпаў у адносінах да месца і ролі кансерватызму ў дэмакратычным руху.

Прыкладна ў той самы час у групы членаў Аб'яднанай дэмакратычнай партыі (М.Пліско, С.Агаронава) і БНФ (С.Гусак, У.Анцулевіч, У.Івашкевіч) узнікла ідэя арганізаваць Кансерватыўную лігу як нейкае пераходнае грамадскае ўтварэнне, якое прапагандуе кансерватыўныя каштоўнасці, Але, на жаль, передвыбарная і перадрэферэндумная ліхаманка перашкодзіла рэалізаваць названы праект. Да таго ж у гэты час (вясна - восень 1995 года) пачаўся актыўны перагаворны працэс па аб'яднанню дзвюх ліберальных партый: ужо згаданай Аб'яднанай дэмакратычнай і Грамадзянскай. Па ініцыятыве А.Дабравольскага, М.Пліско, С.Агаронавай, В.Мацкевіча у Праграму нанова створанай партыі - Аб'яднанай грамадзянскай (АГП) - былі ўнесены палажэнні, якія адпавядаюць кансерватыўным каштоўнасцям, а ў Статуце, што прыняты аб'ядняльным з'ездам, зазначалася, што АГП з,яўляецца партыяй ліберальна-кансерватыўнага напрамку. Такім чынам, АГП стала першай палітычнай партыяй у Беларусі, якая публічна прызнала кансерватызм сваёй ідэалогіяй і ўзяла яго каштоўнасці ў якасці асновы для рэфармавання грамадства.

Летам 1996 года АГП падала заяўку на ўступленне ў Еўрапейскі дэмакратычны саюз (ЕДС) - арганізацыю, якая аб'ядноўвае партыі кансерватыўнага напрамку. З некаторымі партыямі - членамі ЕДС (Кансерватыўная партыя Вялікабрытаніі, Партыя памяркоўных Швецыі) АГП падтрымлівае дастаткова цесныя адносіны.

Нягледзячы на некаторы прагрэс у арганізацыйным афармленні кансерватызму ў Беларусі, ён усё яшчэ знаходзіцца на пачатковай стадыі свайго развіцця. У палітычным жыцці АГП па-ранейшаму больш вядомая як партыя ліберальнага кшталту і рэдка хто з журналістаў згадвае яе як партыю кансерватыўнага напрамку. Калі гэта і адбываецца, то толькі ў сувязі з кантактамі АГП са сваімі калегамі па ЕДС. Таму АГП, каб сапраўды стаць ліберальна-кансерватыўнай партыяй, неабходна яшчэ шмат зрабіць як у ідэалагічным, так і арганізацыйна-практычным плане.

У сувязі з узмацненнем дыктатуры А.Лукашэнкі ў Беларусі, вымушанай эміграцыяй З.Пазьняка, адыходам ад актыўнай палітычнай дзейнасці некаторых уплывовых бэнээфаўцаў - палітычнай дзейнасці некаторых уплывовых бэнээфаўцаў - прыхільнікаў кансерватызму, БНФ адмовіўся, прынамсі ў бліжэйшай перспектыве, ад публічнага выказвання сваёй прыхільнасці да кансерватыўных каштоўнасцяў. Хоць БНФ і знаходзіцца на правым фланзе палітычнага спектра, тым не менш ён быў і застаецца хутчэй не партыяй, а шырокім рухам, які знаходзіцца ў радыкальнай апазіцыі да існуючага рэжыму і аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах людзей розных ідэалагічных меркаванняў. Згадваючы БНФ як правую арганізацыю, нельга не адзначыць, што нямала прыхільнікаў кансерватыўнай ідэалогіі ёсць і сярод членаў «Маладога фронту».

Спроба арганізаваць кансерватыўны рух у межах хрысціянска-дэмакратычнай партыі на пачатку 90-ых гадоў скончылася няўдачай. І прычына гэтага не толькі ў асабасным фактары і амбіцыях асобных палітыкаў. Справа ў тым, што Беларусь, у адрозненне, напрыклад, ад Літвы і Польшчы, шматканфесійная хрысціянская краіна, і гэта, відаць, асноўная прычына, якая перашкаджае стварэнню моцнай хрысціянска-дэмакратычнай партыі, здольнай павесці за сабою і праваслаўных, і каталікоў, і пратэстантаў. Акрамя гэтага, нягледзячы на традыцыі верацярпімасці, трэба ўлічваць і тыя абставіны, што большасць святароў, якія маюць непасрэдную сувязь з людзьмі і ўплываюць на іх, не з'яўляюцца апалагетамі незалежнасці краіны, а арыентаваныя на Расію або Польшчу. Таму ўзнікненне ў Беларусі моцнай правацэнтрысцкай партыі магчымае толькі ў выглядзе партыі кансерватыўнага кшталту. Гэта, так бы мовіць, своеасаблівы свецкі варыянт хрысціянска-дэмакратычнай партыі. На карысць ажыццяўлення гэтага сцэнарыя сведчыць супрацоўніцтва АГП як з БНФ, так і з беларускімі хрысціянскімі дэмакратамі. З апошнімі АГП знаходзіцца ў саюзніцкіх стасунках у межах заключанага яшчэ восенню 1995 года палітычнага блока «Грамадзянскае дзеянне». Правамоцнасць далучэння партый хрысціянска-дэмакратычнага напрамку да кансерватараў цалкам апраўданае, бо многія з іх увaходзяць у створаны ў 1979 годзе ЕДС, арганізацыю кансерватыўнага напрамку (напрыклад, ХДС-ХСС, для якога характэрная яркая антысацыялістычная пазіцыя).

**Асаблівасці палітычнага развіцця і кансерватызм.** На пачатку XX ст. фарміраванне ідэалогіі палітычнай незалежнасці Беларусі адбывалася ў межах моднага тады ў Еўропе сацыял-дэмакратычнага руху. Нядзіўна, што першай уласна беларускай партыяй стала ўзніклая ў 1902 годзе Беларуская рэвалюцыйная грамада (з 1903 года - Беларуская сацыялістычная грамада). Узнікненне нацыянальных беларускіх палітычных арганізацый цэнтрысцкага і правацэнтрысцкага кшталту (па тагачаснай тэрміналогіі, прыхільнікаў буржуазнага шляху развіцця) датычыцца толькі 1917 года. Некаторыя даследчыкі схільныя бачыць у гэтым адну з прычын паражэння нацыянальнай дэмакратыі і падзення Беларускай Народнай Рэспублікі. Трэба адзначыць, што сацыял-дэмакратычны напрамак у беларускім нацыянальным вызваленчым руху да 1939 года быў дамінуючым.

У нейкай ступені гэтая тэндэнцыя праявілася і ў канцы 80-ых - пачатку 90-ых гадоў: большасць узніклых у той час палітычных і грамадскіх арганізацый, у тым ліку новыя і старыя прафсаюзы, выступілі прыхільнікамі сацыял-дэмакратычнай мадэлі развіцця краіны. Бальшыня палітычных лідэраў, якія

рабілі на пачатку 90-ых гадоў пэўны ўплыў на развіццё падзей, знаходзілася на левым флангу палітычнага спектра і фактычна выступала супраць правядзення рынкавых рэформаў, прыватызацыі, развіцця мясцовага самакіравання, прыняцця новых Грамадзянскага і Падатковага кодэксаў. Нягледзячы на тое, што пасля Жнівеньскага путчу большасць насельніцтва адмовіла ў даверы камуністычнай партыі і яе лідэрам, - само па сабе гэта яшчэ не азначала прыходу да ўлады людзей, якія падзяляюць ідэалогію і каштоўнасці свабоднага грамадства. Правячая эліта не была гатовая пайсці на правядзенне датэрміновых парламенцкіх выбараў і палічыла за лепшае «да высвятлення сітуацыі» захаваць уладныя рычагі ў сваіх руках. Натуральна, што ўраўняльныя настроі людзей, якія сфарміраваліся за 70 гадоў савецкай улады, захаваліся. Таму, не бачачы рэальных вынікаў рэформаў, аб неабходнасці правядзення якіх многа гаварылася, выбаршчыкі падтрымалі тых палітыкаў, якія змаглі пераканаць іх у тым, што яны больш сумленныя, чым былыя кіраўнікі, і будуць ажыццяўляць усё тыя ж самыя размеркавальныя функцыі. На гэтым фоне перамога на прэзідэнцкіх выбарах у 1994 годзе Аляксандра Лукашэнкі, тыповага прадстаўніка савецкіх беларусаў, які паабяцаў «запусціць прадпрыемствы», накарміць народ і аднавіць «вялікую краіну», была цалкам лагічнай і заканамернай. Ён быў дастойным пераемнікам савецка-сацыялістычных кіраўнікоў з дзяржаўніцкім тыпам мыслення. Не выпадкова Вячаслаў Кебіч у адным са сваіх інтэрв'ю ўжо пасля паражэння на прэзідэнцкіх выбарах заўважыў, што ён і Лукашэнка ніколі не былі палітычнымі антыподамі. На жаль, сярод партый дэмакратычнага напрамку, у тым ліку і з правацэнтрысцкага лагера, не знайшлося палітыкаў, здольных успрыняць развіццё беларускага грамадства як арганічны працэс, вызначыць уласна беларускую нацыянальную ідэнтычнасць і ўсвядоміць спецыфіку рэальнага моманту, зыходзячы з рэальнай сітуацыі. Большасць з іх апелявала да літоўскай, польскай, рускай або нават украінскай рэчаіснасці і не заўважыла, што Беларусь была самай савецкай з усіх рэспублік еўрапейскай часткі былога СССР і што тут панаванне Расіі, якое прыняло форму савецкай улады, не ўспрымалася большасцю насельніцтва як акупацыя. Такім чынам, у адрозненне ад большасці краін-суседзяў, у Беларусі да ўлады пасля крушэння камуністычнага рэжыму не змаглі прыйсці партыі цэнтрысцкага і правацэнтрысцкага напрамку: для гэтага ў краіне, як бачым, не існавала ні ідэалагічных, ні арганізацыйна-палітычных перадумоў. Правыя згубілі свой шанц, і цяпер, ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму, прыхільнікам ліберальна-кансерватыўных і хрысціянска-дэмакратычных каштоўнасцяў давядзецца патраціць непамерна больш намаганняў, чым раней, каб дасягнуць улады. Рана ці позна гэта адбудзецца, бо ніхто не здольны зрабіць больш для дыскрэдытацыі каштоўнасцяў, прыхільнікамі якіх з'яўляюцца левыя і левацэнтрысцкія партыі, чым рэжым Лукашэнкі. Падобна, што ягоная місія - давесці да лагічнага канца згубнасць левых уяўленняў аб развіцці грамадства.

**Неабходнасць кансерватыўнай палітыкі.** Здавалася б, марксізм даўно кануў у вечнасць, але яшчэ зусім нядаўна на Захадзе быў модным тэзіс Фукуямы пра так званы канец гісторыі пра ягонае пераадоленне. Агульным для такіх поглядаў было перакананне, што людзі могуць уведваць законы развіцця грамадства, а палітыкі, абапіраючыся на моц дзяржавы, здольныя краіць гісторыю ў адпаведнасці з пастаўленымі перад імі мэтамі. Такім чынам, развіццё грамадства з арганічна-несупыннай з'явы ператваралася ў нейкі перарывісты працэс, які не мае якой-небудзь мэтазгоднасці. Згубнасць такіх меркаванняў відавочная - яна пацверджана практыкай развіцця многіх дзяржаў. Вызначыць сэнс і перадвызначэнне нацыянальнай ідэнтычнасці як Беларусі, так і іншых краін, не звяртаючыся да сацыяльных утопій, можна толькі зыходзячы з іх уласнай гісторыі. Таму, каб пераадолець разарванасць беларускай гістарычнай свядомасці, нам неабходна знайсці ў ёй месца як савецкаму перыяду, так і перыяду Вялікага Княства Літоўскага. Надышоў час перастаць тлумачыць гістарычныя падзеі, кіруючыся палітычнымі прыхільнасцямі тых або іншых кіраўнікоў, якія сёння ўладараць. Гісторыя - насуперак сцвярджанням марксістаў і левых - не павінна быць палітыкай, якая звернута ў мінулае.

Аднабаковае асэнсаванне гістарычных падзей, грэбаванне філасофіяй гісторыі наканавалі паражэнне ў канцы 80-ых - пачатку 90-ых гадоў дэмакратычнага руху, у якім вядучую ролю адыгрываў БНФ. З другога боку, сённяшні рэжым, быццам спаборнічаючы са сваімі палітычнымі апанентамі, робіць усё па аналогіі. Спроба стварэння лукашэнкаўскімі ідэолагамі тэорыі беларускай дзяржаўнасці, у аснове якой ляжала катэгорыя выпадковасці a priori была асуджана на няўдачу. Сённяшняй беларускай апазіцыі неабходна ўзняцца над мноствам асабістых прыхільнасцяў і знайсці нейкія агульныя прынцыпы падыходу да беларускай гісторыі, якія былі б пераканаўчымі і для старэйшага, і для падрастаючага пакалення. Без айчыннай філасофіі гісторыі ў наш час немагчыма стварыць і прыдатную палітычную філасофію. Найбольш паспяхова гэтую задачу, па-мойму, могуць вырашыць беларускія кансерватары.

Як ідэя канца гісторыі не была пацверджана практыкай, так, на шчасце, пасля шэрага трагічных эксперыментаў над народамі, закончылася безвынікова і спроба разглядаць нацыю як гістарычна праходзячую з'яву, з якой неабходна лічыцца, але якую трэба пераадольваць. Гісторыя якраз сведчыць пра адваротнае: ва ўсім свеце да канца XX стагоддзя можна назіраць рэнесанс нацыянальнай ідэі. Пра гэта сведчаць як падзеі, што адбываюцца на Балканскім паўвостраве, у Бельгіі або ў Канадзе, так і фарміраванне па выніках праведзеных рэферэндумаў заканадаўчых сходаў у Шатландыі і Уэльсе. Дэбаты аб палітычным адзінстве Еўропы паказалі, што дэмакратычныя дзяржавы, незалежна ад таго, хто на даны момант знаходзіцца пры ўладзе, нават і не думаюць пра тое, каб ахвяраваць на алтар агульнага рынку або палітычнага саюза сваю нацыянальную ідэнтычнасць. Якраз наадварот: часцей за ўсё іх цікавіць толькі тое, якія ёсць шанцы выкарыстаць аб'яднаную Еўропу для задавальнення сваіх нацыянальных інтарэсаў.

Праблема развіцця беларускай нацыі - у незавершанасці працэсу нацыянальнай самаідэнтыфікацыі часткі беларускага этнасу - савецкіх беларусаў, якія ў лепшым выпадку лічаць сябе «тутэйшымі». Працэс усведамлення сябе беларусамі ў «тутэйшых» можа заняць працяглы час. Таму вырашэнне гэтай праблемы патрабуе пэўнай асцярожнасці і палітычнага такту. А гэтага якраз не хапае як прадстаўнікам левых партый, так і радыкальна настроеным правым.

У апошнія гады лібералы і сацыял-дэмакраты засяродзіліся на праблемах, якія звязаны з умацаваннем прававой дзяржавы і грамадзянскага грамадства. Таму яны не хочуць і не будуць займацца распрацоўкай і ажыццяўленнем нацыянальна-дзяржаўнай ідэі, захаваннем і развіццём нацыянальных традыцый і культуры. Іх лозунгі абстрактнага права, не падмацаваныя клопатам аб нацыянальных інтарэсах у галіне эканомікі, бяспекі, адукацыі і культуры, не адпавядаюць патрэбам гістарычнага моманту. Вырашэнне праблем Беларусі бачыцца на шляху стварэння адначасова прававой і нацыянальнай дзяржавы, іх арганічнага спалучэння. Нацыянальная дзяржава, у аснове пабудовы якой ляжыць прынцып грамадзянства, ёсць аптымальная структурная адзінка сусветнай супольнасці, у межах якой магчыма рэальная абарона правоў усіх сваіх грамадзян. Курс сённяшняга рэжыму на стварэнне наднацыянальных уладных структур з Расіяй і ўстанаўленне інтстытута двайнога грамадзянства шляхам стварэння адзінай саюзнай дзяржавы не адпавядае нацыянальным інтарэсам Беларусі, гэтак жа як і абвінавачанні некаторых палітыкаў у адрас «савецкіх» беларусаў у здрадніцтве інтарэсам краіны. У адведзены гісторыяй час Беларусь павінна ўмацаваць сваю нацыянальную дзяржаўнасць. Уступленне ў НАТА трох былых сацкраін - Польшчы, Чэхіі і Венгрыі - прывяло да ўзмацнення ваенна-палітычнай інтэграцыі Беларусі з Расіяй. Насуперак нацыянальным інтарэсам, з парушэннем Канстытуцыі рэжым Лукашэнкі добраахвотна ўзяў на сябе функцыю перадавога форпоста ў абароне геапалітычных і ваенных інтарэсаў Масквы. Гэта не магло не выклікаць рэакцыі ў адказ у некаторых палітыкаў радыкальнага кшталту, якія пачалі гаворку аб тым, што адзінай гарантыяй захавання нацыянальнага суверэнітэту магло б стаць хутчэйшае ўступленне Беларусі ў НАТА. Неразуменне рэальнай сітуацыі, якая склалася ў краіне, пераацэнка заходніцкіх настрояў у свядомасці большасці беларусаў можа таксама прывесці да згубных для Беларусі наступстваў, як і адкрытая здрада нацыянальным інтарэсам, што дэманструецца сённяшнім рэжымам. У гэтых умовах найбольш прымальнай уяўляецца палітыка, якая скіравана на захаванне і ўмацаванне нейтральнага, без'ядзернага статуса краіны, што адпавядае Канстытуцыі.

Умацаванне аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі абвастрыла праблему ўзаемаадносін дзяржаўнай улады і індывідуальных свабод чалавека. Здавалася б, што пасля сканчэння кашчунных па сваёй сутнасці эксперыментаў над людзьмі, зробленых камуністамі і нацыянал-сацыялістамі, мы павінны былі б сабе зазначыць, на што здольны homo sapiens , які апынуўся на чале дзяржавы, што яму можа быць дазволена, а што не. Аднак пануючая цяпер у беларускім грамадстве атмасфера паказвае, што мы яшчэ вельмі далёкія ад разумення гэтых урокаў, а засвоіць іх неабходна было б кожнаму.

У сваёй кнізе «Левыя ў Еўропе, пачынаючы з 1789 года» англійскі драматург і філасоф Дэвід Кот самай важнай і характэрнай рысай левых лічыў не іхную прыхільнасць да дэмакратыі, а патрабаванне народаўладдзя. Ліберальная тэорыя грамадскай дамоўленасці, вядома ж, лепш, чым сацыялістычная утопія, абараняе ад устанаўлення ў грамадстве ўлады натоўпу, ахлакратыі пад відам народаўладдзя. Прыклад таму ЗША. Але ў выніку лібералізм - такая самая абстрактная пазагістарычная філасофія, якая мае ў сваёй аснове самаўзвышэнне чалавека, як і сацыялізм. Гісторыя сведчыць, што ўсе тэарэтычныя намаганні знайсці незалежную ад рэлігіі мараль і прававыя асновы для дасягнення грамадскага кансенсусу ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, не абумоўленыя нейкім трансцэндэнтным (боскім) пачаткам, заканчваліся няўдачай. Кансерватызм уключае ў сябе ўсведамленне абмежаванасці, недастатковасці і недасканаласці чалавека, і гэтым ён блізкі да хрысціянства. Большая ўспрымальнасць людзьмі менавіта кансерватыўнай і хрысціянскай трактоўкі светаразумення, развіцця грамадства, месца і ролі ў ім чалавека, у параўнанні з пазагістарычнымі пастулатамі лібералізму, пацвярджаецца вялікім уплывам на электарат менавіта кансерватыўных і хрысціянскіх партый, а не ліберальных, якія карыстаюцца поспехам, як правіла, сярод часткі інтэлігенцыі, схільнай высоўваць адну сацыяльную утопію за другой. Кансерватызм здольны лепш, чым лібералізм, адмежаваць грамадства ад рэвалюцый і ўзрушэнняў, да якіх імкнуцца камуністы, сацыялісты, нацыянал-сацыялісты і папулісты рознага колеру. Цяжкасці фарміравання хрысціянскага светаадчування і пераадолення нігілізму і бездухоўнасці ў свядомасці людзей дапаўняюцца тымі абставінамі, што кіраўніцтва пераважнай канфесіі - праваслаўнай - у значнай ступені страціла маральны аўтарытэт (гандаль гарэлкай і тытунём, маўчанне ў сувязі з наступленнем дзяржавы на правы вернікаў і атэістаў) і наўрад ці здольнае эфектыўна вырашыць гэтую праблему. Таму выкананне гэтай задачы павінны ўзяць на сябе беларускія кансерватары.

На жаль, у Беларусі прысутнічаюць фактары, якія абцяжарваюць умацаванне і развіццё кансерватыўнай ідэалогіі. У першую чаргу, гэта: адсутнасць на працягу доўгага часу сваёй дзяржаўнасці; узнікаючыя час ад часу як унутры краіны, так і ў нашых бліжэйшых суседзяў сумненні наконт існавання асаблівай беларускай нацыі, адрознай ад рускай, двухмоўнасць беларускага народа; наяўнасць у беларускім этнасе значнай праслойкі «савецкіх беларусаў»; несфармуляванасць паняццяў «нацыянальныя інтарэсы» і «нацыянальная ідэнтычнасць»; шматканфесійнасць; засілле ў сістэме адукацыі марксісцкіх і левых уяўленняў аб развіцці грамадства; пераважанне сярод беларускай палітычнай эліты людзей з дзяржаўніцкім тыпам мыслення. Наяўнасць гэтых фактараў сведчыць аб недахопе гістарычнай свядомасці і нацыянальнага духу беларусаў, што ўскладняе, у сваю чаргу, стварэнне ў сучаснай Беларусі ўплывовых арганізацый кансерватыўнага напрамку.

*Язэп Юхо,*
*доктар юрыдычных навук, прафесар кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта БДУ,*

*Варвара Сажына,*
*кандыдат юрыдычных навук, дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта БДУ*

***Да 210-годдзя Вялікай французскай рэвалюцыі 1789 г.***

# Канстытуцыя Рэчы Паспалітай 3 мая 1791 г. і Канстытуцыя Францыі 3 верасня 1791 г.: вопыт параўнальнага даследавання

Гісторыя канстытуцыйнага права Беларусі бярэ свой пачатак з сівой даўніны. Першыя нормы, што замацоўвалі правы грамадзян старажытных беларускіх княстваў і абмяжоўвалі правамоцтвы князёў, выкладаліся ў дагаворах паміж князем і насельніцтвам, што заключаліся пры ўзвядзенні князя на трон. Поўныя тэксты такіх дагавораў да нашага часу не захаваліся, але многія старажытныя нормы, выпрацаваныя ў X–XIII стст., былі перанесены ў акты XVI ст., у якіх яны захавалі, з нязначнымі стылістычнымі папраўкамі, сваё канстытуцыйнае прызначэнне. Напрыклад, па Полацкаму прывілею 1511 года князь абяцаў: **«в церкви Божии и в именья церковные нам не вступаться, в дом Божий Святого Софея и в дом Божи Святого Спаса и в іные домы церковные нам не вступаться... А в купленины нам полоцкии не вступаться. Также и в беззадщины их и в отумерщины не вступаться... А через поруку в нятство не сажати. А по муце веры не иняти. А холопу і рабе веры не иняти. А в подводы нам коней в полочан не брати, ни в посельских путников, ни в сябров городских... А старых судов нам не посуживати... А Полочанам наших рек и озер не таити, а хто потаить, і мы тых сказним... А гривострицу по волости не ездити, а ни льну брати... Теж Полочанам всим жити в Полоцку добровольно, покуль хто хочет. А будет ли которому Полочанину от нас насильство, нам его силою не держати, ино ему путь чист, куды хто хочет, без каждое зачепки... А чоломбитье нам в полочан приймати».** (Вішнеўскі А. Ф., Юхо Я. А. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1998. С. 76–80).

Канстытуцыйныя нормы старажытных беларускіх княстваў XI–XIII стст. атрымалі больш поўнае і дакладнае замацаванне ў агульназемскіх прывілеях XV ст. і асабліва ў статутах Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гг. У прывілеі 1447 г. вялікага князя літоўскага Андрэя Казіміра (сына Соф'і Гальшанскай з Друцка і Ягайлы з Віцебска) было запісана, што вялікі князь не павінен нікога караць без яўнага суда, а кара будзе прызначацца **«подлуг их великости проступков»** і толькі да прызнаных вінаватымі. Шляхце і мяшчанам гарантавалася права ўласнасці на сваю маёмасць, а таксама на спадчыну. Прыватнаўласніцкія сяляне, залежныя ад паноў, шляхты і мяшчан, павінны былі адбываць усе павіннасці на карысць своіх феадалаў і вызваляліся ад многіх павіннасцяў на карысць дзяржавы, што значна эканамічна аслабляла вялікага князя і ўмацоўвала становішча буйных феадалаў (арт.10). Прывілей 1447 г. абмяжоўваў права феадальна залежных сялян на пераход ад аднаго да другога феадала і ўзаконьваў права феадала судзіць залежных ад яго людзей. Вельмі важнае канстытуцыйнае значэнне мелі артыкулы 13 і 14 Прывілея, у якіх замацаваны суверэнныя правы Вялікага Княства Літоўскага. **«А також обецуем и слюбуем, иж панства нашего земль, великого князьства предреченого, не вменшим, але у границах, как же предки бвли наши, на имя князь Александр, нареченный Витовт, дядя наш, и иные держали и володели, також и мы тыеж земли здорови, целы, держати будем и володети и щити, а с божьею помочью и всими силами нашими размножати будем.**

14. **Такж абецуем и слюбуем, иж в землях тых наших великого князьства земль, городов,**



**мест, а любо некоторые вряды а любо чти, не маем дать в честь никоего чюжоземца, але только родичам тых земль наших предреченых Великого княства Литовского дамо, и наши после будущие дадуть в держание и володенье».** (Там жа. С. 43–46).

Далейшае развіццё канстытуцыйнага права ў сярэднявечнай Беларусі было выкладзена ў Прывілеі 1492 г. вялікага князя Аляксандра Казіміравіча. Першыя 14 артыкулаў гэтага Прывілея паўтаралі палажэнні Прывілея 1447 г. У 15-ым артыкуле была выкладзена новая норма канстытуцыйнага права, якая абмяжоўвала ўладу вялікага князя. У ёй было запісана: «Таксама, калі б якія колечы пастановы і справы былі перададзены для абгаворвання ў раду з нашымі панамі і самым панам не спадабаліся, то за гэта мы не павінны на іх гневацца, але будзем мы выконваць тое, што яны радзілі нам дзеля нашай агульнай карысці». (Там жа, с. 50.) Зразумела, што гэтая, далікатна выкладзеная норма вельмі жорстка абмяжоўвала ўладу вялікага князя. Новымі былі і артыкулы 17–20, што акрэслівалі асновы палажэння службоўцаў дзяржаўнага апарату. Артыкулы 24,27,28,29,33, напрыклад, вызначалі канстытуцыйныя прынцыпы судаводства.

Характэрнай жа асаблівасцю Прывілея 1506 г. вялікага князя Жыгімонта Казіміравіча было пашырэнне кола асоб, каму прывілей адрасаваўся і чые правы ён павінен быў забяспечваць. Так, у прэамбуле было запісана, што, апрача паноў, шляхты, баяр, ён адрасуецца «іншым падданым і жыхарам земляў нашага Вялікага княства Літоўскага». Гэтае ж канстытуцыйнае палажэнне было выкладзена ў артыкуле 2: «Усе правы, вольнасці, прывілеі і граматы, лацінскія і рускія... пралатам, князям, баронам, нобілям, гарадам, мяшчанам, жыхарам і наогул асобам усякага стану і становішча...мы захоўваем, абараняем і будзем мецъ на ўвазе ва ўсіх артыкулах і пунктах». (Там жа, С. 54–56.)

Новым этапам у развіцці канстытуцыйнага заканадаўства было выданне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г., у якім нормы канстытуцыйнага права былі выкладзены ў першым і трэцім раздзелах. У прэамбуле да Статута паўтаралася палажэнне аб тым, што ён забяспечвае правы не толькі феадалам, але **«и всему посполству и их подданым а тубылцам земль Великого князьства нашого Литовского, которого бы колвек стадла а стану были, вси их права и привиля».** У артыкуле 7 была больш поўна выкладзена норма аб тым, што **«не маеть нихто ни за кого терпети, але кождый сам за себе».** Дзевяты артыкул прыводзіў новую канстытуцыйную норму аб роўнасці ўсіх перад законам, але, на жаль, сам закон не быў роўным для ўсіх.

Артыкул 25 забараняў вялікаму князю падчас яго знаходжання ў Польшчы **«никому ничого в панстве нашом Великом князьстве Литовском именей, людей и земль давати».** У трэцім раздзеле Статута 1529 г. больш дакладна былі выкладзены канстытуцыйныя нормы, што меліся ў ранейшых прывілеях, а таксама новыя нормы. У арт.10 гаворыцца, што **«простых людей над шляхту господар не маеть повышати».** У 1566 г. быў уведзены ў дзеянне новы Статут Вялікага Княства Літоўскага, распрацаваны з удзелам паноў рады, маршалкаў, хоружых, дактароў праў чужаземскіх і іных асоб пад кіраўніцтвам канцлера Мікалая Радзівіла Чорнага. Канстытуцыйныя нормы, выкладзеныя ў першым і другім раздзелах Статута, мала адрозніваліся ад падобных норм Статута 1529 г. Новым быў артыкул 2 раздзела III, у якім было запісана: **«иж всих князей и панов рад, як духовных, так и свецких, и всех врядников земских и дворных, панов хоруговных, шляхту, рыцарство, мещане и всих людей посполитых у Великом князьстве Литовском... нам заховать при свободах и вольностях хрестиянских, в которых они, яко люде вольные, вольно обираючы из стародавна из вечных своих продков собе панов и господарей Великих князей Литовских, жили и справовали прикладом и способом вольных панств хрестиянских».** Сцверджанне аб тым, што ўсе простыя людзі былі вольнымі і **«вольно обираючы...собе панов и господарей Великих князей Литовских»,** канешне, не адпавядала сапраўднасці таго часу, але можна меркаваць, што складальнікі Статута 1566 г. разлічвалі на будучыню і прадбачылі, што ў будучым усе людзі будуць мець права выбіраць сабе кіруючыя органы ў дзяржаве. Новым у гэтым Статуце быў арт.1 раздзела VII, які ператвараў абмежаванае права феадальнай уласнасці на маёнткі ў неабмежаванае права буржуазнай прыватнай уласнасці.

Яшчэ больш поўна і дакладна нормы канстытуцыйнага права былі выкладзены ў Статуце 1588 г., які быў распрацаваны пад кіраўніцтвам Астафія Валовіча і Льва Сапегі. Статут, насуперак акту Люблінскай уніі, замацаваў незалежнасць, адасобленасць і суверэннасць Вялікага княства Літоўскага ў складзе канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай. Гэты акт дапоўніў канстытуцыйныя нормы Статута 1566 г. Так, у Статут быў уключаны арт. 3 раздзела III аб захаванні ў спакоі ўсіх грамадзян незалежна ад іх рознага **«розуменья и ўживанья небоженства хрестьянского».** Больш поўна і па-новаму выкладаліся нормы аб агульным сойме, павятовых сойміках, незалежных ад адміністрацыі выбарных судах (земскім, падкаморскім, Галоўным трыбунале). Былі ўведзены новыя нормы крымінальнага права аб прэзумпцыі невінаватасці, вызваленні ад крымінальнай адказнасці падлеткаў да 16 гадоў і ўвядзенні крымінальнай адказнасці шляхціца за забойства простага чалавека (арт.1, раздзел XII). Адначасова ішло развіццё канстытуцыйнага права і ў Польшчы. Таму, калі пачаліся працы па падрыхтоўцы агульнай Канстытуцыі для ўсёй Рэчы Паспалітай, то ўлічваўся вопыт канстытуцыйнага будаўніцтва як Вялікага Княства Літоўскага, так і Польшчы. Кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст, выступаючы на агульным сойме Рэчы Паспалітай 11 верасня 1776 г., з нагоды пачатку працы па складанню Польскага статута праў, гаварыў пра Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г., што Леў Сапега, канцлер ВКЛ, даў патомкам такі звод законаў, якім жыхары ВКЛ шчасліва карыстаюцца да гэтага часу, і было б вельмі добра, калі б у Кароне (Польшчы) дасягнулі такога шчасця, якім ганарыцца Вялікае Княства Літоўскае.

Развіццё канстытуцыйнага права Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага ішло ў агульным рэчышчы еўрапейскага заканадаўства, і таму падрыхтоўка Канстытуцыі 1791 г. Рэчы Паспалітай не была выпадковасцю, а грунтавалася на ўсёй гісторыі развіцця канстытуцыйнага заканадаўства. Значны ўплыў на развіццё рэвалюцыйных ідэй у Рэчы Паспалітай аказалі рэвалюцыйныя падзеі ў Францыі, якія пачаліся ў 1789 г. Францыя і Беларусь былі добра вядомыя адна адной яшчэ з XVI стагоддзя, калі вялікім князем літоўскім і каралём Рэчы Паспалітай быў абраны брат французскага караля Генрых Валуа – пазней кароль Францыі. У XVIII стагоддзі сувязі паміж Францыяй і Рэччу Паспалітай значна пашырыліся. Многія ўраджэнцы Беларусі і Польшчы вучыліся ў Парыжы або ў іншых гарадах Францыі, а ўраджэнцаў Францыі запрашалі на працу ў Варшаву, Вільню або ў якасці прыватных настаўнікаў да дзяцей беларускіх і польскіх магнатаў. Падчас рэвалюцыі ў Францыі некаторыя яе жыхары шукалі прытулку ў Рэчы Паспалітай.

Прагрэсіўныя ідэі французскіх мысліцеляў Ш.Л.Мантэск'е, Ж.-Ж.Русо, Ф.М.Вальтэра былі добра вядомыя ў Польшчы і ў Беларусі. Русо напісаў для Рэчы Паспалітай трактат «Меркаванні аб характары кіравання ў Польшчы і аб праекце яго перамен, складзеным у красавіку 1772 г.», у якім прапанаваў абмежаваць раскошу магнатаў, палепшыць выхаванне падрастаючага пакалення. Бо «выхаванне павінна прыдаць душам нацыянальную форму і так накіроўваць думкі і густы грамадзян, каб яны былі патрыётамі па схільнасці, па заўзятасці, па неабходнасці. Дзіця, расплюшчыўшы вочы, павінна бачыць толькі бацькаўшчыну і да смерці не павінна нічога бачыць, апрача бацькаўшчыны.Усякі сапраўдны рэспубліканец з малаком маці ўспрыняў любоў да бацькаўшчыны, г.з. да законаў і свабоды... Нацыянальнае выхаванне – гэта здабытак толькі вольных людзей» (Руссо Ж. Ж. Трактаты. – М., 1969. С. 465–466.)

Ідэі французскіх асветнікаў былі добра вядомыя прагрэсіўным дзеячам Рэчы Паспалітай – С. Сташыцу, Ф. Гажкоўскаму, Г. Калантаю, А. Т. Касцюшку і іншым, якія былі сябрамі новай ідэалогіі ў Францыі. Французскія рэвалюцыйныя падзеі выклікалі ўздым актыўнасці грамадскай дзейнасці ў Рэчы Паспалітай. Справа была ў тым, што за развіццём і крызісам абсалютызму ў Францыі даволі доўга назіралі з-за мяжы. І не толькі назіралі, але і засвойвалі ідэі, што распаўсюджваліся ў краіне. З 1769 г. па 1774 г. у Парыжы вучыўся сусветна вядомы змагар за свабоду, ураджэнец Беларусі, Андрэй Тадэуш Касцюшка. Летам 1776 г. Касцюшка выязджае з Францыі ў Амерыку, дзе прымае ўдзел у вызвольнай барацьбе паўночнаамерыканскіх калоній Англіі супраць метраполіі. Уплыў французскіх рэвалюцыйных ідэй на вызвольную барацьбу ў Рэчы Паспалітай яскрава выявіўся падчас падрыхтоўкі да паўстання і самога паўстання 1794 г. На пачатку 1793 г. А.Т.-Касцюшка ўручыў французскаму міністру замежных спраў Мемарыял аб стане спраў у Рэчы Паспалітай, у якім пісаў: «Рэвалюцыя ў Польшчы дала б магчымасць народу, які па свайму тапаграфічнаму размяшчэнню, звычаях і мове, па сваёй збройнай сіле, якой мог бы распараджацца, быў адзіным здольным да хуткага распаўсюджання рэспубліканізму ў Расіі, да пасадкі і ўкаранення дрэва свабоды нават сярод ільду Пецярбурга... Дасягнуць вынікаў Французскай рэвалюцыі можна толькі пры наступных умовах:

1. Зліквідаваць каралеўскую ўладу;
2. Зліквідаваць сенат, або Вышэйшую палату;
3. Зліквідаваць вышэйшае духавенства;
4. Выдаць пастанову, каб кожны чалавек любога краю, саслоў'я або рэлігіі меў свабоду набываць у прыватную ўласнасць зямлю;
5. Што кожны, хто мае зямельную ўласнасць, ці плаціць які-небудзь падатак, будзе мець права выбіраць і быць выбраным на розныя публічныя пасады;
6. Згодна з гэтым цалкам ліквідуецца залежнасць сялян, свабода і роўныя правы гарантуюцца ўсім». (Tadeusz Kosciuszko w historii i tradycii. Warszawa, 1968. S.39.)

Гэты Мемарыял сведчыць аб прамой сувязі ідэй Французскай рэвалюцыі з падрыхтоўкай ідэйнай праграмы рэвалюцыі ў Рэчы Паспалітай. Аднак у ходзе паўстання 1794 г. Касцюшка вымушаны быў пагадзіцца з менш радыкальнымі дзеяннямі.

Што датычыцца да неабмежаванай манархіі ў Францыі, то французскі абсалютызм быў з'явай куды больш працяглай, чым у іншых еўрапейскіх краінах Паводле меркаванняў расійскага вучонага С.Данілава, заснавальнікам французскай абсалютнай манархіі можна лічыць ужо караля Людовіка XI (1461–1483 гг). (С. Ю. Данилов. Правовые демократические государства: очерки истории. М., 1997. С. 41.) Да заслуг абсалютызму можна аднесці цэнтралізацыю краіны, спыненне феадальных міжусобіц і рэлігійных супрацьстаянняў католікаў і гугенотаў, а таксама садзейнічанне прагрэсу ў сферы прамысловасці да канца XVIII стагоддзя. Аднак неабмежаваная ўлада манарха з'явілася тормазам у розных сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця Францыі. Як адзначаў французскі гісторык А.Мацьез, «усюды беспарадак і хаос... Версальскія канцыляры не ведаюць дакладна колькасці судоў, а яшчэ менш памеры іх кампетэнцыі... Амаль усе дэпутаты атрымалі імператыўны мандат не згаджаца ні на які падатак, пакуль не будзе прынята і зацверджана канстытуцыя» (А.Матьез. Французская революция. Р.- на - Д., 1995. С. 30, 31, 60). Прыняццю французскай Канстытуцыі 3 верасня 1791 г. папярэднічалі важныя канстытуцыйна-прававыя напрацоўкі. Напрыклад, брашуры М.Рабесп'ера «Заклік да артэзіянскай нацыі», К. Дэмулена «Філасофія для французскага народа», абата Сіэйеса «Вопыт аб прывілегіях» і асабліва нашумелая «Что такое трэцяе сословье?» разам з ранейшымі творамі вальтэр'янцаў умацавалі канстытуцыйны фундамент будучага новага дзяржаўнага ладу. Брашуры мелі шырокі міжнародны рэзананс. Калі 5 мая 1789 г. адбылося адкрыцце пасяджэння Генеральных Штатаў – упершыню пасля больш паўтаравяковага перапынку — дэпутаты аказаліся ідэалагічна падрыхтаванымі да ажыццяўлення канстытуцыйных рэфармаванняў.

Узброенае паўстанне парыжан 14 ліпеня 1789 г. у падтрымку Генеральных Штатаў, больш вядомае як захоп Бастыліі, у выніку закончылася пакараннем смерцю каменданта крэпасці-турмы і парыжскага гарадскога галавы. Наконт гэтага Г.Бабеф потым напіша: «Улады, замест таго, каб зрабіць нас больш мяккімі, ператварылі ў варвараў. Яны пажынаюць і пажнуць тое, што пасеялі». (Т. Карлейль. Французская революция. История. М. Мысль, 1991. С. 121.)

Паводле меркавання англійскага пасланніка ў Францыі герцага Дорсета, Францыю з гэтага моманту можна было лічыць свабоднай краінай, яе караля – манархам з абмежаванай уладай, а дваранства – роўным у правах з усёй нацыяй. Сімвалічна і тое, што Людовік XVI павінен быў прызнаць над сабой у якасці суверэна французскі народ, чые інтарэсы адлюстроўваў Нацыянальны Сход (гэтую назву Генеральныя Штаты атрымалі ў чэрвені 1789 г.)

Неабходна заўважыць, што пастановы Генеральных Штатаў, пазней звaўшыхся Нацыянальным, а яшчэ пазней – Устаноўчым сходамі Францыі, на першым, так званым канстытуцыйным этапе рэвалюцыі, з мая 1789 па жнівень 1792 гг., былі больш стрыманыя, чым дэмакратычныя дэкларацыі, якія яны абвяшчалі. Нават першыя заканадаўчыя мерапрыемствы Устаноўчага Сходу, якія праходзілі пад лозунгам «Устаноўчы Сход поўнасцю знішчае феадальны рэжым», як бы засланілі сам тэкст пярвічных антыфеадальных мерапрыемстваў. А ён аказаўся зусім не радыкальны. У дэкрэтах 4 жніўня 1789 г. абвяшчалася, што цяпер падаткі будуць плаціць усе жыхары каралеўства прапарцыянальна іх даходам. Гэта было адменай фіскальных прывілеяў. Далей абвяшчалася, што ўсе феадальныя правы будуць выкупляцца сялянскімі абшчынамі за грошы па нібыта справядлівай ацэнцы. На самай справе гэта азначала адмену феадальных рэнт за вельмі вялікія грошы. Без выкупу знішчаліся толькі паншчына на карысць памешчыкаў і іншыя асабістыя павіннасці сялян. Напрыклад, Дэкрэт ад 11 жніўня 1789 г. «Аб ліквідацыі феадальных правоў і прывілеяў» быў прысвечаны царкоўным дзесяцінам. У артыкуле V дэкрэта гаварылася аб скасаванні дзесяцін. Але ажыццяўленне гэтага палажэння залежала ад прыняцця мер па замене дзесяцін іншымі падаткамі. Такім чынам, людзі атрымлівалі асабістую свабоду, але ўласнасць трэба было выкупляць. Радыкальнай рэформы не атрымалася.

Дэкрэт аб феадальных правах 15 сакавіка 1790 г. пацвердзіў асноўныя палажэнні жнівеньскіх дэкрэтаў 1789 г. Напрыклад, у главе III гэтага дэкрэта пералічаны сеньёрыяльныя правы, «карысныя феадальныя і чыншавыя правы і абавязкі», якія выкупляліся. Абцякальнасць фармулёвак дэкрэта дазволіла на доўгі час захаваць аснову феадальнай сістэмы землекарыстання. Толькі ў ліпені 1793 г., калі да ўлады прыйшлі якабінцы, былі скасаваны ўсе правы і прывілеі сеньёраў.

Самай значнай падзеяй у канстытуцыйнай гісторыі Францыі ў гэты перыяд, безумоўна, лічыцца прыняцце 26 жніўня 1789 г. «Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна». Невялікі дакумент, які меў 17 артыкулаў, – гэта вынік аналізу натуральна-прававой дактрыны, якая выкладзена ў працах французскіх асветнікаў XVIII стагоддзя. У ёй нацыя абвяшчаецца крыніцай суверэнітэту, а закон – выяўленнем агульнай волі. Ідэі законнасці знайшлі свое прамое адлюстраванне ў артыкулах 6–9 Дэкларацыі. У іх гаворыцца пра недапушчальнасць адвольных абвінавачванняў, затрымак і зняволенняў, пра строгасць вызначэння толькі неабходных пакаранняў, аб прэзумпцыі невінаватасці і інш. Свабода выказвання думак і меркаванняў ёсць таксама вялікая заваёва чалавецтва. Калі адсутнічае злоўжыванне гэтай свабодай, то грамадзяніна нельга праследаваць. У артыкуле 13 Дэкларацыі ўстаноўлены прынцыпы прапарцыянальнага размеркавання падаткаў паміж грамадзянамі. Заключныя артыкулы гэтага выдатнага з пункту гледжання канстытуцыяналізму і юрыдычнай тэхнікі дакумента датычылі ідэі падзелу ўлады і абароны свяшчэннага для кожнага буржуа права ўласнасці.

Нягледзячы на праграмна-маніфестны характар «Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна», а таксама на тое, што многія палажэнні дакумента было немагчыма рэалізаваць на практыцы ў бліжэйшы час, творцы Дэкларацыі (Мірабо, Лафает, Дзюпор, Талейран і інш.) меркавалі, што стварылі дакумент «для ўсіх народаў і на ўсе часы». Гісторыя французскай канстытуцыйнасці пацвердзіла гэта: «Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна» 1789 г. і цяпер з'яўляецца вядучай крыніцай канстытуцыйнага права Францыі.

Вядомы палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай Гуга Калантай у 1790 г. пісаў: «Калі рэха Французскай рэвалюцыі дасягнула нашых вушэй, мы ўздрыгнулі ад жорсткасцяў, што адбыліся ў Францыі, але калі ўбачылі, што французскі народ заваяваў свабоду, кожны з нас блаславіў неба» (Коллонтай Г. Политическое право польской нации // Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. Т.1. М., 1956. С. 315.).

Падзеі ў Францыі ў канцы XVIII стагоддзя знайшлі водгук і ў суседніх краінах. Напрыклад, у 1790 годзе былі праведзены дадатковыя выбары дэпутатаў у сойм Рэчы Паспалітай. З 182 новых дэпутатаў 112 былі прыхільнікамі прагрэсіўных рэформ у іх дзяржаве. Атрымалі распаўсюджанне друкаваныя працы С. Сташыца, Г. Калантая, І. Храптовіча і іншых рэфарматараў. Так, у кнізе С. Сташыца «Папярэджанне Польшчы, якое вынікае з сучасных палітычных адносін у Еўропе і з законаў прыроды», якая была надрукавана ў 1790 годзе, напісана: «Францыя – гэта тая краіна, дзе ўпершыню стала на ногі пачвара дэспатычнай улады, што падпарадкавала сабе ўсю краіну і навучыла другіх тыранаў заняволіваць народы... Цяпер Францыя зноў першая з усіх еўрапейскіх заняволеных дзяржаў рве ланцугі дэспатызму і скідае самадзяржаўных катаў. Божа! Завяршы справу вызвалення чалавека!.. Вольны чалавек з'яўляецца тваім тварэннем. Чалавек-раб з'яўляецца тварэннем тырана» (Сташиц С. Предостережение Польше, которое следует из современных политических отношений в Европе и из законов природы // Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. Т.1. М., 1956. С. 145–146).

Хоць наступныя падзеі Французскай рэвалюцыі ў канстытуцыйным накірунку развіваліся непаслядоўна (дастаткова ўспомніць Дэкрэт аб падаўленні беспарадку 10 жніўня 1789 г. і Закон аб асадным палажэнні 21 кастрычніка 1789 г., якія ўстанавілі магчымасць ужывання ваеннай сілы «дзеля ўстанаўлення спакою»), але галоўным вынікам дзейнасці

Устаноўчага сходу Францыі з'явілася прыняцце Канстытуцыі 3 верасня 1791 г.

Трэба адзначыць, што на чатыры месяцы раней, 3 мая 1791 года, упершыню ў еўрапейскай канстытуцыйнай гісторыі, была прынята Канстытуцыя Рэчы Паспалітай. Як і ў Францыі, прыняцце гэтага галоўнага канстытуцыйна-прававога дакумента было вынікам карпатлівай папярэдняй працы. Так, у студзені 1791 г. былі зацверджаны кардынальныя і нязменныя правы, якія абвяшчалі «вечную унію паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім», гарантавалі правы і прывілеі каталіцкай царкве, а таксама свабоду слова і друку. Пазней, у сакавіку таго ж года, быў прыняты закон аб павятовых сойміках, а ў красавіку быў абвешчаны закон аб гарадах. Два апошнія законы з'явіліся неад'емнай часткай Канстытуцыі 3 мая 1791 года.

У Канстытуцыі Рэчы Паспалітай 1791 г. атрымалі адлюстраванне ідэі французскіх асветнікаў-рэвалюцыянераў і «Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна», асабліва адносна зраўнання асабістых правоў мяшчан з правамі шляхты. Мяшчанін, паводле Закона аб гарадах і мяшчанах Рэчы Паспалітай 1791 г., не падлягаў папярэдняму арышту і затрыманню без пастановы суда, за выключэннем банкротаў і злачынцаў, затрыманых на гарачым учынку. Мяшчанам гарантавалася права прыватнай уласнасці на зямельныя маёнткі і іншую нерухомую маёмасць. Яны атрымалі права займаць афіцэрскія пасады ў арміі, апрача шляхецкай кавалерыі. Яны больш проста набывалі шляхецкую годнасць; ім дазвалялася служыць у дзяржаўных установах. Але палітычныя правы мяшчан усё ж заставаліся абмежаванымі.

Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, як і Канстытуцыя Францыі, была накіравана на ўсталяванне прынцыпу парламентарызму ў дзяржаве. Адрозненне адной ад другой заключаецца, між іншым, у тым, што карэнныя рэформы дзяржаўнага ладу ў Рэчы Паспалітай праводзіліся «зверху», без крыві, без гільяціны.

У той час Канстытуцыя Францыі 3 верасня 1791 г. складалася з мноства заканадаўчых актаў, прынятых у перыяд працы Устаноўчага сходу з жніўня 1789 па верасень 1791 гг. Кароль Людовік XVI аказваў моцнае процідзеянне ўвядзенню ў краіне рэжыму канстытуцыйнага кіравання. Менавіта таму падпісанне даўно падрыхтаванага тэксту Канстытуцыі зацягнулася да 3-га верасня. Потым такая практыка прыняцця канстытуцый іншых дзяржаў стала найбольш частай у сусветным канстытуцыяналізме.

У прэамбуле да першай французскай Канстытуцыі былі канкрэтызаваны асобныя антыфеадальныя палажэнні – адмена саслоўных тытулаў і адзнак, продаж дзяржаўных пасад. Ліквідоўваліся саслоўныя цэхі і рамесныя карпарацыі. У сваю чаргу, Прэамбула да Канстытуцыі Рэчы Паспалітай ад імя караля Станіслава Аўгуста гаварыла, што, улічваючы застарэлыя недахопы кіравання ў Рэчы Паспалітай і імкнучыся дасягнуць знешняй незалежнасці і ўнутранай свабоды народа дзеля агульнага дабрабыту і захавання дзяржавы і яе граніц, і зацверджана гэтая Канстытуцыя. Але аўтары Канстытуцыі пазбеглі прамога ўказання на адмену хоць бы некаторых феадальных парадкаў, бо не гэта было іхняй галоўнай мэтай.

Структуры абедзвюх Канстытуцый былі падобныя, але ў адрозненне ад французскай Канстытуцыі, якая мела 7 раздзелаў, Канстытуцыя Рэчы Паспалітай падзялялася на 11 раздзелаў. З тэарэтычных жа пазіцый агульным, па-першае, з'явілася тое, што ў абедзвюх Канстытуцыях праводзіліся ідэі прававога парадку і падзелу ўладаў. Прававы парадак для Рэчы Паспалітай быў накіраваны на ўмацаванне цэнтральнай улады і падпарадкаванне законам буйных феадалаў і шляхты Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага. Ідэя прававога парадку для Францыі азначала безумоўнае ўсталяванне поўнай праваздольнасці трэцяга саслоўя. Акрамя таго, пáварот да прававой дзяржавы адлюстраваўся ў Францыі ў галоснасці і справаздачнасці дзяржаўнага кіравання: пачалася публікацыя дзяржаўнага бюджэту; каралеўскай сям'і выдзялялася пэўная сума грошай. Раздзел 1 Канстытуцыі Францыі ўтрымліваў пералік «натуральных і грамадзянскіх правоў», галоўнымі з якіх з'яўляліся раўнамернасць падаткаабкладання, свабода ў выбары месца жыхарства, свабода сходаў, права звяртання з петыцыямі да органаў улады і інш.

Ідэя падзелу ўлады была сфармулявана ў раздзеле V Канстытуцыі Рэчы Паспалітай і ў раздзеле III Канстытуцыі Францыі. Яна абапіралася на дактрыну Шарля Луі Мантэск'е, менавіта на тэзіс аб незалежнасці існавання заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў.

У той жа час заканадаўчая ўлада ў Рэчы Паспалітай (раздзел VI Канстытуцыі) была прадстаўлена двухпалатным Соймам. Ніжняя палата – палата дэпутатаў (паслоў) – была галоўным звяном у абмеркаванні і прыняцці законапраектаў. Верхняя палата – Сенат, у склад якога ўваходзілі каталіцкія архіепіскапы і епіскапы і вышэйшыя дзяржаўныя чыноўнікі, у сваю чаргу, мог зацвярджаць або адкладваць да паўторнага пасяджэння Сойма любыя законапраекты. Французская ж заканадаўчая дактрына ў гэты гістарычны перыяд не прыняла ідэю бікамеральнага парламента, таму Нацыянальны заканадаўчы сход Францыі (745 дэпутатаў; кворум для галасавання – 373 чалавекі) дзейнічаў у складзе адной палаты.

Выканаўчая ўлада ў асобе караля ў абедзвюх краінах была арыентавана на моцную канстытуцыйную манархію. Аднак да адной і той жа ідэі абедзве еўрапейскія дзяржавы прыйшлі па-рознаму. Калі ў Рэчы Паспалітай да зацвярджэння Канстытуцыі 3 мая 1791 г. кароль, які быў асобай выбарнай, рэальных ні заканадаўчых, ні выканаўчых, ні судовых правоў не меў, то ў Францыі, наадварот, абсалютызм, які атрымаў у дзяржавазнаўстве назву «класічнага», канцэнтраваў у руках манарха ўсю ўладу. Да 1791 года юрыдычны механізм выканаўчай улады быў аднолькавы: абодва каралі былі кіраўнікамі дзяржавы і выканаўчай улады. Іхнія міністры былі непадсправаздачныя парламенту. У абедзвюх краінах існаваў прынцып контрасігнацыі, які рабіў асобу караля «свяшчэннай і недатыкальнай». Праўда, паранейшаму для Рэчы Паспалітай ключавой заставалася ідэя цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацавання аўтарытэту вышэйшай улады, а для Францыі на першым этапе рэвалюцыі галоўным момантам заставалася паступовае паніжэннне ўлады караля. У 1791–1792 гг. у апошняй, па сутнасці, існавала дуалістычная (пераходная) манархія з вельмі моцнай каралеўскай уладай.

Судовая сістэма і ў Рэчы Паспалітай, і ў Францыі грунтавалася на некаторых агульных прынцыпах: ажыццяўлення судаводства толькі судом; незмяняльнасці судовага апарату і інш. Аднак калі ў Рэчы Паспалітай суды па-ранейшаму заставаліся саслоўнымі, а прыгонных сялян працягвалі судзіць іх гаспадары, то ў Францыі сеньёрыяльная юрысдыкцыя была адменена яшчэ ў жніўні 1789 г. Канстытуцыя 3 верасня прадугледжвала ўвядзенне невядомага раней французскай юстыцыі суда прысяжных у крымінальным працэсе. У духу «Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна» абвінавачанаму гарантавалася права на абарону. Стварэнне вышэйшых звёнаў судовай іерархіі — Касацыйнага і Вярхоўнага нацыянальнага судоў – таксама сведчыць пра павышэнне аўтарытэту «трэцяй галіны ўлады».

Па ўжо ўказанаму Закону аб гарадах і мяшчанах Рэчы Паспалітай 1791 г. праводзілася рэформа судоў для мяшчан. Утвараліся мяшчанскія апеляцыйныя суды, якім былі падсудныя малазначныя справы па другой інстанцыі і больш важныя справы — па першай інстанцыі. На тэрыторыі Беларусі ўтвараліся апеляцыйныя суды ў наступных гарадах: Вільні – для гарадскіх судоў у Ашмянскім, Віленскім, Лідскім, Вількамірскім, Браслаўскім, Троцкім паветах; у Гародні – для гарадскіх судоў у Гарадзенскім, Ваўкавыскім, Мерачскім паветах; у Навагарадку – для гарадскіх судоў у Навагарадскім, Слуцкім, Слонімскім паветах; у Бярэсці –– для судоў у Берасцейскім, Кобрынскім паветах; у Пінску – для судоў у Пінскім, Мозырскім, Рэчыцкім паветах; у Менску – для судоў у Менскім, Полацкім, Віцебскім і Аршанскім паветах. У гарадскія апеляцыйныя суды выбіраліся гарадскія жыхары кожныя два гады па 5 асоб з гарадской шляхты і мяшчан, якія мелі нерухомую маёмасць у гарадах сваей акругі.

Прынцыповае ж адрозненне дзвюх Канстытуцый, якія былі прыняты ў Еўропе практычна ў адзін і той жа час, выяўляецца ў падыходзе да рашэння пытання аб нацыянальным складзе. Шырока вядомыя праблемы, якія стаялі перад Рэччу Паспалітай, утрымліваліся ў неабходнасці пераадолець аморфнасць канфедэрацыі. На наш погляд, Канстытуцыя 3 мая 1791 г. была першай спробай рэканструкцыі нацыянальна-дзяржаўнага ўпарадкавання, аднак не зусім удалай. Пасля ўвядзення ў жыццё асноўных палажэнняў Канстытуцыі статус Вялікага Княства Літоўскага некалькі змяніўся: яго самастойная дзяржаўнасць хоць і не была ліквідавана, але тут трэба ўжо гаварыць пра паступовае перарастанне канфедэрацыі дзвюх дзяржаў у федэрацыю, пра іх скіраванасць да далейшай інтэграцыі.

І наадварот, у раздзеле II французскай Канстытуцыі быў замацаваны тэзіс пра «адзінае і непадзельнае каралеўства». Падзел тэрыторыі краіны ў той час на 83 дэпартаменты, якія падзяляліся яшчэ на дыстрыкты, кантоны і камуны, складаў адну з важнейшых заваёў першага этапу французскай рэвалюцыі. Аб тым, наколькі значным было пацвярджэнне цэнтралізацыі дзяржавы, сведчыць той факт, што ў ходзе далейшых рэвалюцыйных падзей «заклік да федэралізму» разглядаўся як злачынства супраць рэвалюцыйнай рэспублікі. Абвінавачаныя ў «федэралізме», згодна з рэвалюцыйным дэкрэтам якабінцаў (верасень 1793 – чэрвень 1794 гг.), асуджаліся на пакаранне смерцю. Былы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел на правінцыі, бальяжы, сенешальствы і прэватажы незваротна ліквідоўваўся. Таксама ліквідоўваліся і мытні паміж вызначанымі тэрыторыямі.

Так упершыню ў гісторыі Францыі «непадзельнасць» краіны была аб'яўлена адным з прынцыпаў пабудовы дзяржаўнасці. У далейшым гэты прынцып «чырвонай ніткай» ПРАЙШОЎ ПРАЗ ПАЎТАРАВЯКОВУЮ ПРАКТЫКУ канстытуцыйнай пабудовы і, як і раней, быў сфармуляваны ўжо ў дзеючай Канстытуцыі V Французскай Рэспублікі 1958 г.

Значным адрозненнем Канстытуцыі Францыі ад Канстытуцыі Рэчы Паспалітай з'яўлялася і тое, што Канстытуцыя Францыі мела свецкі характар. Калі ў Канстытуцыі Рэчы Паспалітай (раздзел І) пануючай рэлігіяй аб'яўлялася рымска-каталіцкая, а пераход у іншую быў строга забаронены, то французская Канстытуцыя абышла пытанне пра рэлігійныя схільнасці ў дзяржаве, за выключэннем невялікай клаўзулы ў першым раздзеле аб правах кожнага «выконваць абрады той веры, да якой ён належыць».

З параўнальнага прававога аналізу дзвюх еўрапейскіх Канстытуцый вынікае, што прававыя культуры гэтых дзяржаў узаемаўплываюць. Далейшыя бурныя гістарычныя падзеі ў абедзвюх краінах паказалі, наколькі моцным быў унутры іх рэвалюцыйны рух. Канстытуцыя Францыі праіснавала менш года – да жнівеньскіх падзей 1792 г., калі народ, паўстаўшы, звярг канстытуцыйную манархію і ўстанавіў жырандысцкую рэспубліку.

Другі падзел Рэчы Паспалітай у 1793 годзе таксама не спрыяў поўнаму ажыццяўленню асноўных канстытуцыйных палажэнняў Канстытуцыі 3 мая 1791 г., таму яна была адменена ў ходзе сесіі сойма ў Гародні 17 чэрвеня 1793 г. Але, па словах А.Міцкевіча, гэтая Канстытуцыя «з'яўляецца законам жывым, карані якога ў мінулым і здольны развівацца ў будучым» (Мицкевич А. Конституция 3-го мая // Избранные произведения прогрессивных польских мыслителей. М., 1956. Т. 2. С. 285.).

Уздзеянне французскіх рэвалюцыйных ідэй на грамадскі рух у Рэчы Паспалітай асабліва ўзмацнілася падчас вызвольнага паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам А.Т.Касцюшкі. 7 траўня 1794 г. Касцюшка выдаў Паланецкі універсал, якім абвяшчаў асабістую вольнасць для ўсіх прыгонных сялян, ад гэтага часу кожны селянін мог вольна выбіраць сабе месца жыхарства. Хаця універсал і захаваў за памешчыкамі права ўласнасці на зямлю, але ён быў ужо першым крокам да скасавання прыгоннага права ў Рэчы Паспалітай. У адозве да народа, выдадзенай у 1794 г. Ф. Гажкоўскім, абвяшчалася, што ўсялякая прыгонная залежнасць і панаванне скасоўваюцца. «Усе людзі, якія жывуць у краіне, з'яўляюцца роўнымі і свабоднымі братамі. З сённяшняга дня кожны будзе працаваць толькі на сябе самога і на агульны дабрабыт нацыі» (Избранные произведения... С. 590). У гэтай адозве яскрава адлюстраваліся рэвалюцыйныя ідэі французскіх якабінцаў.

# Вынікі сацыялагічных даследаванняў, праведзеных лабараторыяй «Новак» у г. Мінску ў лютым 1999 года

Вядома, што даныя сацыялагічных апытанняў у Мінску істотна адрозніваюцца ад даследаванняў у цэлым па рэспубліцы. У сталіцы больш высокі адукацыйны ўзровень грамадзян, насельніцтва больш інфармавана аб сітуацыі ў краіне. Тут больш крытычныя адносіны да палітыкі рэжыму. У нейкім сэнсе можна сцвярджаць, што масавая свядомасць Мінска з пэўнымі часавым апераджэннем дэманструе тэндэнцыі, якія характэрны для ўсёй краіны.

Перш за ўсё хацелася б звярнуць увагу на тое, што, нягледзячы на аптымістычныя запэўніванні ўладаў і афіцыйных СМІ, практычна ніхто з рэспандэнтаў не ацэньвае эканамічную сітуацыю ў краіне як «добрую». Становішча сваёй сям'і як «добрае» расцэньваюць толькі 3% мінчан. Прычым толькі 2% жыхароў сталіцы заўважылі тэндэнцыі да паляпшэння за апошні перад апытаннем месяц. Вельмі песімістычныя ацэнкі перспектыў развіцця нашай эканомікі.

Аднак, нягледзячы на такую аднадушнасць у вызначэнні эканамічнай сітуацыі ў краіне, у пытанні аб віноўніках такога становішча існуе глыбокі раскол. Паводле адной табліцы колькасць прыхільнікаў прэзідэнта, якія гатовыя зноў галасаваць за яго на выбарах, большая, чым яго праціўнікаў (24,9% супраць 22,8%). На другое – пытанне аб даверы палітыкам – праціўнікаў у Лукашэнкі ўжо больш (давяраюць 20,9%, не давяраюць 21,8%).

Неабходна звярнуць увагу, што давер незалежным СМІ большы, чым дзяржаўным (46,6% супраць 39,6%).

Цікава з пункту гледжання аналізу беларускага менталітэту вызначыць магчымасць акцый пратэсту ў сталіцы. 55,6% насельніцтва лічаць, што такія акцыі магчымыя, толькі 22,3% гатовыя ў іх удзельнічаць, а ў рэальнасці ўдзельнічаюць, як мы маглі пераканацца па колькасці тых, хто прыходзіць на мітынгі, менш за 1%.

У нататнік апазіцыі: 48,2% мінчан ведалі ў лютым аб аб'яўленых Вярхоўным Саветам выбарах прэзідэнта 16 мая і толькі 54,9% з іх ухвалялі гэтыя дзеянні. Цікава, што на другое пытанне – аб удзеле ў гэтых выбарах – станоўчы адказ далі 56,5% ад агульнай колькасці апытаных. Відаць, значная частка насельніцтва не ведае, што Вярхоўны Савет даўно распушчаны прэзідэнтам, і лічыць аб'яўленыя выбары афіцыйнымі.

Важна адзначыць, што колькасць прыхільнікаў аб'яднання з Расіяй у Мінску меншая, чым праціўнікаў (42,8% супраць 47,3%).

**Каментарый В.Карбалевіча.**



**Як бы вы ацанілі эканамічнае становішча Беларусі сёння?**

| | % |
|---|---|
| Вельмі добрае | 0,0 |
| Добрае | 0,5 |
| Сярэдняе | 32,5 |
| Дрэннае | 46,4 |
| Вельмі дрэннае | 18,2 |
| Цяжка адказаць | 2,0 |
| Няма адказу | 0,4 |

**Як бы вы ацанілі эканамічнае становішча вашай сям'і сёння?**

| | % |
|---|---|
| Вельмі добрае | 0,0 |
| Добрае | 3,0 |
| Сярэдняе | 44,0 |
| Дрэннае | 41,4 |
| Вельмі дрэннае | 11,6 |
| Цяжка адказаць | 0,0 |
| Няма адказу | 0,0 |

**Як, на вашу думку, змянілася становішча эканомікі Беларусі за апошні месяц?**

| | % |
|---|---|
| Палепшылася | 2,0 |
| Засталося такім самым | 21,2 |
| Пагоршылася | 71,7 |
| Цяжка адказаць | 5,2 |
| Няма адказу | 0,0 |

**Як, на вашу думку, змянілася эканамічнае становішча вашай сям'і за апошні месяц?**

| | % |
|---|---|
| Палепшылася | 3,3 |
| Засталося такім самым | 32,7 |
| Пагоршылася | 61,3 |
| Цяжка адказаць | 2,1 |
| Няма адказу | 0,5 |

**Як бы вы ацанілі ўвогуле палітычную абстаноўку ў Беларусі? Яна:**

| | % |
|---|---|
| Добрая | 1,2 |
| Спакойная | 45,5 |
| Напружаная | 37,6 |
| Крытычная, узрыванебяспечная | 2,7 |
| Цяжка адказаць | 9,5 |
| Няма адказу | 3,4 |

**Калі б у бліжэйшы час адбыліся новыя выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, каго б вы падтрымалі ў першую чаргу?**

**А за якога патэнцыяльнага кандыдата ў прэзідэнты вы ні ў якім выпадку не сталі б галасаваць?**

| | ЗА | СУПРАЦЬ |
|---|---|---|
| Лукашэнка | 24,9 | 22,8 |
| Шушкевіч | 3,6 | 5,7 |
| Карпенка | 2,3 | 0,8 |
| Чыгір | 1,9 | 0,0 |
| Лінг | 1,4 | 0,0 |
| Багданкевіч | 1,2 | 0,0 |
| Ціцянкоў | 0,8 | 0,0 |
| Пазьняк | 0,7 | 8,6 |
| Кебіч | 0,5 | 3,4 |
| Шарэцкі | 0,0 | 1,1 |
| Не ведаю/Цяжка адказ. | 58,3 | 55,4 |
| Няма такіх | 3,2 | 0,0 |
| Няма адказу | 0,9 | 1,2 |

**Наколькі Вы давяраеце дзяржаўным і грамадскім інстытутам і арганізацыям?**

| | Цалкам давяраю | Хутчэй давяраю | Хутчэй не давяраю | Цалкам не давяраю | Не ведаю/ Цяжка адказаць |
|---|---|---|---|---|---|
| Царква | 27,6 | 39,9 | 7,8 | 9,5 | 15,2 |
| Армія | 13,7 | 41,9 | 11,9 | 16,0 | 16,5 |
| Прэзідэнт | 12,5 | 25,9 | 16,6 | 23,4 | 21,6 |
| Незалежныя СМІ | 6,6 | 40,0 | 20,3 | 13,7 | 19,5 |
| Урад Беларусі | 4,8 | 25,7 | 25,9 | 22,1 | 21,9 |
| Нацыянальны банк | 3,4 | 25,8 | 28,7 | 26,5 | 15,6 |
| Міліцыя | 3,4 | 28,3 | 22,3 | 32,5 | 13,6 |
| Нацыянальны сход (у цэлым) | 3,3 | 20,3 | 20,3 | 19,7 | 36,4 |
| Саюз прадпрымальнікаў РБ | 2,6 | 20,8 | 23,9 | 10,7 | 42,0 |
| Палата прадстаўнікоў | 2,6 | 19,1 | 19,0 | 18,8 | 40,1 |
| Дзяржаўныя СМІ | 2,6 | 37,0 | 27,2 | 23,9 | 9,3 |
| Незалежныя прафсаюзы | 2,4 | 23,4 | 13,0 | 15,7 | 45,5 |
| Традыцыйныя прафсаюзы | 2,2 | 35,4 | 22,5 | 18,0 | 21,8 |
| Мясцовыя ўлады | 2,0 | 27,5 | 24,4 | 19,3 | 26,8 |
| Правасуддзе | 2,0 | 34,5 | 24,8 | 18,5 | 20,2 |
| Савет Рэспублікі | 1,9 | 20,6 | 18,1 | 20,4 | 39,1 |

**Наколькі Вы давяраеце дзяржаўным і грамадскім інстытутам і арганізацыям?**

| | Давяраю | Не давяраю | Не ведаю/ Цяжка адказаць |
|---|---|---|---|
| Царква | 67,5 | 17,3 | 15,2 |
| Армія | 55,6 | 27,9 | 16,5 |
| Незалежныя СМІ | 46,5 | 34,0 | 19,5 |
| Дзяржаўныя СМІ | 39,6 | 51,1 | 9,3 |
| Прэзідэнт | 38,4 | 40,0 | 21,6 |
| Традыцыйныя прафсаюзы | 37,7 | 40,6 | 21,8 |
| Правасуддзе | 36,5 | 43,3 | 20,2 |
| Міліцыя | 31,6 | 54,8 | 13,6 |
| Урад Беларусі | 30,6 | 48,0 | 21,9 |
| Мясцовыя ўлады | 29,5 | 43,7 | 26,8 |
| Нацыянальны банк | 29,3 | 55,1 | 15,6 |
| Незалежныя прафсаюзы | 25,8 | 28,7 | 45,5 |
| Нацыянальны сход (у цэлым) | 23,6 | 40,0 | 36,4 |
| Саюз прадпрымальнікаў РБ | 23,4 | 34,6 | 42,0 |
| Савет Рэспублікі | 22,4 | 38,5 | 39,1 |
| Палата прадстаўнікоў | 21,7 | 37,8 | 40,1 |



**Назавіце, калі ласка, тры прозвішчы палітычных дзеячаў Рэспублікі Беларусь, каму вы давяраеце ў найбольшай ступені (у парадку змяншэння ступені даверу).**

| | 1-ае згадванне | 2-ое згадванне | 3-яе згадванне | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|
| Лукашэнка | 20,4 | 0,5 | 0,0 | **20,9** |
| Лінг | 3,7 | 5,1 | 1,3 | **10,1** |
| Шушкевіч | 1,9 | 2,6 | 0,0 | **4,5** |
| Пазьняк | 3,1 | 0,8 | 0,0 | **3,9** |
| Карпенка | 2,5 | 0,0 | 1,1 | **3,5** |
| Ганчар | 0,8 | 1,6 | 0,9 | **3,3** |
| Багданкевіч | 1,7 | 0,6 | 0,5 | **2,8** |
| Малафееў | 0,6 | 1,1 | 0,0 | **1,7** |
| Мясніковіч | 0,0 | 0,9 | 0,0 | **0,9** |
| Шарэцкі | 0,0 | 0,3 | 0,5 | **0,8** |
| Няма такіх | | | | **6,2** |
| Не ведаю/Цяжка адказаць | | | | **51,2** |
| Няма адказу | | | | **6,3** |

**Назавіце, калі ласка, тры прозвішчы палітычных дзеячаў Рэспублікі Беларусь, каму вы давяраеце ў найбольшай ступені (у парадку змяншэння ступені даверу).**

| | 1-ае згадванне | 2-ое згадванне | 3-яе згадванне | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|
| Лукашэнка | 20,0 | 1,1 | 0,7 | **21,8** |
| Пазьняк | 10, | 2,5 | 1,0 | **13,5** |
| Шушкевіч | 3,4 | 1,1 | 2,8 | **7,3** |
| Кебіч | 2,8 | 2,3 | 0,9 | **6,0** |
| Карпенка | 1,3 | 1,8 | 0,8 | **3,9** |
| Малафееў | 0,7 | 1,6 | 1,0 | **3,2** |
| Лінг | 1,2 | 1,6 | 0,0 | **2,8** |
| Ціцянкоў | 1,1 | 0,3 | 0,5 | **1,9** |
| Ганчар | 0,4 | 1,2 | 0,0 | **1,6** |
| Шарэцкі | 0,0 | 1,6 | 0,0 | **1,6** |
| Хадыка | 0,0 | 0,5 | 0,9 | **1,4** |
| Мясніковіч | 0,0 | 0,9 | 0,0 | **0,9** |
| Багданкевіч | 0,0 | 0,0 | 0,7 | **0,7** |
| Няма адказу | | | | **5,7** |
| Нікому | | | | **0,0** |
| Не ведаю/Цяжка адказаць | | | | **48,9** |

**Як вы думаеце, наколькі магчымы сёння ў вашым горадзе (раёне) масавыя выступленні супраць росту цэн і падзення ўзроўню жыцця?**

| | % |
|---|---|
| Цалкам магчымыя | 56,6 |
| Малаверагодныя | 35,9 |
| Цяжка адказаць | 6,4 |
| Няма адказу | 1,1 |

**Калі адбудуцца мітынгі, дэманстрацыі супраць росту цэн і падзення ўзроўню жыцця, вы асабіста возьмеце ўдзел у іх удзел?**

| | % |
|---|---|
| Хутчэй за ўсё так | 22,3 |
| Хутчэй за ўсё не | 68,1 |
| Цяжка адказаць | 8,0 |
| Няма адказу | 1,7 |

**Як эканамічны крызіс у Расіі адбіўся на вашым матэрыяльным становішчы? Яно:**

| | % |
|---|---|
| Значна палепшылася | 0,0 |
| Палепшылася | 2,1 |
| Засталося ранейшае | 18,9 |
| Пагоршылася | 65,0 |
| Значна пагоршылася | 9,2 |
| Цяжка адказаць | 4,9 |

**Многія кваліфікуюць сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі як эканамічны крызіс. Ці згодны вы з гэтым сцверджаннем?**

| | % |
|---|---|
| ТАК | 68,9 |
| НЕ | 18,5 |
| Цяжка адказаць | 12,6 |

**Наколькі Вы давяраеце дзяржаўным і грамадскім інстытутам і арганізацыям?**

| | Калі так | Калі не | Усе адказы |
|---|---|---|---|
| Узмацненне планавага рэгулявання эканомікі | 23,6 | 25,8 | 23,6 |
| Развіццё рынкавых падыходаў і прыватнага сектара | 49,9 | 22,9 | 39,8 |
| Яшчэ больш тесная інтэграцыя з Расіяй | 11,4 | 13,0 | 11,5 |
| Развіццё эканамічных сувязей з Украінай, Літвой, Польшчай, і іншымі суседнімі дзяржавамі | 25,4 | 17,9 | 21,2 |
| Развіццё эканамічнага супрацоўніцтва з развітымі дзяржавамі Заходняй Еўропы | 36,4 | 29,6 | 32,5 |
| Прытрымліванца сённяшняга эканамічнага курсу беларускага ўрада | 5,5 | 26,8 | 9,6 |
| Не ведаю/Цяжка адказаць | 13,4 | 14,1 | 18,7 |

**Ці маеце вы пастаянную дадатковую крыніцу даходаў, акрамя асноўнай заработнай платы (пенсіі, стыпендыі)?**

| | % |
|---|---|
| ТАК | 18,0 |
| НЕ | 80,3 |
| Адмова | 1,8 |

**Калі «так», якую менавіта?**

| | % |
|---|---|
| У мяне свая справа | 11,1 |
| Я дадаткова працую па найме | 54,5 |
| Маю дадатковы даход са сваёй прысядзібнай гаспадаркі | 12,9 |
| Займаюся індывідуальнай працоўнай дзейнасцю (шыю, рамантую і г.д.) | 15,4 |
| Мне дапамагаюць сваякі | 6,1 |
| Іншае | 0,0 |
| Няма адказа | 0,0 |



**Калі «не», па якой прычыне?**

| | % |
|---|---|
| Дадатковы заробак не патрэбны | 3,6 |
| Не ведаю,дзе і як знайсці працу | 22,8 |
| Не магу працаваць па не залежных ад мяне абставінах (хвароба, узрост, сям'я і г.д.) | 60,6 |
| Няма калі | 3,7 |
| Іншае | 8,8 |
| Няма адказа | 0,4 |

**З чым вы ў першую чаргу звязваеце свае надзеі на матэрыяльны дабрабыт, ваш асабісты і вашай сям'і?**

| | % |
|---|---|
| Сасваім узроўнем кваліфікацыі і ўменнем працаваць | 33,5 |
| З узроўнем кваліфікацыі і ўменнем працаваць іншых членаў сям'і | 4,4 |
| З дабрабытам прадпрыемства 9Установы, фірмы), на якім працую | 8,6 |
| З агульным эканамічным дабрабытам у рэспубліцы | 40,7 |
| Ні з чым не звязваю | 3,7 |
| Іншае | 7,8 |
| Цяжка адказаць | 1,4 |

**Ці ведаеце вы аб маючых адбыцца выбарах у мясцовыя Саветы Рэспублікі Беларусь?**

| | % |
|---|---|
| ТАК | 61,6 |
| НЕ | 38,4 |

**Ці ведаеце вы аб аб'яўленых Вярхоўным Саветам XIII склікання выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь?**

| | % |
|---|---|
| ТАК | 48,2 |
| НЕ | 51,8 |

**Як вядома, 4 красавіка гэтага года ў Рэспубліцы Беларусь плануецца правесці выбары ў мясцовыя Саветы. Скажыце, калі ласка, ці прымеце вы ў іх удзел?**

| | % |
|---|---|
| Так, дакладна прыму | 38,1 |
| Так, хутчэй прыму | 29,4 |
| Не, хутчэй не прыму | 13,0 |
| Не, дакладна не прыму | 10,1 |
| Цяжка адказаць | 9,3 |

**Калі ведаеце, ці ўхваляеце вы гэтае рашэнне?**

| | % |
|---|---|
| Так, цалкам ухваляю | 33,6 |
| Так, хутчэй ухваляю | 21,3 |
| Не, хутчэй не ўхваляю | 17,2 |
| Не, цалкам не ўхваляю | 20,1 |
| Цяжка адказаць | 7,9 |

**Ці прымеце вы ўдзел у аб'яўленых Вярхоўным Саветам XIII склікання выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь?**

| | % |
|---|---|
| Так, дакладна прыму | 36,9 |
| Так, хутчэй прыму | 19,6 |
| Не, хутчэй не прыму | 8,9 |
| Не, дакладна не прыму | 16,8 |
| Цяжка адказаць | 18,4 |

**Як вы ставіцеся да ідэі аб'яднання Расіі і Беларусі ў адну дзяржаву?**

| | % |
|---|---|
| Цалкам ухваляю | 17,0 |
| Хутчэй ухваляю | 25,8 |
| Хутчэй не ўхваляю | 21,9 |
| Цалкам не ўхваляю | 25,4 |
| Цяжка адказаць | 9,9 |

**Ці парушаюцца правы чалавека ў Беларусі?**

| | % |
|---|---|
| Так | 39,7 |
| Хутчэй так | 25,8 |
| Хутчэй не | 14,3 |
| Не | 2,8 |
| Цяжка адказаць | 17,5 |

**На ваш погляд, у якой з пералічаных ніжэй краінаў правы чалавека парушаюцца больш за ўсё?**

| | % |
|---|---|
| Расія | 17,6 |
| Літва | 6,2 |
| Украіна | 6,0 |
| Польшча | 1,2 |
| Беларусь | 20,5 |
| Не ведаю/Цяжка адказаць | 48,4 |

**Ці ведаеце вы аб дзейнасці грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97»?**

| | % |
|---|---|
| ТАК | 18,9 |
| НЕ | 81,1 |

**Калі «так»: ці падтрымліваеце вы яе дзеянні?**

| | % |
|---|---|
| Так | 58,7 |
| Хутчэй так | 17,2 |
| Хутчэй не | 9,0 |
| Не | 8,2 |
| Цяжка адказаць | 6,9 |

**На ваш погляд, за апошнія чатыры гады сітуацыя з захаваннем правоў чалавека ў Беларусі...**

| | % |
|---|---|
| Палепшылася | 7,0 |
| Засталася ранейшая | 32,8 |
| Пагоршылася | 34,6 |
| Цяжка адказаць | 20,6 |
| Няма адказу | 5,0 |

**Якія палітычныя, спартыўныя, культурныя і да т. п. падзеі апошняга месяца вы лічыце найбольш значнымі?**

| | % |
|---|---|
| Новы год | 14,3 |
| Спартыўныя падзеі | 8,2 |
| Рост цэн | 5,5 |
| Асабістае | 4,4 |
| Не ведаю/Няма адказу | 48,4 |





*Уладзімір Кацора,*
*член Палітсавета Аб'яднанай грамадзянскай партыі, старшыня Гомельскай гарадской арганізацыі АГП*

# Выбары ў мясцовыя Саветы: роздумы і вывады па выніках маніторынгу
## г.Гомель
## кастрычнік 1998 г. – красавік 1999 г.

*Маніторынг праводзіўся Гомельскім абласным грамадскім аб'яднаннем «Грамадзянскія ініцыятывы» пры дапамозе Усебеларускага клуба выбаршчыкаў, Гомельскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Беларускага рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі.*

Сёння ў палітычных колах Беларусі актыўна дэбатуюцца вынікі так званых выбараў дэпутатаў мясцовых Саветаў. Галоўнае пытанне – прэлюдыяй якіх падзей іх можна разглядаць. Адны лічаць іх звяном у ланцугу падзей 1999–2000–2001 гадоў, прапанаваных прэзідэнцкай камандай, а Закон аб выбарах разглядаюць як мадэльны ў навязаных уладай правілах гульні. Другія схільныя думаць, што на гэтым Законе адпрацоўвалася тактыка прэзідэнцкай кампаніі восені гэтага года.

У любым выпадку, ці будуць наступныя выбары прэзідэнцкімі, ці парламенцкімі, для палітычных апазіцыйных сіл, калі яны збіраюцца ў іх удзельнічаць, важна ведаць, як у сённяшніх умовах гэтыя выбары робяцца.

Важна ведаць па дзвюх прычынах. Па-першае, якіх змен у заканадаўстве аб выбарах трэба патрабаваць. Па-другое, зыходзячы з самага неспрыяльнага выбарчага заканадаўства, як будаваць свае арганізацыйныя структуры. На жаль, як паказалі падзеі апошняга часу, ні ўнутраная апазіцыя, ні міжнароднае супольніцтва не маюць сіл і аргументаў, каб прымусіць рэжым прывесці Закон аб выбарах у больш-менш дэмакратычны выгляд. Але такі праект Закона, дэмакратычныя папраўкі да дзеючага заканадаўства павінны ляжаць напагатове, бо вельмі хутка сітуацыя можа таго патрабаваць. Галоўнае – вызначыць у гэтых папраўках свайго роду «артыкул 6 Канстытуцыі», адмена якога на пачатку 90-ых гадоў паклала канец савецкай палітычнай сістэме ў СССР.

Сёлетнія выбары яшчэ раз паказалі, што такім 6-ым артыкулам у сукупнасці з'яўляюцца мажарытарная сістэма абсалютнай большасці (50% яўкі выбаршчыкаў) і так званыя працоўныя калектывы як суб'екты палітычнага жыцця, праз якія вертыкаль забяспечвае законнасць любых вынікаў. Многія задаваліся пытаннем: «Чаму А.Лукашэнка так жорстка адстойваў бар'ер у 50%? Калі б яго не было, не давялося б фальсіфікаваць вынікі выбараў, тым больш што Саветы сёння нічога не вырашаюць».

Адказаў можа быць некалькі:

– упартасць прэзідэнта, слова «бацькі» – закон;

– імкненне прымусіць апазіцыю адмовіцца ад удзелу ў выбарах, бо ў гэтым выпадку шанцы на перамогу ў дэмакратаў рэзка зніжаюцца (іх электарат складае 15–20%);

– жаданне і на мясцовым узроўні даказаць «народнасць» улады, якую павінны выбіраць ніяк не менш 50% жыхароў;

– трэніроўка здольнасці вертыкалі «рабіць» патрэбны вынік пры любой выбарчай планцы.

Але за гэтым можна і трэба бачыць устойлівае жаданне ўсенароднаабранага даказаць сваю «народнасць». Прэзідэнта ж Рэспублікі Беларусь ніяк не могуць выбіраць менш за 50% жыхароў!

А.Лукашэнка рыхтуецца да прэзідэнцкіх выбараў!

Зноў жа, на жаль, сёння дэмакратычныя сілы, і гэта паказалі як мясцовыя выбары, так і аб'яўленыя апазіцыяй прэзідэнцкія выбары 16 мая, не могуць супрацьпаставіць гэтаму колькі-небудзь сур'ёзнай альтэрнатывы. Апазіцыя не з'яднана ў тактыцы дзеянняў, не мае папулярнага лідэра, не мае структур. Нават калі б усе апазіцыйныя партыі ўдзельнічалі ў гэтых выбарах, то яны б не змаглі прапанаваць сваіх кандыдатаў ва ўсе тэрытарыяльныя камісіі (не кажучы ўжо пра ўчастковыя), вылучыць кандыдатаў у дэпутаты, назіраць за ходам галасавання з мэтаю прадухілення фальсіфікацый. Тым

большая патрэба ў гэтым узнікае ў выбарчай кампаніі агульнанацыянальнага маштабу.

Пасля 1 ліпеня сітуацыя яшчэ больш пагоршыцца, бо, трэба меркаваць, асноўныя апазіцыйныя партыі, многія няўрадавыя арганізацыі не пройдуць аб'яўленую А.Лукашэнкам перарэгістрацыю.

Таму выкладзеная ніжэй храналогія парушэнняў у ходзе правядзення апошніх выбараў дазволіць у нейкай ступені рэспубліканскім і рэгіянальным палітыкам, якія намерваюцца ўдзельнічаць у далейшых выбарчых кампаніях, усвядоміць той аб'ём работы, у першую чаргу па пытаннях так званага партбудаўніцтва, які трэба выканаць, каб выйграць такія выбары.

Гэты артыкул можа таксама паслужыць метадалагічнай асновай для арганізацыі незалежнага назірання за правядзеннем выбараў.

Вынікі маніторынгу разбіты на дзве часткі: да прыняцця і апублікавання Закона аб выбарах, прызначэння даты выбараў і пасля прызначэння даты выбараў.

## Маніторынг на этапе прыняцця Закона аб выбарах (да 29.12.1998 г.)

Многія Саветы дэпутатаў Гомельскай вобласці папярэдняга склікання не былі да канца сфарміраваныя, а ўлады, парушаючы і Канстытуцыю, і стары Закон аб выбарах, не зрабілі спробы іх давыбраць у свабодных акругах. Так, напрыклад, у Гомелі з 45 месцаў гарадскога дэпутацкага сходу былі запоўнены толькі 29.

У перыяд прыняцця Палатай Прадстаўнікоў новага Закона аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў выканаўчая ўлада адмаўляла грамадскасці ў выказванні сваёй пазіцыі ў адносінах да праекта Закона. Так, у кастрычніку 1998 г. Гомельская гарадская арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі падала заяўку ў гарвыканкам на правядзенне пікета «Не недэмакратычнаму закону аб выбарах!», але ў правядзенні яго было адмоўлена з той прычыны, што праект Закона не быў апублікаваны ў друку. І больш за тое, было заяўлена, што быццам і новы старшыня гарвыканкама Якабсан, які з'яўляецца дэпутатам Палаты Прадстаўнікоў, з праектам не знаёмы. Хоць ужо ў той час праект Закона быў распаўсюджаны камісіяй Палаты Прадстаўнікоў (старшыня Красуцкі) у партыях «для адкрытай дыскусіі».

У выніку як на месцах, так і ў цэлым у рэспубліцы не была забяспечана грамадская згода ў дачыненні ўстанаўлення правілаў гульні на выбарах, і апазіцыйныя арганізацыі вырашылі ў аб'яўленых выбарах не ўдзельнічаць.

Прычым ініцыятарамі прыняцця рашэння пра няўдзел былі рэгіянальныя арганізацыі тых партый, якія заяўлялі пра ўдзел. Так, напрыклад, яшчэ да кастрычніка 1998 г. Аб'яднаная грамадзянская партыя заявіла, што будзе ўдзельнічаць у выбарах, але пад ціскам рэгіянальных арганізацый ужо ў снежні змяніла сваё рашэнне. Галоўная прычына – не столькі ў змесце Закона, колькі ў законапрымяняльнай практыцы на месцах.

Паказальнае ў гэтым плане прыняцце Гомельскім гарсаветам рашэння аб змене колькасці акруг у Гомелі па фарміраванню новага дэпутацкага корпуса да ўступлення ў дзеянне (апублікавання) новага Закона аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў. 29 снежня раніцай, калі яшчэ шырокая грамадскасць (дэпутаты ў тым ліку) не была азнаёмлена ні з Указам Прэзідэнта № 623 «Аб правядзенні выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», ні з Законам «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў Рэспублікі Беларусь», якія былі апублікаваны ў гэты дзень у цэнтральных газетах (з'явіліся ў продажы толькі пасля абеду), па ініцыятыве выканаўчай улады за 15 мінут на сесіі былі разгледжаны пытанні пра новую, скарочаную з 45 да 40 колькасць акруг і сярэднюю колькасць выбаршчыкаў на акругу.

Ужо на гэтым этапе дакладна пачала праследжвацца роля выканаўчай улады (вертыкалі, у тым ліку ўведзенай незадоўга да гэтага і вертыкалі ідэалагічнай) у выкананні выбарчага заканадаўства. Аднак найбольш поўна гэтая роля праглядваецца ў ходзе арганізацыі і правядзення выбараў.

## Законапрымяняльная практыка пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў (з 29.12.1998 г.)

Недэмакратычны змест Закона аб выбарах, палітычная зададзенасць вынікаў, неабходнасць яўкі 50% выбаршчыкаў на ўчасткі, нізкая прававая і палітычная культура членаў камісій прывялі да таго, што вынікі выбараў былі практычна запраграмаваныя на пазбаўленне грамадзян права на свабоду выбару.

Так, напрыклад, палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі, грамадзяне былі пазбаўлены права не толькі праз дзяржаўныя, але і праз іншыя сродкі масавай інфармацыі заявіць пра сваю пазіцыю, растлумачыць, напрыклад, чаму яны не ўдзельнічаюць у выбарах. Больш таго, такія арганізацыі, грамадзяне праследаваліся. Вось прыклад. 1 красавіка быў праведзены вобыск (пад выглядам пошуку наркотыкаў і зброі) у офісе грамадскай арганізацыі «Грамадзянская ініцыятыва», у кватэры грамадзяніна Карніенкі (пад выглядам праверкі пашпартнага рэжыму). У апошняга забралі лістоўкі «Мы не пойдзем на выбары без выбару» і рашэннем суда Чыгуначнага раёна Гомеля ён аштрафаваны на 5 млн. руб. за распаўсюджванне матэрыялаў, якія быццам бы заклікаюць да байкоту выбараў. Тут грубым чынам парушаны прынцып свабоднасці выбараў, а таксама шэраг іншых артыкулаў як Канстытуцыі, так і законаў «Аб палітычных партыях», «Аб грамадскіх аб'яднаннях», Адміністрацыйнага і Грамадзянска-працэсуальнага кодэксаў. Ёсць таксама шэраг сведчанняў, калі пад пагрозай звальнення з працы, высялення з інтэрната, занясення ў так званыя чорныя спісы, узяцця тлумачэнняў грамадзян прымушалі ісці на выбары, што таксама груба парушае прынцып свабодных выбараў (артыкул 3 Закона «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь»).

Парушаны прынцып усеагульнага выбарчага права (арт. 2). Значная частка грамадзян не была ўключана ў спісы выбаршчыкаў (свядома, каб знізіць 50%-ны парог, ці з-за няякасна складзеных спісаў), што на ўсіх участках пад канец галасавання вылілася ў складанне дадатковага спіса грамадзян, не ўключаных у асноўны і прыйшоўшых галасаваць; на асобных участках такі дадатковы спіс складаўся з некалькіх дзесяткаў прозвішчаў.

Выбары не былі роўнымі (арт. 4): па ацэнках – больш за 30% выбаршчыкаў, якія ўзялі ўдзел у галасаванні, атрымалі па некалькі камплектаў бюлетэняў. Адзначаны выпадкі, калі выбаршчык выяўляў, што ён ужо «прагаласаваў».

З-за таго, што выбары ў больш чым у 85% акруг былі безальтэрнатыўнымі, а там, дзе альтэрнатыва і была, дамінавалі кіраўнікі, не магла быць забяспечана роўнасць кандыдатаў у дэпутаты. Не адзначана ніводнага выпадку рэагавання выбарчых камісій на факты незаконнага вядзення агітацыйнай кампаніі кандыдатамі-кіраўнікамі, Так, напрыклад, звыш устаноўленага ліміту кандыдаты ў дэпутаты Дзянісава, Малахаў, Філімончык сотнямі, тысячамі штук выкарыстоўвалі ксеракопіі афіцыйных лістовак; Мармалюкоў, Увядзенскі, Пракапенка тысячамі распаўсюджвалі друкарскія лістоўкі без выхадных звестак; таксама тысячнымі тыражамі, вядома ж, не бескарыслівa, гарадскія газеты «Гомельские ведомости», «Советский район», «Вечерний Гомель» да выбараў далі цэлыя развароты публікацый пра кіраўнікоў (іх арганізацыях і добрых справах), якія «выпадкова» сталі і кандыдатамі ў дэпутаты, – Барысенку, Пачынку, Агеенку, Лапаціну, Малахава, Піліпенку, Дзянісаву, Шынкарова і інш., якія таксама «выпадкова» амаль усе сталі пераможцамі ўжо ў першым туры галасавання.

Пакінулі камісіі без увагі і шэраг публікацый пра кандыдатаў у дэпутаты ў камерцыйных выданнях «Мозырская неделя», «Информобзор» (Жлобін), «Футбольны клуб» (Гомель), «Ярмарка» (Гомель).

Асабліва на стадыі датэрміновага галасавання з-за таго, што яно праводзілася не ў асноўным, а часовым памяшканні, не забяспечвалася тайна галасавання (арт. 6). У сярэднім па вобласці датэрмінова прагаласавала каля 8% выбаршчыкаў, у асобных раёнах (Лоеўскі, Веткаўскі, Савецкі г. Гомеля) – да 15%, а на некаторых участках Гомеля – да 30%.

Не забяспечвалася незалежнасць выбарчых камісій ад дзяржаўных органаў, адміністрацыі буйных дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў. Гэта добра прасочваецца пры аналізе парадку фарміравання і канчатковага складу выбарчых камісій.

Так, напрыклад, дырэктар завода «Цэнтраліт» Андрыянаў, загадзя забяспечыў сабе перамогу на выбарах у абласны Савет тым, што ў акрузе, дзе ён вылучаўся, мінімум трэцяя частка выбаршчыкаў – працаўнікі завода. Але самае галоўнае – участковыя выбарчыя камісіі № 11 і № 15 былі размешчаны ў інтэрнаце завода і ў так званай падшэфнай школе і на 100% складаліся з работнікаў завода, што забяспечыла яго дырэктару ільвіную долю галасоў. Падобны малюнак з выбраннем дэпутатам абласнога Савета дырэктара Гомельскага вагонарамонтнага завода Барабанава, які таксама цалкам кантраляваў дзве выбарчыя камісіі.

Асабліва паказальны ў гэтым плане прыклад з кандыдатам у дэпутаты абласнога і гарадскога Саветаў – кіраўніком Адміністрацыі Савецкага раёна Філімончык, якая ўжо ў першым туры «перамагла» ў гарадскі Савет двaіх, а ў абласны Савет – аднаго саперніка. Сакрэт поспеху просты: напрыклад, з чатырох выбарчых камісій участкаў №№ 25, 27, 28, 29 па выбарах у гарадскі Савет тры былі цалкам укамплектаваны работнікамі службаў райадміністрацыі. На ўсе гэтыя ўчасткі не былі дапушчаны да назірання за ходам выбараў прадстаўнікі грамадскасці. Нават давераныя асобы кандыдатаў у дэпутаты не маглі атрымаць абсалютна ніякіх даных. І зусім не дзіўна, што па гэтых участках самы высокі працэнт датэрмінова «прагаласаваўшых» у Гомелі.

Прычым усяго, пра што напісана вышэй, у ходзе выбарчай кампаніі нават зацікаўленым арганізацыям і грамадзянам выявіць было немагчыма, не кажучы ўжо пра нейкі ўплыў, бо да фарміравання ўчастковых камісій, акрамя замацаваных працоўных калектываў, ніхто не дапускаўся, а склад саміх камісій па Чыгуначнаму, Цэнтральнаму і Нова-Беліцкаму раёнах Гомеля так і не быў апублікаваны.

Паўсюдна сродкі масавай інфармацыі вельмі сціпла асвятлялі падрыхтоўку і правядзенне выбараў (арт. 9, частка 4 Закона). Так, напрыклад, раённыя газеты (дарэчы, адзіныя ў сваіх раёнах) «Добрушскі край», «Новае Палессе», «Светлагорскія навіны», «Зара над Сожам» толькі ў шасці нумарах кожная згадвалі пра выбары – публікавалі афіцыйныя рашэнні райвыканкамаў і раённых выбарчых камісій, у той час як за гэтыя тры «выбарныя» месяцы дзве газеты выйшлі 39, астатнія 26 разоў.

Больш таго, нават прадугледжаныя артыкуламі 15, 17, 20, 22, 24, 39, 44, 59 абавязковыя публікацыі матэрыялаў (частка 2 арт. 9) не ўсе з 21 раённых газет змяшчалі, а калі і змяшчалі, дык давалі няпоўны аб'ём інфармацыі і не ва ўстаноўлены тэрмін. Так, пераважная колькасць раёнаў нічога не паведаміла аб стварэнні ў іх раёнах акруговых камісій па выбарах дэпутатаў абласнога Савета (арт. 22); у газетах «Новы дзень» (Жлобін), «Добрушскі край», «Народны голас» (Ельск), «Светлае жыццё» (Лельчы-

цы) быў пададзены толькі склад камісій без неабходных, паводле Закона, месцазнаходжання і нумара тэлефона. А ў пазначаных вышэй трох раёнах Гомеля ўвогуле нічога не паведамлялася пра ўчастковыя выбарчыя камісіі (склад, месцазнаходжанне і г. д.).

Да гэтага часу застаецца таямніцай, якія калектывы, арганізацыі або групы грамадзян прапаноўвалі кандыдатуры ў склад тэрытарыяльных і ўчастковых камісій, колькі было прэтэндэнтаў, хто і па якіх прычынах не быў уключаны, тым больш выведзены са складу ўжо дзейнічаючых камісій (арт. 27).

Парушылі Закон і тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі і дзяржаўныя друкаваныя сродкі масавай інфармацыі (па электронных маніторынг не вёўся) у забеспячэнні роўных магчымасцей кандыдатаў. Абласная газета «Гомельская праўда», як і большасць раёнак, вырашыла гэтую праблему даволі проста – не апублікавала ніводнага матэрыялу кандыдатаў у дэпутаты. Раённыя газеты абмежаваліся толькі публікацыямі пра кандыдатаў у дэпутаты абласнога Савета, нічога не паведаміўшы пра кандыдатаў у раённыя і гарадскія Саветы, не кажучы ўжо аб пасялковых і сельскіх.

У парушэнне арт. 59 Закона ва ўсіх газетах паведамленні пра вынікі галасавання носяць няпоўны характар: вынікі галасавання апублікаваны толькі па кандыдату-пераможцу або па пары другога тура і не заўсёды ў поўным аб'ёме; не вытрыманы тэрміны інфармавання.

Вышэйпрыведзены парадак фарміравання выбарчых камісій, залежнасць іх ад дзяржаўных органаў, адсутнасць галоснасці ў рабоце прывялі да поўнай безадказнасці і беспакаранасці ў рабоце членаў камісій (асабліва іх старшынь) і, як вынік, да любой запраграмаванасці вынікаў.

Больш таго, у асноўныя дні выбараў (3 і 4 красавіка) не працавала ніводная пракуратура Гомельскай вобласці, і прадугледжаныя часткай 4 арт. 13 Закона меры засталіся толькі на паперы. Нават сёння, праз больш за дзесяць дзён пасля падачы заяў і актаў у пракуратуру, на большасць з іх няма адказаў, не кажучы ўжо аб прынятых мерах.

У парушэнне арт. 9 і пастановы Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах ад 30 снежня 1998 года «Аб парадку прымянення часткі трэцяй артыкула дзевятага...» у Гомельскай вобласці ва ўсіх гарадах (Гомель, Жлобін, Рэчыца, Мазыр, Рагачоў), дзе было арганізавана незалежнае назіранне за ходам галасавання, незаконна прадстаўнікі грамадскіх арганізацый не былі дапушчаны на ўчасткі, дзе адбывалася галасаванне.

І нават давераным асобам кандыдатаў у дэпутаты, журналістам, прадстаўнікам партый, якія вылучалі сваіх кандыдатаў (ПКБ, ЛДПР), камісіі адмаўляліся даваць інфармацыю, вынікі галасавання.

Але нават у гэтых умовах, карыстаючыся правам выбаршчыкаў (частка 4 арт. 13) звяртацца з заявай або складаць акт аб выяўленым парушэнні, у пракуратуры вобласці (дублікат абавязкова ў камісію, дзе выяўлена парушэнне) накіравана больш за 80 заяў і актаў аб парушэннях. Таму сцверджанне Ярмошынай (публікацыі 13 красавіка ў цэнтральных газетах), што па ўсёй рэспубліцы паступіла толькі 80 скаргаў «і амаль палова з іх – скаргі кандыдатаў адзін на аднаго», абсалютна беспадстаўныя і з нашага боку могуць быць пацверджаны не толькі канкрэтнымі дакументамі, але і лістамі з пракуратуры з пералічэннем прозвішчаў канкрэтных заяўнікаў, чые, па тэрміналогіі Ярмошынай, скаргі гэтая пракуратура прыняла.

І ўжо прамою хлуснёй старшыні ЦВК з'яўляецца сцверджанне аб тым, што «прынцып роўнасці выбараў не парушаны: акругі былі «нарэзаны» строга ў адпаведнасці з нормай Закона», паколькі заява аб грубым парушэнні гэтай нормы і абласной камісіяй, і Гомельскай гарадской была накіравана ў абласную пракуратуру і ёсць адказ з гарадской камісіі, дзе прызнаюцца «памылкі». Парушэнне ж Закона – тым, што пры нарэзцы абласных акруг у 17 з 60 ёсць перавышэнне 10%-га бар'ера, прычым у 7 з іх гэтая лічба падбіраецца да 20% і нават перавышае гэты ўзровень. Па Гомелю малюнак яшчэ горшы: 19 з 40 і 12 адпаведна.

Можна і далей пералічваць артыкулы Закона і Канстытуцыі, прыводзіць канкрэтныя факты парушэнняў і пры правядзенні датэрміновага галасавання, галасавання выбаршчыкаў па месцу жыхарства, парушэнняў пры падліку галасоў і паказаць, як усё гэта выкарыстоўвалася для фальсіфікацыі сапраўднай язукі выбаршчыкаў на ўчастку, вынікаў галасавання. Але пані Ярмошына на прэс-канферэнцыі сваімі адказамі паказала, што яна – першы фальсіфікатар на гэтых выбарах, і сама асабіста пацвердзіла, што калі б гэта было не так, то выконваўся б Закон (арт. 56) у той частцы, што «камісіі дадаюць да пратакола... заявы... аб парушэннях, якія дапушчаны ў ходзе галасавання або пры падліку галасоў». І ў тым самым артыкуле: «...пра гэта тэрмінова паведамляецца вышэйстаячай тэрытарыяльнай выбарчай камісіі або Цэнтральнай камісіі». На самай справе камісіі адмаўляліся прымаць пратаколы аб парушэннях.

Застаецца толькі шкадаваць, што сёння «адзінай крыніцай дзяржаўнай улады і носьбітам суверэнітэту ў Рэспубліцы Беларусь» з'яўляецца не народ, як тое абвяшчае Канстытуцыя (няхай і 1996 года), а «дзяржаўныя органы», умяшанне якіх у выбарчы працэс забаронена. Кола замкнулася, і ў гэтым сутнасць палітычнага выбарчага фарса. Гэта рэаліі. Дэмакратыі ўжо не першы раз кінуты выклік. Правілы гульні зразумелыя – і ўжо час рабіць вывады і падняць пальчатку!



# CONTENTS